Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ № 16-17

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва
МЕНСК, Савецкая, 63 тэл.—22412



Два дні — 31 жніўня і 1 верасня — прадаўжаўся арганізаваны журналам «Большэвіцкі друк» і менскім аэраклубам агітаблёт па пытаннях падрыхтоўкі да 3-га ўсебеларускага з'езда рабсялькораў.

На здымках: мітынг каля самалёта ў Смалявічах; уверсе 60-гадовы селькор, калгаснік-ударнік, які ў часе агітаблёту быў прэміраван палётам на самалёце — т. Кішкурно (Смалявічы).



# Новая хваля калгаснага прыліву

**Артыкул сакратара ЦК КП(б)Б тав. Н. Ф. Гікало**



5 верасня Беларусь выканала гадавы план хлебапаставак. Атрымана буйнейшая перамога.

У мінулым годзе, як вядома, БССР толькі 5 студзеня 1934 года скончыла хлебапаставкі, а ў 1932 годзе хлебазагатоўкі ў некатрых адстаючых раёнах, асабліва сярод аднаасобнікаў, зацягнуліся да веснавой сяўбы наступнага года. Рабочы клас, калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі Беларускай рэспублікі, па праву ганарацца тым, што яны за такі кароткі час стварылі рашаючы пералом у сельскай гаспадарцы і выканалі свае абавязацельствы перад дзяржавай **датэрмінова.** Гэта з'яўляецца найбольш яркім пацвярджэннем таго, што сельская гаспадарка Беларусі ўцвярдзілася па шляху магутнага ўздыму і росквіту.

Што забяспечыла нам перамогу?

Перш за ўсё штодзеннае кіраўніцтва і аграмадная дапамога з боку ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша **Сталіна.**

Поспех хлебаздачы тлумачыцца настойлівай і штодзённай работай па арганізацыйна-гаспадарчаму і палітычнаму ўмацаванню калгасаў. Беларуская партарганізацыя падняла мільённыя масы калгаснікаў на ажыццяўленне лозунга таварыша **Сталіна** —зрабіць усе калгасы бальшэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі. Гэты лозунг ужо блізкі цяпер да практычнага ажыццяўлення. Ва многіх калгасах Аршанскага, Рагачоўскага, Бабруйскага, Менскага раёнаў калгаснікі атрымліваюць да 8 кгр. зернавых і да 16 кгр. бульбы на працадзень.

Ва ўсёй сваёй штодзеннай рабоце мы не забывалі пра неабходнасць далейшай барацьбы за кожны процант росту калектывізацыі.

У ходзе выканання хлебапаставак у нас нямала было адстаючых раёнаў, МТС і калгасаў. Усе намаганні мы накіроўваем на тое, каб выраўняць увесь фронт, падцягнуць адстаючыя раёны. З першых-жа дзён загатовак **ЦК КП(б)Б узяў пад асобны нагляд усе адстаючыя раёны.** Нам удалося іх выцягнуць значна ўперад. Больш таго, некатрыя з іх, як Веткаўскі і Бешанковіцкі, зараз займаюць месца на ўсебеларускай «чырвонай дошцы».

Соўгасы Беларусі, не ў прыклад мінулым гадам, не адставалі ад агульнага тэмпа хлебаздачы. Яны 5 верасня выканалі свой план на 104,5 проц.

Характэрнай рысай у барацьбе за своечасовае выкананне хлебапаставак

з'явілася імкненне аднаасобнікаў выканаць чэсна і добрасумленна разам з калгасамі свае абавязацельствы перад дзяржавай. Партарганізацыі прышлося нямала папрацаваць над тым, каб падцягнуць гэты найбольш цяжкі і распылены ўчастак. У рэзультаце энергічнай работы партарганізацый аднаасобнікі к 5 верасня выканалі поўнасцю план хлебапаставак.

Надзвычай важным, бадай адным з рашаючых рычагоў, забяспечваючых выкананне плана хлебапаставак, з'явілася **соцыялістычнае спаборніцтва з Заходняй вобласцю.** Мы здолелі ў спаборніцтва ўключыць усе раёны, сельсоветы, калгасы. Кожную пяцідnеўку праз друк мы паказвалі перадавых і адстаючых. Барацьба за пераходныя сцягі ЦК, СНК, ЦВК і палітсектара Наркамзема Беларусі праводзілася сістэматычна і ўпарта. Трэба сказаць, што калі-б не было шырока разгорнута спаборніцтва ў часе ўборкі і хлебапаставак, мы не мелі-б такіх поспехаў.

Аграмадны пад'ём калгаснікаў, дружная работа на калгасных палях, значнае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, рост матэрыяльнага дабрабыту калгаснікаў — **усё гэта выклікала новую вялікую хвалю прылігу ў калгасы.** У нас цяпер нямала раёнаў, дзе калектывізацыя ахапіла ў асноўным усю масу аднаасобнікаў. За адну дэкаду жніўня ў Чэрвеньскім раёне ўступіла ў калгасы звыш 600 аднаасобнікаў. Тое-ж самае мы назіраем у Барысаўскім, Бярэзінскім, Хойніцкім і іншых раёнах, дзе за жнівень уступіла некалькі тысяч аднаасобнікаў у калгасы. **Новая хваля калгаснага прылігу зараз становіцца агульнарэспубліканскай з'явай.**

Выканаўшы ў цэлым па рэспубліцы дзяржаўны гадавы план, нельга не адзначыць значныя недахопы ў праведзенні гэтай работы. Калі па хлебапастаўках (1 верасня) і па звароту насеннай пазыкі (5 верасня) у нас дзяржаўны план выканан, то гэтага нельга сказаць у адносінах натураплаты МТС, гадавы план якой на 5 верасня выканан толькі на **79** проц. Трэба змагацца за поўнае выкананне плана кожным раёнам, калгасам і аднаасобнікам. А трэба прама сказаць, што пасобныя ноткі самасупакаення сям-там ужо чуюцца. Некаторыя кіраўнікі раёнаў хочуць утаіць свае недахопы за сярэднерэспубліканскімі лічбамі. Гэта не пройдзе, гэтага мы не дапусцім.

Зараз перад намі стаіць надзвычай адказная задача: у тэрмін апрацаваць і здаць лён дзяржаве. Добры ўраджай льну, своечасовы рассціл яго — усё гэта гаворыць пра тое, што гэтыя задачы мы выканаем, калі забяспечым бальшэвіцкае праведзенне ўсіх далейшых працэсаў апрацоўкі льну.

Прадстаіць закупка хлеба — цяжкая і сур'ёзная справа. Тут прадстаіць упартая і энергічная работа. Ніякай самасупакоенасці, ніякага самазадавалення. Калгаснікі, атрымліваючыя шмат хлеба на працадні, зараз ужо прапануюць прадаць лішкі кааперацыі. **Трэба неадкладна пачаць закупкі,** добра падрыхтаваць кааператыўную сетку да выканання гэтай важнейшай задачы. Неабходна памятаць, што хлебазакупкі з'яўляюцца праверкай нашага ўмення арганізоўваць масы на барацьбу за выкананне важнейшых гаспадарчых заданняў.

Такой-жа праверкай для нас з'яўляюцца і завяршэнне на працягу гэтай пяцідnеўкі **азімай сяўбы** і значнае павышэнне тэмпаў пад'ёму **зябліва.**

Праведзімыя ў Беларусі тактычныя вучэнні часцей БВА, удзел у іх наркома абароны тав. **К. Е. Варашылава** ўскалыхнулі шырокія масы. Калгаснікі і аднаасобнікі вітаюць свайго наркома, сваю Чырвоную армію завяршэннем хлебапаставак, азімай сяўбы, здачай льнавалакна і бульбы. Усё гэта лішні раз сведчыць аб мацнеючых сувязях Чырвонай арміі з калгаснікамі, аб шчырай любві і ўвазе к Чырвонай арміі з боку працоўных горада і вёскі.

Комуністычная партыя Беларусі ў часе веснавой сяўбы ўзяла на сябе абавязацельства перад ЦК ВКП(б) пабальшэвіцку змагацца за тое, каб вывесці сельскую гаспадарку на ўзровень перадавых краёў і абласцей. Гэтыя абавязацельствы па некаторых важнейшых элементах работы пацверджаны канкрэтнымі бальшэвіцкімі справамі. Будзем і надалей з такой-жа энергіяй і бальшэвіцкім запалам змагацца за ажыццяўленне рашэнняў XVII партыйнага з'езда і ўказанняў нашага вялікага правадыра таварыша **Сталіна.**

(**„ПРАВДА“**)

Да выхаду 5-тысячнага нумара газеты



ВІЦЕБСКІ ПРОЛЕТАРЫЙ

І. Г. ЖУРАЎЛЁУ

сакратар віцебскага ГК КП(б)Б.

# НЕ СУПАКОЙВАЦЦА НА ДАСЯГНУТЫМ

> **„ВІЦЕБСКАМУ ПРОЛЕТАРЫЮ"**
>
> У ДЗЕНЬ ВЫХАДУ 5-ТЫСЯЧНАГА НУМАРА «БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК» ШЛЕ РЭДАКЦЫІ І ЎСІМ РАБКОРАМ І СЕЛЬКОРАМ «ВІЦЕБСКАГА ПРОЛЕТАРЫЯ» ГАРАЧАЕ БОЛЬШЭВІЦКАЕ ПРЫВІТАННЕ.
>
> ІДЗІЦЕ НАПЕРАД ПА СЛАЎНАМУ ШЛЯХУ ЛЕНІНСКАЙ «ПРАЎДЫ». ЖАДАЕМ НОВЫХ ПОСПЕХАЎ У РАБОЦЕ.
>
> **РЭДАКЦЫЯ ЖУРНАЛА «БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК»**

16 верасня выходзіць **пяцітысячны нумар газеты буйнейшага цэнтра лёгкай індустрыі БССР «Віцебскі пролетарый»**, якая, існуючы ўжо 17 год, з'яўляецца, такім чынам, пасля «Звязды» старэйшай большэвіцкай газеты ў Беларусі.

Віцебская партыйная арганізацыя і найшырэйшыя масы рабочых Віцебска дзень выхаду пяцітысячнага нумара газеты праводзяць як баявое свята ўсёй пролетарскай грамадскасці і адзначаць гэта свята як выкананнем і перавыкананнем васьмімесячнага промфінплана прамысловасці Віцебска, так і мабілізацыяй усіх сіл на поўнае перамаганне ўсё яшчэ маючагася адставання на радзе ўчасткаў сельскай гаспадаркі.

Газета «Віцебскі пролетарый» — орган гарадскога камітэта партыі — здолела заваяваць вялікі аўтарытэт і папулярнасць не толькі ў партыйнай арганізацыі, але і сярод самых шырокіх мас рабочых і калгаснікаў Віцебскага раёна, дзякуючы таму, што газета кожным сваім радком на справе энергічна, ініцыятыўна і паслядоўна змагаецца за выкананне рашэнняў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб віцебскай партыйнай арганізацыі.

І зусім невыпадкова віцебскі гарком партыі прадаставіў рэдакцыі газеты «Віцебскі пролетарый» права подпісу рапарта ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб выкананні промфінплана прамысловасцю Віцебска, зусім невыпадкова **«Віцебскі пролетарый» з'яўляецца трэцяй газетай у Савецкім Саюзе, узнагароджанай значком «ЗОТ».**

І гэтае права на подпіс рапарта і гэта ўзнагарода заваяваны газетай той настойлівай і, падкрэсліваем, паслядоўнай работай, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам гаркома партыі рэдакцыяй газеты па штодзеннаму ажыццяўленню спаборніцтва прадпрыемстваў Віцебска і па разгортванню найшырэйшага зотаўскага руху (на старонках газеты сістэматычна даецца штодэкадная ацэнка работы кожнага прадпрыемства ў паасобку, глыбока паказваецца вопыт работы перадавых прадпрыемстваў, вядзецца ўпартая барацьба за ўкараненне на ўсіх прадпрыемствах тэхпромфінплана, была арганізавана і праведзена з вялікім дзелавым эфектам усесаюзная завочная пераклічка спажыўцоў віцебскага абутку і віцебскіх іголак, праведзена завочная канферэнцыя зотаўцаў з удзелам Нікіты Ізотава, сістэматычна ставяцца пытанні работы саматужных арцелей, рэалізавана ініцыятыва газеты

аб правядзенні агульнагарадскога агляду работы тэхнічных гурткоў і т. д.).

Сур'ёзнай і аўтарытэтнай ацэнкай работы газеты на ўчастку прамысловасці з'яўляецца наступная вытрымка з спецыяльна выданага па Народнаму камісарыяту лёгкай прамысловасці БССР загада наркома тав. **Балціна:**

«Народны камісарыят лёгкай прамысловасці адзначае заслугоўваючую самага шырокага распаўсюджання каштоўную ініцыятыву газеты «Віцебскі пролетарый» па арганізацыі і правядзенню на старонках газеты ўсесаюзнай завочнай пераклічкі спажыўцоў абутку фабрыкі імя Лекерта, у якой прынялі ўдзел рабочыя, калгаснікі, інжынерна-тэхнічныя работнікі, работнікі каапераціі і работнікі друку раду гарадоў Совецкага Саюза, а таксама выязная рэдакцыя «Віцебскага пролетарыя», якая знаходзілася ў Горкаўскім краі.

Пытанне аб важнасці выпуску высокаякаснага, моцнага, прыгожага і таннага абутку, паднятае газетай «Віцебскі пролетарый» на прынцыповую вышыню барацьбы за выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і ўказанняў таварыша **Сталіна,** рашэнняў XV з'езда КП(б)Б і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце лёгкай прамысловасці, на вышыню неабходнасці выканання віцебскімі рабочымі свайго інтэрнацыянальнага пролетарскага доўгу перад шахцёрамі Данбаса, рабочымі аўтамабільнага завода імя Горкага, прадпрыемствамі г. Бранска, якія забяспечваюцца віцебскім абуткам — выклікала вялікую колькасць каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў і ўздым вытворчай актыўнасці рабочых фабрыкі імя Лекерта.

У выніку разгорнутай на фабрыцы масавай работы ў сувязі з усесаюзнай пераклічкай спажыўцоў, а таксама абнаўлення гаспадарчага кіраўніцтва, фабрыка імя Лекерта, прызначаная паводле загада Наркамлегпрома к закрыццю за невыкананне плана і дрэнную якасць выпускаемай прадукцыі, дабілася выканання промфінплана за першы квартал 1934 г.

Калі за пяцідзеўку да апублікавання ў газеце матэрыяла «Аб пары абутку № 721» фабрыка давала абутку першага гатунку 65,7 проц., то на наступную пяцідзеўку пасля апублікавання і правапрацоўкі матэрыяла газеты гэты процант павялічыўся да 75,2, а пасля праведзенай усесаюзнай пераклічкі спажыўцоў фабрыка выконвае звыш 100 проц. промфінплана, выпуск прадукцыі першага гатунку даведзен да 87,7 проц. (з загада Наркомлегпрома БССР).

Значныя зрухі дасягнуты новым кіраўніцтвам рэдакцыі «Віцебскага пролетарыя» і ў галіне пастаноўкі на старонках газеты пытанняў сельскай гаспадаркі.

Сістэматычнае асвятленне на старонках газеты ходу спаборніцтва сельсаветаў і калгасаў як у часе веснавой сяўбы, так і ўборкі, а таксама і хлебанарыхтавак, не ў малой ступені спрыяла поспеху гэтых работ у радзе сельсаветаў і калгасаў. Напярэдадні сяўбы газета правяла ў выглядзе спецыяльных старонак агляд падрыхтаванасці да сяўбы 8-мі сельсаветаў, што ў немалой ступені дапамагло выкрыць недахопы загадзя, да пачатку сяўбы.

**Вырасла колькасць брыгадных і калгасных насценгазет, значна вырасла колькасць актывістаў, селькораў,** сярод якіх мы маем такіх людзей, як **Петрачэнка Ц.** з калгаса «Трэці рашаючы», выкрыўшы шкодніцтва ў калгасе, злачынствы старшыні Крэйта, знятага потым з работы, **Лахно,** па заметках якога было знята ўсё праўленне калгаса «Другая пяцігодка», Старасельскага сельсовета. Двое з членаў праўлення на чале з старшынёй Глушаковым за развбурэнне калгаса атрымалі па сігналах селькора па дзесяць год пазбаўлення волі. Выхаваліся такія селькоры як тав. **Калінаў** з Замастоцкага сельсовета, які дапамог згуртаваць вакол рэдакцыі моцны актыў селькораў з калгасаў Замастоцкага сельсовета. Колькасць селькораў, якія сістэматычна пішуць у газету і выконваюць аператыўныя даручэнні рэдакцыі, складае зараз каля 250 чалавек.

Варта адзначыць і такія каштоўныя мерапрыемствы, як **арганізацыя пры дапамозе рэдакцыі хаты-лабараторыі пры калгасе «Чырвоная армія», Ялагінскага сельсовета, і пры калгасе «Замасточча», Замастоцкага сельсовета.**

У галіне жывёлагадоўлі праведзен рад мерапрыемстваў, сярод якіх найбольш каштоўнымі з'яўляюцца паказы работы

фермы «Пролетарская перамога», Бабіцкага сельсовета, якая не мела ніводнага выпадку падзяжу маладняка, паказ работы пастуха **Свіркунова** з калгаса «Іскра», Бараўлянскага сельсовета, вопыт пачного пасьбішча жывёлы ў калгасе «Барэц», Нікалаеўскага сельсовета і інш.

Газета «Віцебскі пролетарый» з'яўляецца астрэйшай зброяй у руках партыйнай арганізацыі ў барацьбе за генеральную лінію партыі, супроць правых апартуністаў, «лявацкіх» загібшчыкаў і прымірэнцаў, за ленінскую нацыянальную палітыку, у барацьбе за смелае разгортванне большэвіцкай самакрытыкі і забеспячэнне яе дзейнасці (па сігналах газеты было выкрыта нацдэмаўскае гняздо ў ветінстытуце, выкрыты агенты контррэволюцыйнага трацкізма Янавіцкі, Кунцэвіч, было зменена кіраўніцтва горпрофсовета, аднаўлена кіраўніцтва раду аддзелаў горсовета, зняты тыкутнік шчотачнага камбіната, ЦРК, пажарнай каманды і т. д.).

Рост газеты, яе дасягненні з'яўляюцца неадлучнай часткай дасягненняў усёй віцебскай партыйнай арганізацыі ў цэлым, з'яўляюцца вынікам той выключна вялікай штодзеннай увагі, якая ўдзяляецца гаркомам газеце.

Разам з тым трэба сёння, у дзень выхаду пяцітысячнага нумара газеты з усёй астратой сказаць і аб тых недахопах у рабоце газеты, якія новым кіраўніцтвам рэдакцыі яшчэ поўнасцю не пераможаны і на якія своечасова і правільна было ўказана ў аглядах газеты «Звязда» (недастаткова глыбокая пастаноўка асобных пытанняў сельскай гаспадаркі, незабеспячэнне штодзеннай увагі пытанням перабудовы партыйнай работы ў вёсцы, сказненне з выкрыццём «очковтирательства» дырэктара МТС Галавёнка).

Газета пры актыўным і самым непасрэдным удзеле ўсіх партыйных арганізацый павінна абавязкова і грунтоўна замацаваць дасягнутыя першыя, але ўсё яшчэ зусім недастатковыя зрухі ў рабоце па кіраўніцтву рабсялькораўскім рухам і нізавым друкам (праведзены двухразовыя курсы селькораў з агульнай колькасцю курсантаў у 200 чалавек, праведзены агульна-гарадскія курсы арганізатараў рабкораў, былі арганізаваны семінары на радзе прадпрыемстваў, створан пры рэдакцыі спецыяльны панкой рабкора, на прадпрыемствы накіраваны 18 брыгад у дапамогу па разгортванню падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў і т. д.).

У сваёй далейшай рабоце газета «Віцебскі пролетарый», як баявы орган гарадскога камітэта партыі, павінна і надалей высока несці сцяг барацьбы за генеральную лінію партыі Леніна-Сталіна, за выкананне гістарычных рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), задач, пастаўленых правадыром партыі тав. **Сталіным**.



Праект Вялікага Дзяржаўнага тэатра ў Менску. У авале аўтар праекта архітэктар Лангбард



# Намеснік рэдагуе...

## Калгаснік Петрыкаўшчыны

Надыходзіла восень. Перадавыя калгасы завяршалі хлебапастаўкі і сяўбу азімых.

Тав. **Сафонаў** рашыў не адставаць ад жыцця... У адным з чарговых нумароў рэдагуемай ім газеты **«Калгаснік Петрыкоўшчыны»** з'явіўся лозунг:

**«УДАРНЫМ ПРАВЯДЗЕННЕМ ПРАПОЛАЧНЫХ РАБОТ ЗАБЯСПЕЧЫМ ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ»!**

Што за недарэчнасць? У дні ўборкі, хлебапаставак і азімай сяўбы тав. Сафонаў заклікае разгарнуць праполку?!..

Тав. Сафонаў мае поўнае права абурацца і рашуча пратэставаць. Увесь інцыдэнт выдуман. Тав. Сафонаву проста прыпісалі яўна недарэчную справу. Адным словам — недапушчальны паклёп.

Прызнаемся, вінаваты. Гэта мы выдумалі, нібы тав. Сафонаў у перыяд хлебапаставак раптоўна ўспомніў аб прапалачных работах. Гэтага ён асабіста яшчэ не рабіў.

Але навошта тут слова «яшчэ»? Хіба ёсць якія-небудзь падставы чакаць, што тав. Сафонаў можа зрабіць аналагічную справу?

Ёсць. Спашлемся на камплект «Калгасніка Петрыкоўшчыны».

З 4 жніўня праводзіўся месячнік абмену вопытам работы калгасных і брыгадных парторгаў. У месячнік уключыліся раённыя і палітаддзельскія газеты.

«Калгаснік Петрыкоўшчыны» па ініцыятыве і непасрэднаму рашэнню тав. Сафонава зрабіў для сябе выключэнне. Ён проста замаўчаў гэту вялікай важнасці справу. Выходзіў нумар за нумарам, а пра месячнік — ні слова.

І толькі перад самым скančэннем месячніка «Калгаснік Петрыкоўшчыны», нарэшце, заварушыўся. 27 жніўня рэдакцыя выступіла з заявай, што яна пачынае абмен вопытам калгасных і брыгадных парторгаў. Амаль месяц, як бачыце, тав. Сафонаў усё думаў, гадаў пачынаць ці не пачынаць, ісці ў нагу з жыццём ці не ісці...

Выступіўшы з абяцаннем арганізаваць абмен вопытам работы калгасных і брыгадных парторгаў, «Калгаснік Петрыкоўшчыны» на другі-ж дзень забыў пра сваё ўласнае слова. Ніякіх матэрыялаў па гэтай справе газета больш не змяшчае.

Спачатку 27 дзён спалі, потым усхамянуліся, далі слова арганізаваць масавы абмен вопытам, а ў выніку толькі пусцілі пыл у вочы.

Яшчэ адзін красамоўны факт.

Два тыдні ў Маскве працаваў першы ўсесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў.

Уся краіна, мільёны з неаслабнай **увагай** сачылі за работай з'езда.

Тав. Сафонаў трымаўся асобай думкі. Ён палічыў, што першы з'езд совецкіх пісьменнікаў не такая ўжо выдатная падзея, каб аб ёй гаварыць на старонках «Калгасніка Петрыкоўшчыны».

Зноў выходзіў нумар за нумарам, але паслядоўны рэдактар не даў ні радка нават пра адкрыццё з'езда, не гаворачы ўжо аб асвятленні з'ездаўскай работы.

Не заўважыў з'езда тав. Сафонаў са сваёй петрыкоўскай званіцы...

Яшчэ раз прызнаемся: мы паспяшылі, заяўляючы, што тав. Сафонаў нічога не бачыць далей петрыкоўскіх ваколіц. Мы проста забылі, што кіраўнік «Калгасніка Петрыкоўшчыны» цвёрда рашыў быць падобным да ўліты і таму цягнецца ў хвасце падзей.

Пра з'езд пісьменнікаў тав. Сафонаў успомніў **толькі тады, калі ён ужо закрыўся** і дэлегаты раз'ехаліся. **Першага верасня** ў газеце з'яўляецца лозунг: «Усесаюзнаму з'езду совецкіх пісьменнікаў — гарачае бальшэвіцкае прывітанне!» Далей (і гэта толькі 1 верасня) газета паведамляе, што ў Маскве ад-

крыўся Ўсесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў і перадаецца ўступнае слова тав. А. М. Горкага. Апамяталіся, адным словам, праз два тыдні...

Пасля гэтых фактаў хіба нельга чакаць ад тав. Сафонава, што ён у адзін прыгожы зімовы дзень раптам пачне заклікаць разгарнуць жніво.

Усяго можна чакаць, да ўсяго трэба падрыхтавацца, калі чалавек не адчувае ніякай адказнасці за даручаную яму адказную справу.

Тады, напрыклад, ён можа здзіўляць чытача наступнымі «шапкамі».

**(АД 29 ДА 42,7).**

Гэтыя дужкі, словы, лічбы і кропкі змешчаны ў якасці «шапкі» над аддзелам аб новым калгасным прыліве («Калгаснік Петрыкоўшчыны» за 1 верасня).

У некалькіх заметках, якія складаюць гэты аддзел, гаворыцца аб тым, што ў асобныя калгасы Петрыкоўшчыны ўступілі новыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі.

Што-ж азначаюць дужкі, словы, лічбы і кропкі, якія фігуруюць у газеце ў якасці «шапкі». У саміх заметках аб гэтым нічога не гаворыцца. І можна толькі здагадацца, што гутарка ідзе, як відаць, аб процантах калектывізацыі ў Петрыкоўскім раёне.

Калі чытаем «Калгаснік Петрыкоўшчыны», мімаволі здзіўляешся яго выключна адміністратарскаму тону. Усе загалоўкі, «шапкі» і аншлагі, як правіла, палаюцца ў духу безапеляцыйнага загаду. Калі вокрык не дапамагае, энергічны тав. Сафонаў бярэцца за больш эфектыўныя сродкі ўздзеяння.

У сувязі з прызывам у Чырвоную армію т. Сафонаў рашыў дабіцца, каб усе прызыўнікі з Петрыкоўшчыны падпісаліся на пазыку 2-й пяцігодкі.

І вось на старонках «Калгасніка Петрыкоўшчыны» з'яўляюцца адначасова і «ганебны спіс» і «чорная дошка». На фоне «чорнай дошкі» рысунак: нейкі п'янаваты чалавек, побач — боты і чайнік.

У гэты «ганебны спіс» і на гэту «чорную дошку» тав. Сафонаў з энтузіязмам заносіць усіх прызыўнікоў, якія яшчэ не падпісаліся на пазыку.

Тав. Сафонаў падпісвае «Калгаснік Петрыкоўшчыны» у якасці намесніка адказнага рэдактара. Чалавек, як відаць, вельмі рад, што яму неабдумана і безадказна даверылі газету. Ёсць прычамсі дзе праяўляць і свой бурны адміністратарскі запал, і свае сур'ёзныя здольнасці да халтуры.

# ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ У КОЖНЫМ КАЛГАСЕ СЫТУЮ І ЦЁПЛУЮ ЗІМОЎКУ ЖЫВЁЛЕ

**ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ**

Орган Буда-Кашалеўскага РК КП(б)Б

Ёсць газеты, якія на ўсё лады гавораць аб тым, што жывёлагадоўлю трэба ўзняць, палепшыць догляд і т. д. Яны даюць грамавыя «шапкі», лозунгі, цытаты з афіцыяльных пастаноў, але на справе **вельмі дрэнна змагаюцца за рэалізацыю гэтых лозунгаў і пастаноў** у соўгасах і калгасах. Часта рэдакцыю падводзіць няведанне справы, няўменне, знаходзіць тыя важнейшыя звенні, якія абумоўліваюць поспех работы калгасных ферм.

Да ліку такіх газет трэба аднесці **буда-кашалеўскую** раённую газету **«Ленінскі шлях».**

За жнівень і пачатак верасня газета некалькі раз змяшчала матэрыялы аб рабоце таварных ферм у калгасах. У большасці гэта матэрыялы селькораў, выкрываючыя розныя агіднасці на некаторых фермах, факты дрэннага догляду жывёлы.

Такога-ж зместу матэрыялы аб жывёлагадоўлі газета «Ленінскі шлях» друкуе ад выпадку да выпадку цэлы год.

Ніхто не сумняваецца ў карысці гэтых матэрыялаў: выкрываючы шкоднікаў і нядбайнікаў, якія пралазяць на калгасныя фермы, газета робіць **патрэбную, большэвіцкую справу.** Трэба толькі **дабіцца, каб кожны факт быў свое-**

часова расследаван і каб па ім прымалі патрэбныя меры (чаго якраз і няма ў буда-кашалеўскай газеце).

Але трэба таксама паказваць, як працаваць, як арганізоўваць работу на ферме.

З гэтай сваёй задачай газета «Ленінскі шлях» не спраўляецца.

Возьмем для прыкладу **індывідуальную здзельшчыну.** Індывідуальная здзельшчына, аснаваная на заахвочванні лепшых сумленных работнікаў, рашае справу гаспадарчага ўмацавання ферм. «Ленінскі шлях» аднак, зусім не займаецца пытаннямі здзельшчыны на таварных фермах.

10 жніўня ў газеце былі змешчаны чатыры артыкулы аб рабоце ферм. У адным з іх паказваецца работа ўзорнай фермы калгаса **«Ураджай»**. Артыкул пералічвае дасягненні фермы, але не паказвае **ЯК** дабілася іх, не паказвае **ВОПЫТУ УКАРАНЕННЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ ЗДЗЕЛЬШЧЫНЫ НА ФЕРМЕ.** Тое самае і ў астатніх артыкулах: тое добра, гэта дрэнна—і кропка. Адным словам — бесстаронняя рэгістрацыя.

Недахоп газеты ў тым, што яна не вывучае работы ферм і таму толькі павярхоўна фіксуе факты.

Чаму-б, напрыклад, не выбраць адну добрую таварную ферму, глыбока азнаёміцца з яе работай і апісаць вопыт ва ўсіх дэталях. Але такія матэрыялы нельга рыхтаваць наскокам. Работнік рэдакцыі павінен пабываць на ферме некалькі дзён, добра вывучаць працэсы работы фермы, пакапацца ў нормах аплаты працы. Тады матэрыял будзе поўнацэнны і **будзе вучыць, як працаваць.**

Ці можна гэта зрабіць ва ўмовах раённай газеты? Можна і неабходна. Для гэтага трэба, каб работнікі газеты самі добра **вывучылі хаця-бы асновы тэхнікі жывёлагадоўлі, парадак аплаты працы на ферме** і т. д.

Другім буйнейшым недахопам буда-кашалеўскай газеты з'яўляецца тое, што яна не вядзе ніякай барацьбы за **падрыхтоўку калгасных ферм да зімы.**

Рэдакцыя, відаць адклала гэту справу на час, калі пачнуцца замарозкі. Дзесяткі заметак друкуе газета пра розныя недахопы на фермах, але не заўважае аднаго буйнейшага недахопу: фермы **не рыхтуюцца да зімы.**

Работнікі рэдакцыі буда-кашалеўскай газеты, як відаць разважаюць так: «чаго спяшацца з падрыхтоўкай да зімы, калі такое добрае надвор'е, паспеем яшчэ».

Падрыхтоўка ферм да зімы заключаецца не толькі ў тым, каб уцяпліць кароўнікі і свінарнікі. **Трэба скончыць будаўніцтва новых памяшканняў ферм, забяспечыць стада патрэбнай колькасцю кармоў, выканаць план сіласавання.**

Усе гэтыя важнейшыя зараз пытанні таксама не знаходзяць сабе месца на старонках газеты «Ленінскі шлях».

Нельга прызнаць вялікай заслугай газеты змяшчэнне заметак пра сіласаванне толькі з двух-трох калгасаў у той час, калі **БОЛЬШАСЦЬ** калгасаў раёна плана сіласавання яшчэ **НЕ ВЫКАНАЛІ.** Ясна, тут нельга абмяжоўвацца адзінкавымі сігналамі, як гэта робіць газета «Ленінскі шлях»; патрэбна **сістэматычная ўпартая барацьба да поўнага выканання плана кожным калгасам.**



НА ПАСЬБІШЧЫ. (Соўгас «Выява леніна», Смалявіцкага раёна).

# НІБЫ У РОТ ВАДЫ НАБРАЎШЫ

«УДАРНІК» — ГАЗЕТА ПАЛІТАДДЗЕЛА ЖЛОБІНСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ЭКСПЛААТАЦЫІ

Аздараўленне паравознага парка з'яўляецца важнейшым звяном падрыхтоўкі да асенне-зімовых перавозак. Зусім ясна, што несвоечасовы і нізкаякасны рамонт паравозаў, а таксама дрэнная работа паравозвай брыгады зрываюць рух паяздоў, выкананне плана перавозак.

Абвешчанае ўсесаюзнае спаборніцтва паравозных брыгад і дэпо мае выключна важнае значэнне. Яно павінна забяспечыць поўную баявую гатоўнасць паравознага парку да зімы.

Гэтага яшчэ не зразумела жлобінская газета **«Ударнік»**. Інакш чым вытлумачыць, што яна фактычна зусім не аддае ўвагі гэтаму важнейшаму пытанню. За ўвесь час спаборніцтва «Ударнік» змясціў не больш пяці карэспандэнцый з дэпо.

Усесаюзнае спаборніцтва пачалося з 1 жніўня. Задача газеты заключалася ў тым, каб з першага дня ўзяцца за дзелавую, канкрэтную работу па спаборніцтву, каб шляхам масава-арганізацыйнай работы ўцягнуць **усіх** паравознікаў і рамонтнікаў у гэта спаборніцтва, устанавіўшы штодзенную праверку выканання ўзятых абавязацельстваў.

Асноўнае адрозненне цяперашняга ўсесаюзнага спаборніцтва ад мінулых конкурсаў паравознікаў заключаецца ў тым, што зараз у спаборніцтве прымаюць удзел **усе** паравознікі і рамонтнікі, незалежна ад узроўню сваіх паказальнікаў, а для ўдзелу ў конкурсах павінны вылучацца толькі **лепшыя** паравозныя брыгады.

Гэтай розніцы не ўясніла сабе газета «Ударнік». Яна і дагэтуль блытае, называючы спаборніцтва конкурсам.

28 ліпеня, змяшчаючы заметку сваёй брыгады аб пяці паравозах, уступаючых у спаборніцтва, газета пісала: «У такім становішчы падыходзіць **да старту конкурса** 5 паравозаў дэпо Жлобін»

«Ударнік», такім чынам, папулярызаваў не спаборніцтва, а конкурс з усімі яго атрыбутамі — стартам, істужкай і аркестрам. Словам, усім тым, што выклікае ўрачыстую шуміху без кроплі дзелавой падрыхтоўкі.

Аб «дастойнай сустрэчы старта конкурса» газета пісала яшчэ некалькі раз і ні словам не абмовілася аб **канкрэтных задачах спаборніцтва.**

Прайшло 20 дзён ад пачатку ўсесаюзнага спаборніцтва. Газета маўчала. Яна ні слова не змясціла аб тым, як разгортваецца спаборніцтва. Толькі 20 жніўня з'явіўся першы матэрыял, які паказваў, што спаборніцтва ў дэпо фактычна няма.

Вось што пісала газета «Ўдарнік» пра жлобінскае паравознае дэпо:

**«60 ЧАЛАВЕК ЗУСІМ НЕ ЎКЛЮЧЫЛІСЯ Ў СПАБОРНІЦТВА, СЯРОД ІХ 10 КОМУНІСТАЎ І 15 КОМСАМОЛЬЦАЎ».**

Далей газета канстатуе, што

**«... СПАБОРНІЦТВА Ў ДЭПО ПАДМЯНІЛІ ШУМІХАЙ. ПРОФУПАЎНАВАЖАНЫ ПАРАВОЗНЫХ БРЫГАД ТАВ. КРУМ НЕ ВЯДЗЕ МАСАВА-ВЫХАВАЎЧАЙ РАБОТЫ СЯРОД БРЫГАД і Т. Д.».**

Рэдакцыя пры гэтым зусім абыходзіць сваю віну ў гэтым. А віна газеты вялікая. Па-першае, папулярызуючы конкурс са стартам, газета дэзарыентавала масы паравознікаў і рамонтнікаў у пытанні, хто мае права на ўдзел у спаборніцтве.

Па-другое, самой папулярызацыяй стартаў газета штурхнула кіраўніцтва дэпо не на дзелавую работу, а на паказную шуміху. Раз старт, значыць урачыстыя сход, аркестр, істужка і т. д. Патрэцяе, пакольні гэта шуміха прадаўжаецца на вачах у рэдакцыі, няўжо трэба было чакаць 20 дзён, каб выступіць, урэшце, аб гэтым на старонках газеты.

Але які-ж вывад робіць газета па фактах, якія ёй наведамляюцца, чаго яна патрабуе?

«Задача трыкутніка дэпо і лепшых ударнікаў — разгарнуць работу так, каб на працягу бліжэйшых дзён ахапіць спаборніцтвам усе паравозныя брыгады, зламаць сабатаж з боку асобных комуністаў, якія не хочуць спаборнічаць, прадаўжаюць працаваць дрэнна».

«...Асобныя камуністы сабатуюць спаборніцтва, а газета толькі асцярожна заключае, што «задача трыкутніка і ўдарнікаў (?) зламаць гэты сабатаж».

Змясціўшы гэту заметку, на заўтра-ж газета забыла аб ёй і больш да гэтага пытання не варочалася.

Праз 9 дзён — 29 жніўня газета выпадкова ўспомніла, што праходзіць усесаюзнае спаборніцтва паравознікаў і зноў канстатуе трывожнае становішча ўжо ў **Магілеўскім** дэпо.

**«У ДЭПО ЯШЧЭ НЕ РАЗГОРНУТА СПАБОРНІЦТВА (і гэта пасля месяца з дня абвяшчэння спаборніцтва. — Рэд.), НЕ АРГАНІЗАВАНА ПЕРАДАЧА ВОПЫТА ПЕРАДАВІКОЎ АДСТАЮЧЫМ».**

Але што-ж зрабіла газета, каб гэта папярэдзіць, чаму яна маўчала на працягу цэлага месяца і чаму, урэшце, павучаючы іншых, газета сама не арганізуе абмен вопытам перадавікоў? А гэта-ж яе важнейшая задача.

Праўда, 1 верасня ў сувязі з Міжнародным юнацкім днём «Ударнік» у пісьме камсамольцаў і моладзі дэпо Жлобін да ўсіх камсамольцаў і моладзі цягі прабуе паказаць вопыт двух камсамольцаў, але да таго няўдала, што фактычна ніякага паказу вопыта і не было.

У пісьме, якое, да рэчы, заняло цэлую старонку, высоўваўся рад задач па паляпшэнню работы камсамольцаў і моладзі цягі. Але лёс гэтых добрых пажаданняў дагэтуль невядомы, бо газета больш аб гэтым не ўспаміналася. З 1-га верасня на старонках газеты наогул не з'яўлялася больш ніводнай заметкі пра ход спаборніцтва дэпо і паравозных брыгад.

Між тым становішча з рамонтам паравозаў і работа саміх паравозных брыгад далёка не бліскучае. Магілеўскае дэпо, напрыклад, з'яўляецца самым адстаючым на Заходняй дарозе. Газета-ж маўчыць, у яе, відаць, гэтыя пытанні не вызначаны планам.

Факты абвінавачваюць кіраўніцтва газеты «Ударнік» у недаацэнцы ўсесаюзнага спаборніцтва паравозных брыгад і дэпо.

*ПА СЛЯДАХ НАШЫХ АГЛЯДАЎ*

# Суражская ідылія

Рэдактар падпісаў чарговы нумар газеты. Нумар вышаў. Дата — 7 верасня 1934 года.

Гутарка ідзе аб суражскай раённай газеце **«Ударнік»** і яе адказным рэдактары тав. **Баранаве.**

Якія-ж матэрыялы змешчаны ў гэтым нумары? Аб хлебапастаўках? Аб сяўбе азімых?

Сураж за зрыў хлебапаставак і сяўбы занесен на чорную дошку. Зводка НКЗ БССР паказвае, што Суражскі раён па-ранейшаму злачынна адстае. Нават на 10 верасня раён не выканаў планаў ні па хлебапастаўках, ні па сяўбе.

Уважліва праглядаем увесь нумар. Аб ходзе сяўбы — ні радка. Літаральна ні слова. Тав. Баранаў утаіў, што раён занесен на чорную дошку, што раён сарваў заданне скончыць сяўбу да 5 верасня.

Будзем называць рэчы сваімі імёнамі. **Рэдактар газеты «Ударнік» старанна** пакрываў сабатажнікаў сяўбы. Аб гэтым красамоўна сведчыць камплект газеты «Ударнік».

З першых дзён сяўбы азімых і далей газета ўвесь час маўчала. Маўчала да 5 верасня, калі мінуў урадавы тэрмін завяршэння сяўбы. Маўчала і пасля 5 верасня, калі трэба было напружыць усе сілы, каб пакончыць з адставаннем і дабіцца найхутчэйшага і поўнага выканання пасеўнага плана.

У жніўні, праўда, «Ударнік» тое-сёе пісаў аб ходзе сяўбы па раёну. Газета, у прыватнасці, акуратна паведамляла якія калгасы выканалі пасеўныя планы. Але за поспехамі асобных калгасаў т. Баранаў не заўважыў, што ў цэлым раён недапушчальна адстаў.

У верасні-ж газета наогул замаўчала, нібы ў рот вады набраўшы.

Бярэм нумар «Ударніка» за 1 верасня. Раён на чорнай дошцы. Сяўба зацягваецца. А ў нумары — магільная

цішыня. Ні аднаго радка аб ходзе сяўбы.

Чарговы нумар выходзіць 5 верасня. У раёне ўсё па-ранейшаму. У газеце—таксама. Такая мілая прывабная ідылія...

На апошняй старонцы, праўда, змяшчаюцца дзве невялічкія заметкі аб тым, што асобныя калгасы ігнаруюць радковую сяўбу. Але гэта зусім не мяняе агульнай карціны. Тав. Баранаў упарта замоўчвае, што ў раёне зрываецца сяўба азімых.

І, нарэшце, нумар за 7 верасня. Маўчанне не парушаецца. Аб сяўбе тав. Баранаў нават не ўспомніў.

На 10 верасня Суражскі раён засеяў толькі 9.626 гектараў, што складае ўсяго 91,2 проц. плана.

Але вось чарговы нумар газеты «Ударнік» за 11 верасня. Тое-ж самае, што і ў папярэдніх нумарах. Хоцьбы слова аб выкананні пасеўнага плана. Рэдкая паслядоўнасць...

Як відаць, рэдактару газеты «Ударнік» даражэй за ўсё гонар мундзіра. Няхай зрываецца сяўба, няхай раён злачынна адстае па ўсіх сельска-гаспадарчых работах — рэдактар не адкрывае рта, рэдактар умывае рукі.

Пад яго рэдактарскай рукой газета выходзіць прыгладжанай і прылізанай, як валасы пасля шчодрага ўжывання вазеліну.

Самакрытыку рэдактар суражскай газеты строга абмежаваў. Крытыкаваць на старонках газеты «Ударнік» дазваляецца толькі калгасы і сельсоветы. Далей ні за што.

Тав. Баранаў праяўляе ў адносінах раённых арганізацый выключную далікатнасць. Ён проста не дапускае ў газету ні слова аб рабоце раённых арганізацый, хоць ясна, што імена яны перш за ўсё вінаваты і нясуць адказ за адставанне раёна па ўсіх гаспадарча-палітычных кампаніях.

Часамі тав. Баранаў пакідае рэдакцыю і едзе непасрэдна ў сельсоветы і калгасы. Пахвальная справа. Што-ж выходзіць з такіх пачынанняў рэдактара? Аб гэтым красамоўна расказвае артыкул «Дні штурмавой трывогі па завяршэнню зернапаставак» («Ударнік» за 1 верасня). Артыкул прысвечан вынікам паездкі тав. Баранава ў Полаўскі сельсовет, як найбольш адстаючы па хлебапастаўках.

Тав. Баранаў апісвае нараду актыва пры сельсовеце разам з усімі партыйцамі, комсамольцамі і селькорамі і што гэта нарада пастанавіла ў адказ на яго прамову.

«31 жніўня і 1 верасня абяўлены штурмавымі днямі па завяршэнню зернапаставак, здачы ільнасемя, рассцілу ільну. Вылучаны буксірныя брыгады з актыва перадавых калгасаў «Памяць Леніна», «Шлях Леніна» і «Другая пяцігодка» ў адстаючыя калгасы і на ўчасткі. Адначасова з гэтым для ажыўлення работы нізавога друку ў калгасах і праверкі рэагавання на змяшчаемыя матэрыялы ў насценгазетах і раённай газеце створаны дзве брыгады...

Нарада ўключылася ў падрыхтоўку да Ўсебеларускага з'езда рабселькораў, узяла рад канкрэтных абавязацельстваў і запэўніла раённае кіраўніцтва, што Полаўскі сельсовет будзе выведзен у перадавыя рады сельсоветаў раёна на працягу бліжэйшых дзён».

Вось што было зроблена пасля таго, як нарада абмеркавала «інфармацыю рэдактара раённай газеты тав. Баранава».

Але «бліжэйшыя дні» мінаюць. Якія-ж вынікі? 5 верасня на старонках газеты «Ударнік» з'яўляецца артыкул аб Полаўскім сельсовеце. У артыкуле — ні слова аб тым, што пісалася пра гэты сельсовет у папярэднім нумары «Ударніка» за 1 верасня. Рэдакцыя толькі жорстка крытыкуе сельсовет за адставанне. А яшчэ праз 6 дзён — 11 верасня — гэты самы Полаўскі сельсовет заносіцца на чорную дошку.

Паехаў гастралёр у сельсовет. Падняў там вэрхал. Потым змайстраваў прыгожую дэкларацыю, распісаў у газеце і... сціх. Калі-ж стала ясным, што ад рэдактарскай балбатні — нуль карысці, сельсовет заносіцца на чорную дошку.

Такім стылем працуе тав. Баранаў. Там, дзе трэба бязлітасна выкрываць сабатажнікаў, дабівацца ліквідацыі ганебнейшага адставання, якое ўвесь час прадаўжаецца ў раёне, рэдактар маўчыць, робіць выгляд, што ён нічога не бачыць, нічога не заўважвае.

Там, дзе трэба правесці арганізатарскую масавую работу, канкрэтна, на справе, дапамагчы сельсоветам і калгасам — рэдактар займаецца алілуйшчынай, балбатнёй гастралёрствам.

У 14-м нумары журнала «Бальшавіцкі друк» мы ўжо ўказвалі тав. Баранаву на яго памылкі (агляд «Неапраўданая назва»).

Мы ўказвалі, што газета «Ударнік» зусім не змагаецца за тое, каб зняць Суражскі раён з чорнай дошкі, што газета зусім не апраўдвае сваёй назвы. З таго дня прайшло даволі часу. Тав. Баранаў не захацеў зрабіць для сябе ніякіх вывадаў. Газета яшчэ больш нагоршыла сваю работу.

Суражская ідылія прадаўжаецца. Раён па-ранейшаму недапушчальна адстае, а рэдактар раённай газеты робіць усё, каб замаўчаць сапраўднае становішча ў раёне, каб зажаць самакрытыку ў імя абароны гонару мундзіра.

## ЗАМЕСТ АГЛЯДУ

# У ПАРАДКУ ДНЯ—ЯКАСЦЬ АБУТКУ

У сакратара барысаўскага райкома партыі тав. **Чарнышова** ідзе нарада. Лепшыя шаўцы арцелі імя Лекерта сабраліся ў райком партыі. Абмяркоўваюць пытанні ўсесаюзнага конкурса абутковай прамысловасці — пытанні паляпшэння якасці шыцця і рамонту абутку. Прышоў брыгадзір брыгады шаўцоў на Бярэзінскім камбінаце т.т. **Эпштэйн,** лепшы ўдарнік барацьбы за якасць абутку — т. **Асіповіч,** прышлі члены праўлення арцелі, ўдарнікі-шаўцы.

Перад рабочымі арцелі пастаўлена важная задача: паляпшэннем рамонту і шыцця абутку дапамагчы працоўным горада ў падрыхтоўцы да зімы. За шклянкай чаю, у прысутнасці работнікаў райкома партыі, тав. Эпштэйн пачаў расказваць аб недахопах работы падпарадкаванай яму брыгады шаўцоў Бярэзінскага камбіната. Першыя скаргі, якія чуе брыгадзір ад рабочых камбіната, — зацяжка рамонту абутку. 5 шаўцоў абслугоўваюць 3 тысячы рабочых. З работай не спраўляюцца. А ў дадатак асобныя шаўцы прымаюць заказы дома. Гэта таксама адбіваецца на рабоце арцелі.

Машыніст **Міњкоў паведамляе нарадзе** яркі факт празмерна вялікіх выдаткаў па дастаўку тавараў, што павялічвае сабекошт рамонту. Арцель купіла ў Менску на 100 руб. тавару, а на прывозку яго панялі спецыяльна аўтамабіль, які каштаваў 180 руб. Арцель наняла 2-х рабочых для збору адкідаў. Плацяць рабочым па 175 руб. Кожны кілограм сабраных імі адкідаў абыходзіцца па 6 руб., а фактычны кошт гэтых адкідаў паўтара-два рублі за кілограм.

Стары шавец арцелі тав. **Беленькі** выкрывае недахопы абутку на гумовых падэшвах. Многія рабочыя не сочаць ні за абрэзкай, ні за абшыўкай, ні за прыпускам падэшвы. А то пакладуць такую спешку — цвікі не трымаюцца, падэшвы адвальваюцца.

Тав. **Асіповіч** гаворыць аб такой «дробязі», як падбор таўшчыні шыла адпаведна таўшчыні цвікоў. Асобныя шаўцы не сочаць за гэтым, наколваюць такія вялікія дзіркі, што праз дзень з адрамантаванага абутку ўсе цвікі вылазяць.

У канцы гутаркі выступіў сакратар райкома партыі тав. Чарнышоў. Ён падае факты нізкай якасці рамонту і шыцця абутку ў многіх майстэрнях горада. У адным месцы не выцягваюць у сярэдзіне абутку цвікі, у другім няправільна прышываюць латкі. У шавецкіх арцелях няма яшчэ патрэбнай барацьбы

за моцны, прыгожы абутак. Усё гэта нібы дробязі, але яны заслугоўваюць таго, каб аб іх гаварыць на нарадзе лепшых шаўцоў-ударнікаў у раённым камітэце партыі.

Такую падрабязную справаздачу аб нарадзе шаўцоў у райкоме партыі надрукавала барысаўская раённая газета **«Большэвік Барысаўшчыны»**. Газета замест агульных разважанняў аб падрыхтоўцы да зімы ўзяла адно канкрэтнае пытанне і прысвяціла яму амаль усю старонку.

Было гэта 7 верасня. У гэты дзень другая старонка раённай газеты выйшла пад аншлагам:

**«Арганізаваць своечасовы і добраякасны рамонт абутку працоўных — ганаровая задача арцельшчыкаў-шаўцоў».**

Побач са справаздачай аб нарадзе шаўцоў у райкоме партыі, газета расказала аб вытворчай нарадзе на кватэры лепшага ўдарніка арцелі шаўцоў тав. **Краўцова.** На нараду аднаго з найлепшых шаўцоў Барысава сабралася 20 чалавек. Гаварылі, абмяркоўвалі, як палепшыць якасць рамонту і шыцця абутку, як найлепш дапамагчы рабочаму і працоўнаму горада падрыхтавацца да зімы.

Пачатак зроблен. Газета загаварыла пра шаўца, расказала пра яго выступленне ў райкоме. І ў гэтым плюсы работнікаў рэдакцыі. Бо абутак моцны і прыгожы, абутак своечасова і добраякасна адрамантаваны — адно з пытанняў бытавога абслугоўвання працоўных, адно з пытанняў большэвіцкай падрыхтоўкі да зімы.

Д. СНЕЖКА

# Рэволюцыйны салдацкі друк

**(ПА МАТЭРЫЯЛАХ, АТРЫМАНЫХ НА МОВЕ ЭСПЕРАНТО З-ЗА МЯЖЫ).**

У арміях капіталістычных дзяржаў расце рэволюцыйны салдацкі друк. Гэты рост цесна звязан з тым фактам, што «ідэя штурму наспявае ў свядомасці мас».

**«Нашы рэволюцыйныя салдацкія газеты ў казармах, — піша японскі салдат тав. Х. Т., — робяць вялікую справу. Яны раскрываюць вочы тым, каго ахутвае туман шавіністычнай прапаганды, выкоўваюць кадры, якія ў патрэбны момант павернуць штыхі супроць сваіх гаспадароў і ператвораць вайну імперыялістычную ў вайну грамадзянскую».**

Вось пісьмо радавога бельгійскай арміі т. М.:

**«Не гледзячы на ўсе перашкоды, якія робяць афіцэры і іншы камандны склад, у нашу казарму прыходзяць нумары французскай газеты рэволюцыйных салдат «Ля казерн».**

**Дзень, калі гэта газета пападае ў казарму — свята для салдат. Газету зачытваюць да дзірак, яна перадаецца з рук у рукі. Аднаго салдата за чытанне газеты «Ля казерн» саслалі на катаржныя работы. Але салдаты з вялікай ахвотай чытаюць «Ля казерн». Уплыў газеты вялікі».**



Сустрача аўстрыйскіх шуцбундаўцаў у Менску.

Салдацкі рэвалюцыйны друк існуе некалькі год. Ёсць старыя салдацкія рэвалюцыйныя газеты як «**Ля казерн**», «**Дэр ротэ зольдат**» (Аўстрыя), «**Куды ваяк**» (Чэха-Славакія), «**Хейсіно Томо**» (Японія) і інш.

Салдацкія рэвалюцыйныя газеты — гэта газеты асобнага роду, яны падпадаюць пад асабліва люты белы тэрор. Іх чытач-салдат — увесь час знаходзіцца пад пільным вокам казарменых наглядальнікаў — і за чытанне рэвалюцыйнай газеты пагражаюць найстражэйшымі рэпрэсіямі.

Аднак, газеты растуць, яны выходзяць рэгулярна, друкуюцца ў друкарнях, або на машынцы, фататарах, або напісаны ад рукі і распаўсюджваюцца пры дапамозе самых рознастайных сродкаў.

У казарме, у ваенных партах, на караблях, у авіяпартах з рук у рукі пераходзяць лісткі «Ля казерн», «Дэр ротэ зольдат» і іншыя рэвалюцыйныя салдацкія газеты.

**«Чытаць газету наогул, а асабліва нашу, салдацкую, вельмі небяспечна. Кожнаму пагражае турма, калі яго зловяць, — піша адзін з актыўных удзельнікаў салдацкай газеты «Жан-ле Гуен».**

**Але яшчэ больш небяспечным з'яўляецца быць актыўным удзельнікам газеты. Нам прыходзіцца працаваць надзвычай асцярожна. Нашы газеты маюць значнае распаўсюджанне».**

Ва Францыі выходзяць апрача «**Ля казерн**» газета «**Авіятар**» і «**Жан-ле Гуен**» для маракоў.

У Італіі выходзіць «**Казерна**» — газета салдат і маракоў, якая выдаецца кампартыяй Італіі.

Японскі салдат Х. Т. піша наступнае аб газеце «**Хейсіно Томо**» («Прыяцель салдата»).

**«Наша газета праводзіць вялікую рэвалюцыйную работу, нястомна выкрываючы японскі імперыялізм, змагаючыся за абарону Совецкага Кітая, за абарону СССР».**

**«Хайсіно Томо» выкрывае сапраўдны твар імперыялізма, яго планы вайны супроць СССР.**

**«Хайсімо Томо» расказвае аб краіне Советаў, аб яе Чырвонай арміі. На старонках газеты часта можна чытаць пісьмы з совецкіх раёнаў Кітая. У пісьмах расказваецца аб тым, як кітайскія рабочыя і сяляне з дапамогай сваёй Чырвонай арміі будуюць новую краіну — рэспубліку Советаў на вялікай яшчэ частцы Кітая».**

У Грэцыі выходзіць падпольная «**Коеіні сімеа**» («Чырвоны сцяг»). У далёкай Мексіцы выходзіць «**Эль маузер**» — газета чырвоных салдат, у Чэха-Славакіі выдаюцца, апрача газеты «**Куды ваяк**» на чэшскай мове, «**Ротэ зольдат**» — на нямецкай мове, «**Верэш катона**» — на венгерскай мове.

У Польшчы выходзіць масавая газета рэвалюцыйных салдат «**Кошары**».

А колькі газет і лістовак не друкаваных, а напісаных на машынцы, ад рукі, на шклографе, распаўсюджваюцца сярод салдацкіх мас, на ваенных караблях, у казармах і т. д.

Рэвалюцыйны друк у арміях і флотах капіталістычных дзяржаў нястомна і гераічна робіць сваю вялікую справу.

---



# Агітаблёт










З вялікім захапленнем сустрэлі працоўныя Чэрвеньскага, Смалявіцкага, Барысаўскага і Бярэзінскага раёнаў арганізаваны «Большэвіцкім друкам» і Менскім аэраклубам агітаблёт па пытаннях падрыхтоўкі да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. НА ЗДЫМКАХ: 1. Самалёт у Чэрвені. Намеснік сакратара райкома партыі тав. ЛЕБЕДЗЕЎ адкрывае мітынг; побач з ім рэдактар райгазеты «Калектывіст» тав. ПЫКО. 2. Лепшы селькор-ударнік Смалявіцкага раёна тав. САРОКІН упершыню падняўся на самалёце ў часе агітаблёту. 3. Тысячы працоўных Чэрвеньшчыны прыйшлі на мітынг к самалёту. 4. Самалёт у Смалявічах. Начальнік і камісар Менскага аэраклуба тав. САКАЛОЎСКІ вітае сабраўшыхся калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў. 5. Самалёт у Чэрвені. Справа налева: сакратар райкома КП(б)Б тав. ВАСІЛЬЕВА, старшыня РВК тав. БУШМАН, прадстаўнік рэдакцыі журнала «Большэвіцкі друк» — удзельнік агітаблёта тав. ГЕЛЬКО. На крыле самалёта пілот т. СКОРБ.

**Два дні — 31 жніўня і 1 верасня — прадаўжаўся агітаблёт, арганізаваны рэдакцыяй журнала «БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК» і Менскім цэнтральным аэраклубам.**

Агітаблёт быў прысвечан падрыхтоўцы да 3 з'езда рабселькораў БССР.

Маршрут агітаблёта ахапіў сабою чатыры раёны: СМАЛЯВІЧЫ, БАРЫСАЎ, БЯРЭЗІНА і ЧЭРВЕНЬ.

Падрыхтоўка да агітаблёта была пачата за некалькі дзён да адлёта. Яна адчувалася і ў рэдакцыі журнала, і ў друкарні «Звязды», і ў аэраклубе, і ў раёнах, указаных у маршруце.



30 жніўня. Вечар. Толькі адна ноч асталася да адлёту. Ужо ўсё, здаецца, падрыхтавана, правяраем, ці не забылі выпадкова пра якую-небудзь «дробязь». Самалёт — дакладная машына, яна як-бы патрабуе таго-ж і ад людзей, якія пятаюць на ёй.

Але вось ужо ўсё гатова. Надрукаваны і складзены ў акуратныя пачкі лістоўкі. Гэта — адзіны багаж нашага самалёта У-2. Багаж будзе ўсё змяншацца з кожнай мінутай палёту, лістоўкі мы будзем пачкамі скідваць, праляталючы над

„У перыяд з 31-га жніўня па 3-е верасня 1934 г. журнал ЦК КП(б)Б „Большэвіцкі друк" і менскі аэраклуб Асоавіяхіма праводзяць агітаблёт па маршруту Менск-Смалявічы-Барысаў - Бярэзіна - Чэрвень - Менск. Задача агітаблёту - мабілізаваць масы рабселькораў, нізавы саўгасны і калгасны друк і ўсю працоўную грамадскасць нашых раёнаў на падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў".

**(З пісьма ЦС Асоавіяхіма да старшынь райсоветаў Асоавіяхіма)**

раённымі цэнтрамі, буйнымі прадпрыемствамі і калгасамі.

Большэвіцкае слова, заклікаючае рабселькораў па-баявому падрыхтавацца да свайго з'езда, абмінуўшы ўсе паштовыя інстанцыі, пападзе к сваім чытачам прама з паветра. Такую і назву далі гэтай лістоўцы — БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК З САМАЛЁТА.

31-га жніўня. Раніца сустрэла непрыветліва. А шостай гадзіне слаўся над Менскам густы туман, прабаваў накрапваць дожджык... К 9-ці гадзінам туман падняўся, выглянула сонца. Дзень абяцаў быць ясным, сонечным.

Вось і аэрадром Менскага аэраклуба. І экіпаж, і праважатыя — усе ўжо тут. 5 мінут і самалёт вывезен з ангара, велізарнай зялёнай птушкай здаецца ён здалёк.

Канчаюцца апошнія прыгатаванні к адлёту. Уласна, нават не прыгатаванні, а праверка, бо ўсё падрыхтавана заранеі, яшчэ з вечара. Цяпер самалёт уважліва аглядае яго пілот — начальнік лётнай часткі аэраклуба т. А. В. СКОРБ.

Усё ў парадку, ніякіх дэфектаў няма. Матор працуе выдатна. Глядзім на гадзіннікі — пара вылятаць. Астаецца толькі паціснуць на развітанне рукі таварышам, якія астаюцца, і садзіцца ў кабіны.

Уключан матор. Магутнай хваляй паветра ад вінта кладзецца на зямлю нізкая трава вакол самалёта. Седзячы ў кабінах, яшчэ раз падымаем рукі ў знак апошняга развітання, самалёт робіць невялікі разбег і вось мы ўжо ў паветры.



З кожнай мінутай усё больш і больш набіраем вышыню. Глядзім на зямлю, яна здаецца з вышыні велізарнай картай, разасланай пад намі. Знаходзім арыенціры — чыгунку на Маскву — і пяцім уздоўж яе на паўночны ўсход, на Смалявічы.

На вышыні 200 метраў кружымся над Смалявічамі, пачкамі скідаем лістоўкі. Потым знаходзім падрыхтаваную для пасадкі пляцоўку. Зверху добра відзён знак «Т», які паказвае напрамак пасадкі. Ля знака — жменька людзей. Але самалёт ужо ідзе на пасадку, з хуткасцю маланкі набліжаецца да нас зямля. І... радаснае расчараванне: жменька людзей робіцца ўсё большай. Садзіцца самалёт, і мы бачым, што сустракаць нас прышлі самае меншае ТЫСЯЧ ДЗВЕ чалавек.

Дзве тысячы — гэта працоўныя мястэчка, калгаснікі наўкольных калгасаў, гэта ў поўным складзе кустава семінар рэдактароў насценгазет і рабселькораў, які рэдакцыя раённай газеты склікала к прыбыццю агітсамалёта, прадстаўнікі райкома, палітаддзела, РВК, комсамольцы, раённы партыйны актыў.



Радасныя вясёлыя твары акружаюць самалёт. У руках людзей лістоўкі, схваченыя з паветра. Чым больш цікавасці, тым з большай прагнасцю прачытваецца кожнае слова лістоўкі.

Тут-жа каля самалёта адкрываем мітынг. Рабселькоры сёння — героі дня. Пра іх усе размовы. Гэта пра іх работу на ўборцы ўраджаю і хлебапастаўках га-



БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК з самалёта

АБ УСЕБЕЛАРУСКІМ З'ЕЗДЗЕ РАБСЕЛЬКОРАЎ

ПАСТАНОВА БЮРО ЦК КП(б)Б

З НОВЫМІ ВЫТВОРЧЫМІ ПЕРАМОГАМІ СУСТРЭНЕМ НАШ УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД

вораць выступаючыя таварышы ад раённых арганізацый, пра іх расказвае рэдактар раённай газеты.

⊙

Выступаючыя гавораць, стоячы на крыле самалёта. З гэтай ганаровай трыбуны даецца слова лепшым рабселькорам і рэдактарам, якія ўжо разгарнулі большэвіцкую падрыхтоўку да Ўсебеларускага рабселькораўскага з'езда.

Выступае актыўны селькор раённай газеты тав. ЛЯЎДАНСКІ. Яму ёсць аб чым расказаць, ён старшыня лепшага ў раёне Смалявіцкага сельсовета. Усе гаспадарча-палітычныя кампаніі сельсовет праводзіць узорна, у сельсовеце створан моцны актыў. Добра наладжана работа насценгазет. За паспяховае выкананне планаў хлебапаставак і асенняй сяўбы сельсовету ўручан пераходны сцяг райкома і палітаддзела.

Старшыню лепшага ў раёне сельсовета замяняе лепшы рабкор-ударнік торфзавода імя ГЕЯ тав. КУРЫЛОВІЧ. Ён расказвае, як рабкоры торфзавода рыхтуюць да з'езда.

«Раскажу адзін прыклад з работы нашых рабкораў, — гаворыць тав. Курыловіч. — Ёсць у нас на заводзе брыгада т. ЖУКА. У брыгадзе ўсе рабочыя з'яўляюцца рабкорамі. Рэгулярна выходзіць брыгадная насценгазета.

Брыгада тав. Жука — лепшая на заводзе. Промфінплан выконвае штомесяц на 120-130 працантаў. У гэтай перадавой рабкораўскай брыгадзе няма ніводнага прагула, ніводнага спазнення на работу. К з'езду рабселькораў мы паставілі сваёй мэтай дабіцца, КАБ УСЕ БРЫГАДЫ ТОРФЗАВОДА ПРАЦАВАЛІ ТАК, ЯК БРЫГАДА ТАВ. ЖУКА».

Уважліва было праслухана выступленне рэдактара насценгазеты калгаса «1-Е МАЯ». Селькоры калгаса актыўна рыхтуюцца да з'езда, прапрацавалі рашэнні ЦК КП(б)Б. У кожнай брыгадзе арганізавалі насценгазеты і наладзілі галосную чытку газет.

— Аб прылёце самалёта мы ведалі загадзя, — гаворыць рэдактар. — Рэдакцыя раённай газеты папярэдзіла нас, выдаўшы спецыяльны нечарговы нумар, прысвечаны агітаблёту. Адразу мы разгарнулі масавую работу ў калгасе. Абавязацельствы па загатоўках мы выканалі ўжо даўно. Паставілі задачу — к прылёту агітсамалёта завяршыць асеннюю сяўбу. ГЭТА НАША АБЯЦАННЕ МЫ З ГОНАРАМ ВЫКАНАЛІ: СЯЎБУ СКОНЧЫЛІ 30 ЖНІЎНЯ ВЕЧАРАМ — ЗА ДЗЕНЬ ДА ПРЫБЫЦЦЯ АГІТСАМАЛЁТА І НА 6 ДЗЁН РАНЕЙ УРАДАВАГА ТЭРМІНА.

У канцы мітынга выступіў адказны рэдактар журнала «Большэвіцкі друк» тав. ДЖЭЛЮК. У кароткай прамове ён акрэсліў задачы агітаблёта і расказаў як раённыя арганізацыі і рабселькоры павінны рыхтавацца к з'езду.

⊙

Мітынг скончан, але ніхто і не думае адыйсці ад самалёта. Многія ўпершыню бачаць яго. Начальнік Менскага аэраклуба тав. САКАЛОЎСКІ растлумачвае прысутным прынцып лятання самалёта, пабудову матора. І кожны з прысутных прагна ловіць словы аб машыне. Узрокі ўсіх улюбёна накіраваны на сталёвую птушку. На тварах большасці прысутных

нястрымнае жаданне, якое можна выказаць двума словамі

ХАЧУ ЛЯТАЦЬ!

Праз некалькі хвілін па ўсяму мітынгу пракочваецца чутка «зараз будуць падымаць на самалёце!» І вось ужо з'яюць радасцю твары двух шчасліўцаў: селькора з калгаса «1-Е МАЯ» тав. САРОКІНА АНТОНА і селькора тав. КІШКУРНО РЫГОРА з калгаса «За ўраджай». Гэта лепшыя селькоры-ўдарнікі лепшых перадавых калгасаў раёна. Ім выпала шчасце ў гэты ўрачысты дзень упершыню падняцца ў паветра.

⊙

У самалёт залазіць селькор КІШКУРНО Рыгор. Бурнымі авацыямі праводзяць яго прысутныя. Самалёт ужо ў паветры, але доўга яшчэ не сціхаюць прывітальныя воклічы, тысячы рук паднімаюцца ўгору. Толькі на хвіліну прыціхае бура воклічаў, каб зараз-жа з новай сілай разгарэцца, калі тав. Кішкурно, спакойны ії з усмешкай, злазіць з самалёта.

Радасна і з уздымам канчаецца гэтае свята на невялікай пляцоўцы, пакрытай іржышчам, свята, прысвечанае камандзірам пролетарскай грамадскай думкі — рабселькорам.

Пасля мітынга ўсе рабселькоры і рэдактары насценгазет накіроўваюцца ў памяшканне Дома соцкультуры, каб пачаць свой семінар, сесіі за паглыбленую вучобу.

Нарада прыняла пастанову — дабіцца першынства Смалявіцкага раёна ў падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, распрацаваны канкрэтныя мерапрыемствы, якія забяспечаць выкананне гэтай задачы. Селькоры таксама прынялі рашэнне — пачаць збор сродкаў на пабудову РАЁННАГА САМАЛЁТА «Калгаснік Смалявіччыны». Разам з раённай газетай яны мяркуюць сабраць грошы на самалёт да Ўсебеларускага з'езда.

⊙

20 мінут у паветры і самалёт апускаецца на БАРЫСАЎСКІ аэрадром.

На вуліцах перадсвяточны рух, — заўтра XX Міжнародны юнацкі дзень, — хутка спяшаюцца праходжыя. У руках многіх з іх лістоўкі, скінутыя з самалёта. Часта сустракаюцца групкі людзей — гэта значыць аднаму з іх удалося схваціць лістоўку, ён уголас чытае яе, астатнія слухаюць.

БОЛЬШЭВІЦКІ
ДРУК
з самалёта



АБ УСЕБЕЛАРУСКІМ З'ЕЗДЗЕ РАБСЕЛЬКОРАЎ
ПАСТАНОВА БЮРО ЦК КП(б)Б

З НОВЫМІ ВЫТВОРЧЫМІ ПЕРАМОГАМІ
СУСТРЭНЕМ НАШ УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД

—◆—

У рэдакцыі «Большэвіка Барысаўшчыны» азнаёміліся з ходам падрыхтоўкі ў раёне да з'езда рабселькораў. Агульнае ўражанне: СЛАБА ІДЗЕ ПАДРЫХТОЎКА, АСАБЛІВА Ў КАЛГАСАХ, ЗУСІМ МАЛА КАНКРЭТНАГА ПАСПЕЛІ ЗРАБІЦЬ.

«Мы даручылі аднаму работніку рэдакцыі займацца пытаннем падрыхтоўкі да з'езда» — гаворыць рэдактар тав. МЯТЛА.

Пачалі агляд калгасных насценгазет.

— А колькі насценгазет вывучылі, колькі артыкулаў змясцілі пра калгасныя насценгазеты?

— Пакуль што паказалі работу толькі адной насценгазеты.

Яшчэ горш з масавай работай сярод селькораў, іх вучобай. Пастанова ЦК аб з'ездзе з селькорамі не прапрацавана. Калі невялікая работа і разгортваецца, то толькі ў горадзе, і то, трэба сказаць, профсаюзныя і грамадскія арганізацыі прадпрыемстваў яшчэ не ўцягнуты ў падрыхтоўку да з'езда .

Не адчуваецца асаблівай зацікаўленасці работай па падрыхтоўцы да з'езда і ў самой рэдакцыі раённай газеты: «Пасадзілі спецыяльнага работніка на гэту справу і няхай ён заварачвае».

Прыбыццё агітсамалёта рэдакцыя «Бальшэвіка Барысаўшчыны» сустрэла ЗУСІМ НЕПАДРЫХТАВАНАЙ. Папярэдняй масавай работы з рабкорамі горада не правялі. Тэлеграма сакратара ЦК КП(б)Б тав. ВАЛКОВІЧА праляжала на стале рэдактара. т. Мятлы РОЎНА ЧАТЫРЫ ДНІ БЕЗ УСЯКАГА РУХУ.

Не гледзячы на ўсе гэтыя недарэчнасці, вялікая віна за якія кладзецца на рэдакцыю «Бальшэвіка Барысаўшчыны»,



Удзельнікі агітаблёту ў Смалявічах. Выступае старшыня чырвонасцяжнага Смалявіцкага местачковага совета.

* *

нам усё-ж удалося правесці ў Барысаве значную работу.

Праведзена нарада прадстаўнікоў фабрычных камітэтаў комсамола, рэдакцыі «Бальшэвіка Барысаўшчыны» і фабрычных шматтыражак па пытанню наладжання абароннай работы друку і разгортвання на прадпрыемствах горада вывучэння лётнай справы. Камітэты комсамола «ПРОЛЕТАРСКАЙ ПЕРАМОГІ» і «КОМІНТЭРНА» абавязаліся набыць планеры і наладзіць работу планерных гурткоў.

Рэдакцыя «Бальшэвіка Барысаўшчыны» і шматтыражкі «ЎДАРНІК» («Комінтэрн») і «ЧЫРВОНЫ БЯРЭЗІНЕЦ» («Пролетарская перамога») ЗВЯРНУЛІСЯ ДА ЎСІХ ГАЗЕТ І РАБСЕЛЬКОРАЎ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ З ПРАПАНОВАЙ ПРАВЕСЦІ ЗБОР СРОДКАЎ НА САМАЛЁТ ІМЯ 3-ГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ.

⊙

Калі ў Барысаве яшчэ сёе-тое робяць па падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў, то ў БЯРЭЗІНЕ мы сустрэлі зусім іншую карціну.

Рэдактар раённай газеты «СЦЯГ ЛЕНІНА» т. БУЛАЙ шчыра-прызнаўся, што ў раёне НІЯКАЯ ПАДРЫХТОЎЧАЯ РАБОТА ДА З'ЕЗДА НЕ ПРАВЕДЗЕНА. Пастанова райкома аб падрыхтоўцы да з'езда вынесена толькі за дзень да прыбыцця самалёта.

Што-ж зрабіла сама раённая газета? ЛІТАРАЛЬНА НІЧОГА. Нельга-ж паставіць у асаблівую заслугу рэдакцыі тое, што яна надрукавала ў газеце пастанову бюро ЦК аб з'ездзе. Апрача гэтай пастановы ніякіх матэрыялаў пра з'езд у газеце няма. Ніякай вучобы рабселькораў і рэдактароў насценгазет у раёне не праводзіцца. З пачатку гэтага года ў раёне ні разу не скліканіся семінары і курсы рэдактароў насценгазет.

Нельга не адзначыць поўнай няўвагі да падрыхтоўкі к з'езду рабселькораў з боку бярэзінскага райкома КП(б)Б. Некаторыя раённыя работнікі, у тым ліку і рэдактар райгазеты т. Булай, моцна трымаюцца такой установкі: «скончым загатоўкі і сяўбу, а тады і пачнем рыхтавацца да з'езда, праводзіць работу з рабселькорамі». Тав. Булай вось ужо некалькі месяцаў знаходзіцца ў адным сельсовеце ўпаўнаважаным райкома, работнікаў у рэдакцыі мала. Але райком і не думае аслабаніць рэдактара газеты ад безупыннага прабывання ў сельсовеце.

⊙

Апошнім раёнам, вызначаным маршрутам агітаблёта, быў ЧЭРВЕНЬ. Прыляцелі ў Чэрвень у 3 гадзіны дня. З вышыні было добра відаць, як рухаюцца калоны дэманстрантаў за горад, на канюшынішча, вызначанае для пасадкі самалёта.

Трэба адзначыць, што чэрвеньскае раённае кіраўніцтва — сакратар райкома тав. Васільева і старшыня РВК тав. Бушман з усёй сур'ёзнасцю аднесліся да арганізацыі сустрэчы агітсамалёта і надзвычай добра выкарысталі яго прабыванне ў раёне. Для правядзення ўсёй гэтай работы была загадзя складзена спецыяльная камісія з адказных раённых работнікаў.

Дзякуючы гэтаму ўся работа, якая праводзілася ў сувязі з агітаблётам у Чэрве-

ні, адрозніваецца выключнай арганізаванасцю і дзапавітасцю.

Аб прыбыцці самалёта загадзя ведалі не толькі працоўныя горада, але і навукольныя калгасы. Таму на мітынгу былі не толькі працоўныя горада, але і многа калгаснікаў. Да самага адлёту не спыняўся прыток дэлегатаў з навукольных калгасаў, гэта было своеасаблівае паломніцтва к цудоўнай паветранай машыне.



Мітынг ля самалёта ў Чэрвені прайшоў надзвычай удала. Усе выступаючыя завастралі ўвагу на пытаннях найлепшай падрыхтоўкі да з'езда, паляпшэння вучобы рэдактароў і рабселькораў.

У гэтай галіне ў раёне пачалі ўжо значную работу. Вучобай рабселькораў спецыяльна займаецца райком партыі. Тав. Васільева расказвае, як райком пачынае к з'езду наладжваць вучобу рабселькораў:

— Раней мы часта склікалі раённыя і сельсавецкія злёты. Практыка гаворыць, што ў сэнсе паглыбленай вучобы злёты мала даюць. Цяпер мы мяркуем гэту справу паставіць інакш. Мы праводзім семінары рэдактароў насценгазет ва ўсіх буйных калгасах. Для гэтай вялікай работы нам трэба многа людзей і вось зараз райком адбірае таварышоў, якія будуць кіраваць семінарамі. У двух калгасах правялі ўжо семінары. Недахопы гэтых двух семінараў будуць улічаны ў другіх калгасах.



Вечарэла, калі самалёт падняўся над Чэрвенем, накіроўваючыся ў Менск. Апошні пералёт. Прайшло толькі два дні з пачатку аблёту, а здаецца, што лятаем мы з Аляксеем Вікенцьевічам сама меней месяц, — так багаты зместам, уражаннямі гэтыя два дні.

Праароблена сапраўды вялікая работа. Наведванне агітсамалёта ў чатырох раёнах дало велізарны штуршок разгортванню падрыхтоўкі к з'езду. Агітсамалёт дапамог партарганізацыям гэтых раёнаў давесці да шырокіх мас селькораў задачы падрыхтоўкі к з'езду. Агітсамалёт дапамог партарганізацыям гэтых раёнаў давесці да шырокіх мас селькораў задачы падрыхтоўкі да з'езда, рашэнні бюро ЦК КП(б)Б. Гэтаму спрыялі 10 тысяч лістовак, скінутыя з самалёта, а таксама разасланыя ўсім рэдкалегіям насценгазет.

Лістоўкі будуць прапрацоўвацца на сходах селькораў, на пасяджэннях рэдкалегій. Усё гэта — першы і галоўны рэзультат агітаблёту.

Другое — чаго ніяк нельга забываць — гэта значэнне агітаблёту, як дэманстрацыі росту нашай грамадзянскай авіяцыі, як масава-палітычнай работы, як дэманстрацыі работы нашага Менскага цэнтральнага аэраклуба.



Агітаблёт па падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў—гэты першы ў БССР факт сумеснай работы друку і грамадзянскай авіяцыі — прайшоў паспяхова. Трэба толькі пажадаць, каб увесь друк Совецкай Беларусі, у першую чаргу гарадскія газеты, паследвалі-б гэтаму добраму пачынанню.

**Юр. БЕЛЬКО.**

АГІТСАМАЛЁТ У ЧЭРВЕНІ. Працоўныя Чэрвеньшчыны сустрэлі агітсамалёт велізарным мітынгам, на якім прынялі ўдзел сотні і тысячы працоўных горада і калгаснікаў вакольных калгасаў.



# Падрыхтоўка да з'езда—
## баявая задача друку і рабселькораў

«Надаючы асабліва вялікае значэнне рабселькораўскаму руху і нізавому друку ў барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, бюро ЦК лічыць неабходным склікаць у кастрычніку 1934 г. усебеларускі з'езд рабселькораў і рэдактароў насценгазет прадпрыемстваў, соўгасаў і МТС».

(З пастановы бюро ЦК КП(б)Б).

Гэтай пастановай, апублікаванай 22 ліпеня ў цэнтральным друку БССР, ЦК КП(б)Б абавязаў ГК і РК КП(б)Б, палітаддзелы і рэдакцыі газет правесці на працягу жніўня і верасня агляд нізавога друку, арганізаваць спаборніцтва сярод рабселькораў і рэдактароў насценгазет на права ўдзелу на ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў, наладзіць шырокае асвятленне вопыта работы рабселькораў—ударнікаў, лепшых насценгазет.

Прайшло даволі часу пасля апублікавання пастановы ЦК. Цяпер ужо ёсць усе падставы патрабаваць ад заводскай, палітаддзельскай, раённай і цэнтральнай газет паказу праведзенай імі работы з рабселькорамі, з рэдкалегіямі нізавых газет.

Бярэм паасобныя нумары газет, нумары, у якіх рэдакцыі ў той ці іншай меры асвятлялі пытанні падрыхтоўкі да з'езда. Прагляд гэтых нумароў дае права сцвярджаць, што большасць раённых газет не разгарнулі яшчэ канкрэтнай, дзелавой і сістэматычнай работы па падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Рад райкомаў партыі і палітаддзелаў МТС абмежаваліся толькі тым, што вынеслі пастановы аб уключэнні ў падрыхтоўку да з'езда.

***

Перад намі тры раённыя газеты: **«Калгасны змагар»** (Бягомль), **«Сцяг калектывізацыі»** (Глуск) і **«Сцяг Леніна»** (Бярэзіно). Гэтыя газеты перадрукавалі перадавы артыкул «Звязды» «Па-дзелавому рыхтавацца да ўсебеларускага з'езда рабселькораў».

Але ніякай масавай работы па падрыхтоўцы селькораў да з'езда ў раёнах яшчэ нават не пачыналі. Не ўзяліся за гэту справу ні партыйныя арганізацыі, ні рэдакцыі раённых газет.

Рэдактар бярэзінскай газеты тав. **Булай** у часе агітаблёту па падрыхтоўцы да з'езда шчыра прызнаўся прадстаўніку журнала «Бальшэвіцкі друк», што «работы мы і не пачыналі».

Чачэрская газета **«Сцяг калектывізацыі»**, дубровенская раённая газета **«За соцыялістычнае будаўніцтва»**, **«Калектывіст Расоншчыны»** абмежавалі свой удзел у падрыхтоўцы да з'езда перадрукаваннем пастаноў райкомаў партыі і палітаддзелаў МТС.

«Калектывіст Расоншчыны», роўна праз месяц пасля апублікавання пастановы бюро ЦК КП(б)Б аб усебеларускім з'ездзе, паведамляе сваім чытачам:

«Рашэннем бюро ЦК КП(б)Б у кастрычніку склікаецца ўсебеларускі з'езд рабселькораў. Да пачатку з'езда засталося зусім мала часу, а між тым падрыхтоўка да яго ў Расоншчыне не разгорнута. Гэта тым больш недапушчальна, што работа нізавога друку, работа з рабселькорамі ў нас пастаўлена зусім дрэнна.

Прамы абавязак кожнага парторга, кожнага комуніста—па-дзелавому разгарнуць падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Гэта кроўная справа ўсёй партарганізацыі Расоншчыны».

І на гэтым кропка. Сама-ж раённая газета ўзяла на сябе ролю бязудзельнага наглядальніка. Яна не расказала на

сваіх старонках пра лепшых селькораў раёна, не перадала вопыту канкрэтнай работы калгасных насценгазет, нічога не зрабіла, каб ажывіць работу з рабселькорамі, якая, як прызнаецца сама газета, «пастаўлена зусім дрэнна».

Сем раённых газет: **«Ударнік Дзяржыншчыны»**, **«Калгаснік Петрыкоўшчыны»**, **«Соцыялістычны шлях»** (Крычаў), **«Калгаснік»** (Чырвоная Слабада), **«Ударнік калгасаў»** (Церахоўка), **«Ленінскі шлях»** (Сіроціно), **«Сталінец»** (Бешанковічы), перадрукавалі пісьмо групы рэдактароў цэхавых і брыгадных газет менскага чырвонасцяжнага завода імя Варашылава.

Лепшыя ўдарнікі нізавога друку чырвонасцяжнага завода прапанавалі:

> **«Правесці ўсебеларускі месячнік абмену вопытам работы нізавога друку з шырокім асвятленнем гэтага вопыта ў цэнтральным і раённым друку.**
>
> **Няхай лепшыя газеты і рабселькоры раскажуць, як яны працуюць, што ім неабходна для таго, каб працаваць яшчэ лепш».**

Ці падхапілі гэты заклік сем пералічаных намі газет? Не! Ініцыятывы ў папулярызацыі вопыта лепшых насценгазет калгасаў свайго раёна рэдакцыі не праявілі, вучобы селькораў не пачалі. Фармальнасці зроблены, пісьмо апублікавана і... хопіць.

**
*

26 жніўня адбываўся **злёт селькораў Клічаўскага сельсовета (Клічаў).** Злёт, абмеркаваўшы пытанні падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, адзначыў, што:

> **«Клічаўскі сельсовет значна адстае ў выкананні хлебапаставак, асабліва па аднаасобнаму сектару, які выканаў план паставак толькі на 64 проц. Недапушчальна адстае ў сіласаванні—план выканан толькі на 19 проц. па сельсовету, дрэнна абстаіць справа з сяўбой азімых, з падрыхтоўкай да зімы».**

Больш таго:

> **«Злёт адзначыў, што рабселькоры і рэдкалегіі насценгазет недастаткова разгарнулі работу па арганізацыі калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў на баявое выкананне сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай, недастаткова разгарнулі крытыку і самакрытыку на старонках раённага і нізавога друку».**

Але злёт зрабіў «вялікі ўклад» у падрыхтоўку да з'езда, ён пастанавіў «уключыцца ў месячнік абмену вопытам» і нават «узяў на сябе абавязацельствы». З повад у гэтага рэдакцыя раённай газеты **«Сталінскі шлях»** дае «шапку»: **«Разгарнулі баявую падрыхтоўку».** У чым-жа выяўляецца гэта баявая падрыхтоўка—пакуль не відаць ні па газеце, ні па выступленнях на злёце селькораў.

Не лепш падала рэдакцыя клічаўскай газеты і заметку **«Насценгазета забяспечыла перамогу»** (№ 180 за 5 верасня 1934 г.). У гэтай заметцы газета расказвае аб вытворчых перамогах калгаса **«Чырвоны араты»**, аб тым, што яшчэ 22 жніўня калгас разлічыўся з дзяржавай па хлебапастаўках. І ў канцы гэтай заметкі рэдакцыя дадае:

> **«Значную ролю адыграла ў арганізацыі калгаснікаў на паспяховае выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній насценная газета «Змагар», якая згрупавала вакол сябе калгасны актыў, паказвала лепшыя ўзоры работы асобных калгаснікаў, паказвала лепшых ударнікаў».**

Не такога паказу вопыта работы нізавых газет чакаюць селькоры і рэдкалегіі. Дзе-ж факты, формы і метады работы насценгазеты?

І, урэшце, яшчэ адно: калі калгас з поспехам спраўляецца з усімі сваімі работамі, з хлебапастаўкамі, то гэта не значыць, што ў гэтым трэба бачыць «выключныя заслугі» выходзячай 2 разы ў месяц насценгазеты. Тым больш, калі газета працуе надзвычай дрэнна. З паданага вышэй факта напрошваюцца два вывады, або рэдакцыя раённай газеты цягне за вушы адстаючую насценгазету ўздагон вытворчым перамогам калгаса і імкнецца стварыць ёй танную славу, або ў рэдкалегіі насценгазеты сапраўды былі яркія ўзоры дапамогі калгасу, ды толькі расказаць аб гэтым вопыце «Сталінскі шлях» не здолеў.

**
*

Старобінская раённая газета **«Калгаснік Старобіншчыны»** змясціла некалькі самаабавязацельстваў і пісем селькораў

аб іх рабоце ў калгасах. Але ў газеце няма ніякага паказу ролі насценгазет ў вытворчым жыцці калгасаў.

Рагачоўская раённая газета **«Комунар»** пашла па другому шляху. Яна змясціла некалькі (і часамі пядрэнных) аглядаў нізавых газет. Але ў газеце зусім не відаць селькораў. На старонках раённай газеты не гаворыцца аб канкрэтнай рабоце тых, хто носіць ганаровую назву селькора-ўдарніка, хто заваёўвае права быць пасланым у сталіцу БССР—Менск на 3-ці ўсебеларускі з'езд рабселькораў. Гаварыць аб гэтых людзях, расказваць аб іх ударнай рабоце трэба ўжо сёння. Гэта будзе заахвочваць астатніх селькораў да лепшай работы, гэта будзе спрыяць разгортванню соцспаборніцтва паміж селькорамі.

***

Жлобінская раённая газета **«Шлях соцыялізма»** прысвяціла падрыхтоўцы да з'езда некалькі падборак з заметкамі селькораў. У нумары за 7-е верасня газета надрукавала пісьмо селькора тав. **Лапіцкага К.** з калгаса «Комуніст». Ён выступаў са сваімі заметкамі і ў папярэдніх нумарах, а зараз расказвае аб тым, як селькоры выконваюць узятыя на сябе абавязацельствы.

Вось яго пісьмо:

**«КАВАЛЁЎ узяў абавязацельства завербаваць 140 падпісчыкаў на газеты. А ўжо завербаваны 160 падпісчыкаў.**

**КАРПУШЭНКА выканаў сваё абавязацельства па падрыхтоўцы сіласнай ямы. Адна яма ўжо засіласавана, другая яма напаўняецца зялёнай масай.**

**Выканаў узятае на сябе абавязацельства і Шпак. Ён дапамагае выпускаць насценгазету ў калгасе «Чырвоная зара».**

**Далгачоў абавязаўся арганізаваць абмалот у калгаснікаў і аднаасобнікаў. Гэта абавязацельства выконваецца. Цяпер гудуць пяць малатарань.**

**Не адстаю ад маладых і я, старык. Разлічыўся з дзяржавай. Яшчэ пільней ахоўваю калгасную маемасць.**

**Мы паставілі сваёй задачай быць перадавой дэлегацыяй на раённым злёце і заваяваць права на мандат для паездкі на ўсебеларускі з'езд рабселькораў. Гэтага мы даб'емся».**

У чым заслуга данай заметкі? Ў тым, што яна ўзнімае пытанне аб праверцы выканання селькорамі ўзятых імі абавязацельстваў. Селькор Карпушэнка абавязваўся ў адзнаку падрыхтоўкі да з'езда падрыхтаваць сіласныя ямы. Шпак абавязваўся дапамагчы суседняму калгасу «Чырвоная зара» у арганізацыі выпуску насценгазет. Нічога не варты былі-б гэтыя абавязацельствы, калі-б селькоры іх не выканалі. І аб гэтым яшчэ раз напамінае селькор Лапіцкі. Данай заметкай раённая газета мабілізуе ўвагу селькораў на хутчэйшае выкананне ўзятых абавязацельстваў, на праверку іх выканання.

Газета **«Большэвік Барысаўшчыны»** прысвяціла падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў не адну падборку. Газета надрукавала пісьмо рабкораў ўдарнікаў камбіната **«Комінтэрн»**, абвясціла прадз'ездаўскую пераклічку рэдактароў насценгазет і селькораў і т. д.

Аднак, нельга сказаць, што барысаўская раённая газета ўзорна рыхтуецца да з'езда. Падборкі, заметкі, якія змяшчаюцца на старонках «Большэвіка Барысаўшчыны» выпадковыя. Іны не скомэнтаваны ў яркія баявыя падборкі па аднаму якому-небудзь пытанню.

У Барысаве ёсць рад буйных прадпрыемстваў, у цэхах якіх выходзяць нядрэнныя насценгазеты. І раённая газета можа і павінна была паказаць своеасаблівы «рабочы дзень» 2—3-х такіх рэдкалегій лепшых насценгазет. Гэта будзе адной з форм папулярызацыі лепшых узораў работы. Газета можа, напрыклад, расказаць, як такая рэдкалегія праводзіць рэйд, як яна аформляе сваю газету.

Адзін з важнейшых участкаў у падрыхтоўцы да з'езда—штодзённае ўмацаванне партыйнага кіраўніцтва друкам і рабселькорамі. Але аб гэтым «Большэвік Барысаўшчыны» амаль нічога не піша.

І, урэшце, аб жывых людзях: аб ударніках друку, аб рабкорах і селькорах. Іх вопыт даўно просіцца на старонкі раён-

нага друку. Папулярызаваць гэты вопыт, паказаць усяму раёну будні 3—5 лепшых селькораў, падаць яркія прыклады іх канкрэтнай работы—ганаровая задача газеты.



Усебеларускі з'езд рабселькораў набліжаецца. Час, які астаўся да адкрыцця з'езда, трэба максімальна выкарыстаць для паглыбленай работы па аглядў нізавога друку і папулярызацыі лепшых узораў яго работы:

для разгортвання соцспаборніцтва паміж рабселькорамі і рэдактарамі насценгазет на права ўдзелу ва ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў;

для арганізацыі сістэматычнай вучобы рабселькораў у гуртках і семінарах, для карэннага паляпшэння ўсёй справы рэагавання на заметкі рабселькораў.

**На нарадзе пры журнале „Большэвіцкі друк"**

# ПРА АДЗІН ПАМЯТНЫ ДЗЕНЬ

18 чэрвеня—памятны дзень на менскай абутковай фабрыцы імя Кагановіча. У гэты дзень вышаў апошні нумар фабрычнай шматтыражкі **«Чырвоны абутнік».**

З гэтага часу не стала больш рэдактара (ён пераведзен быў на іншую работу), не стала шматтыражкі на фабрыцы. Спынілася і ранейшая работа нізавога друку. Рабкоры часта зараз успамінаюць гэты дзень. Быў **Гураліс** (рэдактар шматтыражкі), дык ён яшчэ сяк-так кіраваў нізавым друкам і рабкорамі, не стала яго (перавялі з фабрыкі на іншую работу), і прыціхла ўся справа. У пасобных адказных работнікаў фабрыкі, нават членаў парткома (у прыватнасці, у сакратара камітэта ЛКСМБ) існуе такая думка: «Калі няма рэдактара шматтыражкі, то, зразумела, і кіраўніцтва рабкорамі быць не можа». Паўстае пытанне, дзе-ж партком? Хто змог зняць з яго адказнасць за работу з рабкорамі, за работу друку на фабрыцы. Ніхто, хіба сам партком палічыў неабходным аслабаніцца ад гэтай «нагрузкі». Бо факты гавораць аб тым, што кіраўніцтва рабкорамі і нізавым друкам на фабрыцы зусім няма.

Старыя рабкоры і члены рэдкалегіі **Радашковіч і Рояк** сёння ўспамінаюць мінулыя дні, калі нізавы друк фабрыкі працаваў:

— Нядрэнна, — гавораць яны, — працавалі нашы нізавыя газеты яшчэ паўгода назад. І партком тады нядрэнна кіраваў намі, а зараз прыціхлі газеты. Ніхто намі не кіруе, ніхто не дапамагае.

На фабрыцы не толькі не вядуць ніякай падрыхтоўкай работы да з'езда рабселькораў, а нават парторгі і прафоргі нічога не ведаюць пра пастанову ЦК КП(б)Б аб з'ездзе.

Парторг т. **Шырко** (першая група новага канвеернага цэха), прафорг тав. **Цэйтлін,** работнікі фабкома, члены рэдкалегіі газеты закройнага цэха і т. д. са здзіўленнем сустрэлі пытанне — ці рыхтуецеся вы да з'езда рабселькораў...

— А калі ён павінен быць?

— Калі была такая пастанова?.. — вось запытанні гэтых таварышоў.

**Усе гэтыя факты выявіліся на агульна-гарадской нарадзе рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Менска, якая была склікана 4 верасня журналам «Большэвіцкі друк», гаркомам КП(б)Б і газетай «Рабочий».**

На гэтай нарадзе прымалі ўдзел 35 рэдактароў фабрычна-заводскіх газет. Папярэднія вынікі падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў, якія былі падагулены на нарадзе, паказваюць, што рад партыйных арганізацый і шматтыражак не зразумелі ўсёй палітычнай важнасці гэтай работы.

Па слядах фабрыкі імя Кагановіча ідуць хлебазавод, завод «Беларусь» і іншыя прадпрыемствы.

Тав. **Васількоў,** удзельнік нарады, заявіў:

— На хлебазаводзе лічаць, што ёсць 24 насценгазеты. На самой-жа справе выходзяць толькі тры насценгазеты. Яны знаходзяцца ў кутках, завешаны і ніхто іх ніколі не бачыць.

Пра падрыхтоўку да з'езда нават не думаюць.

Тав. **Лазацкі** (завод «Беларусь») у сваім выступленні сказаў:

— Я ўжо выпусціў 4 нумары газеты, але ніхто не рэагуе на змешчаныя ў іх заметкі. Не раз я звярачаўся ў партком, прасіў нават, каб склікалі нараду рабкораў, але партком зусім не дапамог.

Не лепш справа на электрастанцыі і некаторых іншых прадпрыемствах Менска.

Вусны агляд паасобных шматтыражак, які быў зроблен на нарадзе, паказвае, што рад фабрычна-заводскіх газет не зразумелі сваёй ролі ў падрыхтоўчай рабоце да з'езда. Возьмем для прыкладу газету «Комунарка» — аб ёй мы гаварылі на нарадзе. Гэта шматтыражка толькі 16 жніўня змяшчае план падрыхтоўкі да з'езда. Планам прадугледжана: працягнуць фабрычны конкурс нізавых газет. З 1-га жніўня (а план друкуецца 16 жніўня) па 1-е верасня правесці ўзаемны агляд газет. Апрача таго ў газеце «Комунарка» паказаць лепшых рабкораў і раз у пяцідзёнку праводзіць вучобу рэдактароў і рабкораў. План відаць няздрэнны. Але ўся работа газеты па ажыццяўленню гэтага плана ператвараецца ў пустую балбатню аб падрыхтоўцы да з'езда. Пасля 16 жніўня вышлі тры нумары газеты. Няма ў іх ні паказу лепшых рабкораў, ні агляду газет, ні паказу таго, як выконваецца надрукаваны план. Не відаць і таго, як папярэднічала рэагаванне на матэрыялы нізавога друку фабрыкі. Ці-ж можна так разумець падрыхтоўчую работу да з'езда. План добры, але практычнай справы няма.

Кожная шматтыражка, кожная газета павінны не на словах, а аператыўна і па-баявому кіраваць работай па падрыхтоўцы к з'езду.

# Куём газетныя кадры

Бюро ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб усебеларускім з'ездзе рабселькораў звярнуў увагу на неабходнасць «...**у перыяд агляду нізавага друку забяспечыць сістэматычныя заняткі рабселькораў у гуртках і семінарах пры рэдакцыях на прадпрыемствах, у калгасах, соўгасах з тым, каб рабкоры і селькоры-ўдарнікі былі асноўнай крыніцай фармавання кадраў газетных работнікаў».**

Гэтае ўказанне ЦК партыі на-дзелавому ажыццяўляецца на ільвяной фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі».

Па ініцыятыве фабрычнай газеты **«Сцяг індустрыялізацыі»** на прадпрыемстве **арганізаваны курсы рэдактароў штодзенак**. Мэта гэтых курсаў — падрыхтаваць дзесяць кваліфікаваных работнікаў для фабрычна-заводскіх газет Віцебска і для рэдакцыі **«Віцебскага пролетарыя»**.

Са старонак газеты «Сцяг індустрыялізацыі» мы даведваемся аб тым, як ідзе работа на курсах. Тав. **Аксельрод**, які выкладае тэхніку набору і вёрсткі газеты, піша ў сваім артыкуле, што пасля васьмі заняткаў курсанты ўжо самастойна набіралі, яны няздрэнна асвоілі шрыфты, асновы наборнай справы. Курсантка тав. **Кан** піша:

**«Перад пачаткам работы курсаў рэдактароў я зусім не разумела, як выпускаецца наша шматтыражка. Але першыя заняткі ўвялі мяне ў курс справы, як вярстаецца газета. Атрыманыя веды ўжо зараз даюць мне магчымасць лепш афармляць сваю брыгадную газету».**



ЛУФЕРЧЫК Т. — лепшы рабкор-ударнік соўгаса «Вызваленне», Смалявіцкага раёна. Здаў тэхмінімум на «выдатна» і атрымаў значок «ЗОТ».

Курсанты **Іванова і Біндман** расказ-

ваюць на старонках газеты «Сцяг індустрыялізацыі», як яны авалодваюць тэхнікай газетнай справы.

**На фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» ёсць 100 брыгадных газет.** Фабрычная газета выходзіць праз дзень. У фабрычным друку прымаюць актыўны ўдзел сотні рабкораў.

У наяўнасці багацейшыя магчымасці падрыхтаваць з ліку рэдактароў брыгадных газет, з ліку рабкораў фабрыкі новае папаўненне для фабрычна-заводскага і раённага друку.

Газета «Сцяг індустрыялізацыі» практычна і з поспехам выкарыстоўвае гэтыя магчымасці. І гэта — толькі частка той работы, якую праводзіць «Сцяг індустрыялізацыі» па падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

Пасля пастановы бюро ЦК КП(б)Б аб скліканні ўсебеларускага з'езда рабселькораў газета амаль у кожным нумары змяшчае тыя ці іншыя матэрыялы, прысвечаныя падрыхтоўцы да з'езда.

— Справа падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў — справа ўсёй партыйнай арганізацыі, усяго рабочага калектыва фабрыкі, — пад гэтым лозунгам «Сцяг індустрыялізацыі» шырока разгортвае падрыхтоўчую работу.

Газета сістэматычна змяшчае агляды брыгадных штодзенак, паказвае ім, як трэба працаваць. Так, ужо змешчан агляд штодзенак **«За гонар фабрычнай маркі»** і **«За колькасць і якасць»** і т. д.

18 жніўня, у дзень выхаду чатырохсотага нумара, выпускаецца спецыяльны нумар газеты. Увесь нумар, кожная заметка, кожны артыкул прысвечаны пытанням падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

У гэтым нумары мы знаходзім агляд друку **«Чаму рабочыя не пішуць у штодзенку брыгады Двосіна»**, шырокі паказ работы лепшых рабкораў і, у прыватнасці, паказваецца работа тав. Марозавай як ударніцы-зотаўкі і рэдактара штодзенкі «Сталінец».

У выступленнях парторгаў і рабкораў адзначаюцца дасягненні і недахопы газеты «Сцяг індустрыялізацыі», даюцца каштоўныя прапановы, што трэба зрабіць, каб лепш сустрэць з'езд.

На фабрыцы праводзяцца курсы для членаў рэдкалегій. Арганізуецца масавы рэйд па праверцы рэагавання на рабкораўскія заметкі.

# Маўчальнікі

Як на чыгуначным транспарце рыхтуюцца да ўсебеларускага з'езда рабселькораў?

Калі меркаваць па камплектах транспартных газет, то адказ на гэта пытанне трэба даць адмоўны.

На самой справе. Многія транспартныя газеты не толькі не разгарнулі масавай перадз'ездаўскай падрыхтоўкі, але нават не змясцілі пастановы бюро ЦК аб з'ездзе рабселькораў. Гэту пастанову перадрукавала толькі адна жлобінская газета **«Ударнік»**, але і яна, перадрукаваўшы 24 ліпеня пастанову бюро ЦК КП(б)Б аб скліканні з'езда, паставіла на гэтым кропку. Літаральна ніякай канкрэтнай дзелавой падрыхтоўкі да з'езда газета не разгарнула.

Не лепшае становішча і ў газетах **«Большэвіцкі сігнал»** (Орша) і **«Па соцыялістычных рэйках»** (Гомель).

Рэдакцыя газеты **«Соцыялістычны транспарт»** (Віцебск) толькі 4 верасня змясціла артыкул аб задачах рабкораў у сувязі з надыходзячым з'ездам. У гэтым артыкуле газета пісала:

> **«За зрывы руху паяздоў, перавозак адказваюць і цэхавыя, станцыйныя насценгазеты, адказваюць і рабкоры.**
>
> **Аб падрыхтоўцы да з'езда будуць меркаваць па рабоце ўсіх вытворчых участкаў нашага аддзялення.**
>
> **Лепшым падарункам з'езду будуць поспехі ў рабоце станцыі, дыстанцыі, шляху, паравозных дэпо, змазчыкаў і вагонных участкаў. І гэты падарунак павінны рыхтаваць нашы рэдкалегіі насценгазет і рабкоры».**

Паставіўшы гэту задачу, «Соцыялістычны транспарт» раптам суціхае. Да 10 верасня газета выходзіць штодзенна), рэдакцыя не змясціла ніводнага радка аб ходзе падрыхтоўкі да з'езда.

Дзіўнае, зусім незразумелае маўчанне таварышы рэдактары транспартных газет.

# Трыбуна
## прадз'ездаўскай падрыхтоўкі

### (Па старонках раённага друку).

«Арганізаваць асвятленне на старонках друку лепшых рабсель-кораў-ударнікаў, лепшых нізавых газет як па сваёй рабоце, так і па падрыхтоўцы да надыходзячага з'езда».

(З пастановы бюро ЦК КП(б)Б).

### ВІЦЕБСК.

Газета **«Віцебскі пролетарый»** і рад заводскіх газет Віцебска разгарнулі канкрэтную, дзелавую падрыхтоўку да 3-га ўсебеларускага з'езда рабсელькораў. Праведзены **кароткатэрміновыя курсы для селькораў,** на буйнейшых фабрыках і заводах працуюць **рабкораўскія семінары.** «Віцебскі пролетарый» сумесна з палітаддзельскай газетай правёў **рэйд праверкі рэагавання на матэрыялы друку.**

Шматтыражка **«Чырвоная Дзвіна»,** газета ільнапрадзільнай фабрыкі «Дзвіна», абвясціла і праводзіць конкурс на лепшую штодзенку.

Абутковая фабрыка імя Лекерта ў адзнаку выхаду пяцітысячнага нумару «Віцебскага пролетарыя» выпускам 500 пар абутку звыш плана. Калгаснікі Замасточча ў адзнаку падрыхтоўкі да рабселькораўскага з'езда і раённага злёта селькораў адкрылі хату-лабараторыю.

Рабочыя «Комінтэрна» ў адзнаку выхаду пяцітысячнага нумара сваёй гарадской газеты датэрмінова завяршаюць рамонт ратацыйнай машыны для друкавання «Віцебскага пролетарыя».

### ЧЭРВЕНЬ

Райком КП(б)Б і палітаддзел МТС зацвердзілі прадстаўлены рэдакцыяй газеты **«Калектывіст»** план работы па падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Праводзіцца дэкаднік агляду нізавых газет, пяцідзенныя семінары рабселькораў у 10 пунктах раёна. Выпускаецца спецыяльны макет для насценгазет.

На старонках раённай газеты «Калектывіст» пачалася перапіска - абмен вопытам лепшых рабселькораў раёна. 15 верасня пачаў працаваць семінар, арганізаваны для ўдзельнікаў нізавога друку прамарцелей горада Чэрвеня.

Настаўнікі раваніцкай школы звярнуліся праз раённую газету да ўсіх настаўнікаў з заклікам дапамагчы ў арганізацыі работы селькораўскіх семінараў і абавязаліся арганізаваць і правесці семінары ў соўгасе «Раванічы» і калгасе «Першамайск».




«За месца на ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў» — друкаваны бюлетэнь выдае буда-кашалёўская раённая і палітаддзельская газеты.

**«Ударнік леса»** — шматтыражка Чэрвеньскага леспрамгаса — праводзіць 4-дзенныя курсы - семінар для рабкораў лесарубаў і сплаўшчыкаў. На час заняткаў на курсах рабкоры будуць вызвалены ад работы на вытворчасці. Побач з іншымі пытаннямі яны прапрацуюць пытанні эксплаатацыі лесу, падсочкі, сплаву.

### МАЗЫР.

Мазырская раённая газета **«Калгаснік Мазыршчыны»** ўключылася ў падрыхтоўку да з'езда яшчэ ў пачатку жніўня. 6-га жніўня газета мабілізуе селькораў раёна **«большэвіцкай работай заваяваць права на ўдзел у рабселькораўскім з'ездзе».** Пад гэтым аншлагам ідзе перадавы артыкул «За аператыўную насценгазету».

Бюро РК КП(б)Б заслухала інфармацыю рэдактара раённай газеты аб ходзе пад-

рыхтоўкі да з'езда. У пастанове, апублікаванай у «Калгасніку Мазыршчыны» 30 жніўня, бюро РК КП(б)Б прапануе рэдакцыі раённай газеты змясціць да 1 кастрычніка не менш 10-ці падрабязных аглядаў работы насценных газет калгасаў і прадпрыемстваў, адначасова правёўшы пашыраныя нарады рэдкалегій гэтых насценгазет.

Райком партыі абавязаў рэдакцыю арганізаваць на старонках раённай газеты пераклічку рабселькораў-ударнікаў.

Для прэміравання лепшых селькораў з фонду рэдакцыі выдзяляюцца 3 прэміі па 100 руб. і 5 прэмій па 50 руб.

## СМАЛЯВІЧЫ.

31 жніўня ў раёне праведзен вялікі мітынг, прысвечаны падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

***

Прэзідыум **Пліскага сельсовета,** Смалявіцкага раёна, вылучыў са свайго актыва адказных таварышоў і даручыў ім узмацніць дапамогу ў рабоце рэдкалегій калгасных насценгазет. Пачалася справаздача рэдкалегій насценгазет аб праробленай рабоце, выбіраюцца дэлегаты на раённы злёт селькораў.

5 верасня на злёце селькораў Пятровіцкага сельсовета абмеркаваны пытанні своечасовага выхаду насценгазет, паляпшэння іх зместу і якасці ўсёй работы. На куставым злёце прысутнічала звыш 100 чалавек.

## СЯННО.

«Заваюем права на ўдзел ва ўсебеларускім з'ездзе»—з такім абавязацельствам выступіў па старонках раённай газеты **«Комунар»** селькор калгаса **«Перамога»** тав. **Міхновіч.** Сваю работу тав. Міхновіч пачаў з таго, што дапамог згуртаваць вакол насценгазеты моцны селькораўскі актыў з 10-ці чалавек. Далей ідзе арганізацыя маладзёжнага - селькораўскага звяна на чырвоне пад назвыя.

«Маё звяно ў калгасе з'яўляецца передавым» — піша тав. Міхновіч А. — У яго ўвайшлі лепшыя селькоры: Міхновіч Іван, Палемашчанка Мікола, Міхневіч Фёдар.

## ЧЭРЫКАЎ.

Раённая газета **«Социялістычны шлях»** арганізавала на сваіх старонках **пераклічку лепшых селькораў-ударнікаў.** У газеце выступілі ўжо з перадачай свайго вопыта селькоры Мельнікаў Дзяніс, Бубель Ўладзімір, Церахава Агапа.

Церахава Агапа — лепшая даглядчыца жывёлы ў калгасе «Гігант» і актыўная селькорка. Яна ў сваім выступленні заастрае ўвагу селькораў і рэдкалегій нізавых газет на своечасовай падрыхтоўцы ферм да зімоўкі.

## БЫХАЎ.

Раённая газета **«Маяк Комуны»** пачала сістэматычную работу па падрыхтоўцы да з'езда селькораў і рэдкалегій нізавых газет. Раённая газета надрукавала пастанову Бюро ЦК КП(б)Б, пастанову РК КП(б)Б і палітаддзела МТС аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да з'езда, змясціла агляд насценгазеты калгаса «КІМ». У чарговых нумарах «Маяк комуны» перадрукаваў некалькі артыкулаў «Большэвіцкага друку» аб арганізацыі работы рэдкалегіі калгаснай насценгазеты.

Чацвер 24 жніўня 1934 г.

ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКІ КЛІЧ

Зламаць кулацкі сабатаж

ВЫКАНАЦЬ ХЛЕБАПАСТАЎКІ ДА 25 ЖНІЎНЯ

Аб хлебапастаўках.

«ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКІ КЛІЧ» — новая друкаваная газета палітаддзела Лёзненскай МТС.

Адзіны партдзень па пытанню падрыхтоўкі да з'езда, куставыя злёты селькораў, папулярызацыя праз старонкі раённай газеты лепшага вопыта работы насценгазет і селькораў—частка з мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да з'езда, намечаных райкомам партыі і палітаддзелам МТС.

Настаўнікі раёна, сабраўшыся на сваю раённую канферэнцыю, абавязаліся дапамагчы рэдкалегіям калгасных насценгазет перадаць праз старонкі раённай, палітаддзельскай і цэнтральных газет увесь вопыт штодзённай практычнай работы нізавога калгаснага друку раёна.

## КАПЫЛЬ.

Рэдакцыя раённай газеты, **«Калгаснік Капыльшчыны»** і газета палітаддзела **«За большэвіцкі калгас»** арганізавалі раённы «дзень селькора» прысвечаны падрыхтоўцы да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. На злёце рабселькораў, які адбудзецца ў тэты дзень у Капылі, рэдактары лепшых калгасных насценгазет раскажуць аб вопыце сваёй работы. Будзе арганізавана выстаўка лепшых і горшых калгасных насценгазет з тлумачэннямі, у чым перавагі або недахопы той ці іншай газеты.

## СТАРЫЯ ДАРОГІ.

Бюро РК КП(б)Б і палітаддзел МТС выдучылі групу работнікаў са складу кіруючага партыйнага актыва для дапамогі нізавым калгасным газетам у разгортванні падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў. Вылучаныя таварышы накіраваны ў сельсоветы для правядзення работы з селькорамі. Раённая газета **«За калектывізацыю»** пачынае агляд работы нізавых калгасных газет.

## БАРЫСАЎ.

Рэдакцыя раённай газеты **«Большэвік Барысаўшчыны»** 30-га жніўня пачала **прадз'ездаўскую** пераклічку рэдактароў заводскіх і калгасных насценгазет, членаў рэдкалегій і рабселькораў.

Палітаддзельская газета Барысаўскай МТС **«Ленінскі шлях»** у парадку падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда правяла па сельсоветах «дзень селькора».

## АСІПАВІЧЫ.

Рабкоры-ўдарнікі і рэдкалегіі заводскіх газет торфазавода «Свабода» звярнуліся праз раённую газету **«Калгасная праўда»** да ўсіх рабселькораў і рэдкалегій насценгазет Асіпавіцкага раёна з заклікам уключыцца ў праведзімы раённай газетай масавы агляд нізавога друку і партыйнага кіраўніцтва ім.

Для паляпшэння якасці выпускаемых насценгазет рэдкалегіі абавязаліся не радзей аднаго разу ў дэкаду праводзіць у брыгадах вусны разбор вышаўшых нумароў брыгаднай газеты.

## УШАЧЫ.

Калгас **«Новы шлях»** адным з першых уключыўся ў падрыхтоўку да з'езда рабселькораў. Пад лозунгам барацьбы за права пасылкі свайго дэлегата на ўсебеларускі з'езд рабселькораў у калгасных брыгадах і звеннях разгорнута соцспаборніцтва на хутчэйшае завяршэнне сельска-гаспадарчых работ і выкананне абавязкаў перад дзяржавай.

20 жніўня калгас скончыў уборку зерновых на плошчы 606 гектараў, у тым ліку 55 гектараў ільну. 23-га жніўня ў гонар усебеларускага з'езда **па ініцыятыве селькораў арганізаван чырвоны абоз з зярном.** Здана дзяржаве 227 цэнтнераў зярна лепшай якасці і 140 цэнтнераў натураплаты МТС.

Селькоры і ўвесь калгасны актыў калгаса «3-ці рашаючы» паставілі задачу своечасовай уборкай і адгрузкай бульбы дзяржаве, завяршэннем зябліва і падрыхтоўкай жывёлы да зімоўкі заваяваць права на пасылку ў Менск на з'езд свайго дэлегата.

## АСВЕЯ.

16 жніўня вышаў першы нумар палітаддзельскай газеты Асвейскай МТС **«Палітаддзельская праўда».** Першы нумар прысвечан усебеларускаму з'езду рабселькораў. Праз палітаддзельскую газету парторг і рэдкалегія калгаса «Большэвік» выклікаюць на соцспаборніцтва па падрыхтоўцы да з'езда парторгаў і рэдкалегіі насценгазет усіх калгасаў МТС.

Бюро райкома КП(б)Б і палітаддзел МТС ухвалілі ініцыятыву раённай і палітаддзельскай газеты аб правядзенні конкурса на лепшую калгасную насценгазету. Адначасова райком партыі і палітаддзел МТС абавязалі раённую і палітаддзельскую газеты **наладзіць у 3-4 буйнейшых калгасах або сельсоветах семінары для селькораў.** З 20 па 30 верасня будуць працаваць **дзесяцідзённыя курсы рэдактароў калгасных насценгазет.** Курсы разлічаны на 40-45 чалавек.

**ГОРКІ.**

Калгаснікі калгаса **«Комінтэрн», Маспакоўскага сельсовета,** селькоры і рэдкалегіі калгаснай і брыгадных насценгазет звярнуліся праз раённую газету з прапановай адкрыць у раёне на сродкі калгаснікаў **дом адпачынку імя 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў.** Калгас «Комінтэрн» першым уносіць у фонд будучага дома адпачынку для калгаснікаў-ударнікаў 50 кілограм мяса, 30 пудоў бульбы, 50 кілограм круп, 80 кілограм мукі і 100 рублёў грашыма.

Першымі адгукнуліся на заклік селькораў і калгаснікаў «Комінтэрна» калгас **«Чырвоная горка» і «Новы свет»,** якія ўносяць у фонд калгаснага дома адпачынку бульбу, муку, масла.

Раённая газета **«Ленінскі шлях»** і газета палітаддзела **«За большэвіцкія калгасы»** сустракаюць усебеларускі з'езд рабселькораў наладжаннем **вучобы селькораў.** Вызначана 6 сельсоветаў (па ўсяму раёну), у якіх адкрываюцца куставыя **трохмесячныя семінары для селькораў і членаў рэдкалегій калгасных насценгазет.** Заняткі ў семінарах будуць праводзіцца раз у дэкаду.

# Рабкоры фабрыкі „Праца“ да з'езда

Рабкоры **гомельскай** абутковай фабрыкі **«Праца»** рыхтуюцца да свайго Усебеларускага з'езда. Пытанні падрыхтоўкі к надыходзячаму з'езду рабселькораў падрабязна прапрацаваны на сходах рабочых, а таксама на нарадзе рэдактароў цэхавых і брыгадных насценгазет. Зараз на фабрыцы разгортваецца спаборніцтва паміж цэхавымі і брыгаднымі газетамі на лепшую работу па выкананню промфінплана, на лепшую падрыхтоўку да з'езда.

Рабкоры-ўдарнікі бяруць на сябе канкрэтныя абавязацельствы. Напрыклад, рабкоры закройнага цэха тт. **Рубінштэйн** і **Хіной** абавязаліся даць **найлепшую якасць прадукцыі і выканаць промфінплан: Хіной — на 118 проц., Рубінштэйн — на 105 проц. і з'эканоміць 2.500 дэцыметраў мастаўя.**

Рэдкалегіі абавязваюцца палепшыць якасць насценгазет, зрабіць іх больш апаратыўнымі і масавымі, павялічыць лік рабкораў — удзельнікаў насценгазет.

Шматтыражка «Ўдарнік» арганізавала фабрычную дошку, адбіваючую ход спаборніцтва насценгазет і цэхаў па падрыхтоўцы да з'езда.

**Арганізован семінар для рэдактараў насценгазет і рабкораў-ударнікаў фабрыкі.** Семінар будзе працаваць рэгулярна два разы ў месяц.



За чыткай насценгазеты (калгас «Чырвоны партызан», Менскага раёна).

—⊙—

Гэтымі днямі праводзім фабрычны злёт рабкораў па пытанню падрыхтоўкі да з'езда.

**ЯХНОВІЧ.**

**— рэдактар шматтыражкі «Ўдарнік».**

**Гомель.**

Ц. ДЗЕРАХ

# АРГАНІЗАТАРЫ КАЛГАСНАГА ПРЫЛІВУ

Стасеўка — вёска вялікая: 198 двароў. У першыя гады калектывізацыі тут быў арганізован калгас «На варце» з 17 гаспадарак. На гэтым і застыла ў Стасеўцы справа далейшай калектывізацыі. У калгасе жылі самі па сабе, аднаасобнікі таксама. У адной вёсцы, а сувязі паміж імі не было. Калгаснікі не хацелі лічыцца з аднаасобнікамі. Аднаасобнікі трымаліся ў баку, глядзелі, што выйдзе з калгаса.





Лепшыя селькоры-ўдарнікі, члены рэдкалегіі калгаснай насценгазеты «На варце». Злева — Калінік Палюта; пасярэдзіне — Вінакур Міхаіл (рэдактар насценгазеты); справа — Горбут Васіль — актыўны селькор, завербаваў у калгас 27 працоўных аднаасобнікаў.

«Раней мы толькі і ведалі, што сварыцца з аднаасобнікам. Забылі, што ён з'яўляецца заўтрашнім калгаснікам», — так адзначала ў адным са сваіх нумароў калгасная газета.

Магчыма прадаўжалася-б гэта далей, калі-б не ўзяліся за справу калектывізацыі селькоры і калгасная насценная газета **«На варце»**.

**«ШТОДЗЕННА ПРАЦАВАЦЬ СЯРОД АДНААСОБНІКАЎ».**

**«ДАПАМОЖАМ ПРАЦОЎНАМУ АДНААСОБНІКУ СТАЦЬ НА КАЛГАСНЫ ШЛЯХ».**

Так паставіла пытанне насценная газета. А каб словы не разышліся са справай, узяліся за практычную работу. Рэдактар газеты тав. М. Вінакур склікаў нараду рэдкалегіі разам з селькорамі, на ёй дагаварыліся, як прыступіць да справы. Рашылі: ісці селькорам на дом да аднаасобнікаў і там ім расказаць пра калгаснае жыццё, як калгаснікі становяцца заможнымі, што яны атрымліваюць у калгасе і якія ільготы атрымае працоўны аднаасобнік, уступіўшы ў калгас.

Першым накіраваўся да аднаасобнікаў лепшы актывіст калгаса, селькор, член рэдкалегіі Васіль Бордут. Вопыт удаўся. Праз невялікі час тав. Бордут у спецыяльна выпушчанай лістоўцы, прысвечанай калгаснаму прыліву, расказваў

**«Я змяніў свой погляд на аднаасобніка. Ён стаў маім другам. У вольны час ад работы я пачаў хадзіць да сваіх суседзяў аднаасобнікаў, маючы на мэце адну задачу: дапамагчы ім стаць на калгасны шлях, парваць з аднаасобным жыццём.**

**Я іх не агітаваў агульнымі словамі — расказвае далей тав. Бордут, — я проста расказаў ім, як я жыву ў калгасе і што яны выйграюць, калі пойдуць у калгас. Усе падлікі я ім рабіў тут-жа з алоўкам у руках, выкладваў на паперы».**

Не прайшоў марна час, аддадзены селькорам Бордутам на работу з аднаасобнікамі. Яны сталі падаваць заявы аб

уступленні ў калгас. За месяц Васіль дапамог 27 аднаасобнікам уступіць у калгас.

Не адставалі ад Бордута і іншыя селькоры — Каленік П., Дрык, Каленік Ігнат. Яны таксама з поспехам праводзілі работу сярод аднаасобнікаў.

Рэдкалегія газеты «На варце» штодзенна выдавала ў некалькіх экземплярах спецыяльны бюлетэнь. У ім паведамляліся імёны лепшых аднаасобнікаў, уступаючых у калгас. Уся вёска ведае, хто ўступіў у калгас, хто збіраецца ўступаць.

У гэтых лістоўках газета адначасова выкрывала кулацкіх агентаў і паднявал, якія імкнуцца тармазіць, затрымаць далейшую калектывізацыю.

Падкулачнік Лушчык Фёдар агітаваў аднаасобнікаў, каб яны не ўступалі ў калгас:

«Не ідзіце ў калгас, — гаварыў ён, — там не будзе чаго есці».

Гэту кулацкую агітацыю рэдкалегія адразу-ж выкрыла, выпусціўшы «маланку» ў 5 экземплярах і паслаўшы спецыяльную брыгаду селькораў для правядзення гутарак з аднаасобнікамі.

Пасля актыўнай работы селькораў і газеты вёска Стасеўка на большую палову стала калгаснай, у калгас уступіла звыш 120 гаспадарак. Калгасная газета вядзе далейшую работу.

Калгаснікі калгаса «На варце» звярнуліся праз сваю газету з пісьмом да калгасаў **«Ударнік»** і **«Совецкая Беларусь»**. У гэтым пісьме, расказваючы пра свае поспехі, яны заяўляюць:

**«Мы моцна пасябравалі з аднаасобнікамі. Сталі іх запрашаць на нашы пасяджэнні і агульныя сходы. Мы сталі іх шырока знаёміць з работай калгаса і калгасным жыццём. Мы арганізавалі тры брыгады, якія пачалі ў вольны час хадзіць па хатах аднаасобнікаў і растлумачваць ім перавагі калгаснага жыцця».**

Тут-жа **Булава Іван** — учарашні аднаасобнік — піша, як ён рашыў уступіць у калгас».

**«Жыў я да гэтага часу аднаасобнікам. Адчуваў, што гаспадарка ідзе мая на ўпад. І ў той-жа час я бачу, што мой сусед — калгаснік Каленік Ігнат, які раней жыў куды слабей за мяне, зараз стаў жыць у калгасе як чалавек, у яго хапае і хлеба, і бульбы, яго дзеці сталі апранацца куды лепш за маіх... Парашыў і я парваць з аднаасобным жыццём, пайсці ў калгас будаваць сваё жыццё, разам з Каленікам».**

Так калгасная газета «На варце» стала лепшым агітатарам за калгаснае жыццё. Яна сапраўды стала са сваімі селькорамі арганізатарам новага калгаснага прыліву.

***

Варта спыніцца і на арганізацыі работы ў газеце «На варце». Па-першае, у рэдкалегіі знішчана абязлічка. Кожны член рэдкалегіі нясе пэўную нагрузку. Бордут Васіль адказвае за работу сярод аднаасобнікаў, Буглак — за стан работы ў паляводчай брыгадзе, П. Каленік прымацавана да скотнага двара. Ёсць сакратар рэдкалегіі.

Нарады рэдкалегіі разам з селькораўскім актывам праводзяцца пастаянна.

Перад правядзеннем кожнага масавага мерапрыемства склікаюцца ўсе селькоры разам з калгасным актывам. Усіх селькораў — 18. Гэта лепшыя ўдарнікі-калгаснікі. Сярод іх зусім няграматны стары калгаснік Каленік Ігнат, які дае матэрыялы вусным парадкам.

**Апрача рэгулярна выходзячай трохдзёнкі «На варце» рэдкалегія дадаткова яшчэ выдае лістоўкі-бюлетэні і «маланкі», якія пішуцца ў некалькіх экземплярах і распаўсюджваюцца па ўсёй вёсцы.**

**Арганізавана выданне насценнай газеты «Юныя калгаснікі».** Гэта—газета калгасных дзяцей. На старонках яе можна знайсці ўсебаковыя матэрыялы пра калгасныя справы і пра школьныя.

Дзеці ў сваёй газеце пішуць, як пачаўся навучальны год: «Не ўсе яшчэ вучні з'явіліся ў школу. З другога боку — школа не гатова да заняткаў. Не закончан рамонт, дзверы шчыльна не зачыняюцца, а ў падлозе дзіркі, што можна згубіць алоўак».

Тут-жа **І. Верабей** расказвае, як ён атрымаў магчымасць вучыцца:

**«Памёр бацька. Было пяцёра дзяцей. Маці не ведала, што рабіць. Пашоў пастушком. Чатыры гады працаваў у кулака. Цяжка жылося, хацелася вучыцца. Шлях мне адкрыў калгас. Зараз я вучуся і буду вучыцца, а матка радасна жыве ў калгасе».**

«Юныя калгаснікі» пішуць і пра калгасныя справы. «Я сустрэў калгасніка Мароза Якава, які вёў каня, а конь быў абмуляны да крыві... Мароз, дзе былі твае вочы. Мабыць, ты аслеп і забыўся, якое значэнне мае конь у соцыялістычнай гаспадарцы» — піша дзяткор пісьмо ў сваю газету.

Сіла калгаснай трохднеўкі «На варце» паміма арганізатарскай масавай работы крыецца яшчэ і ў дзейсным рэагаванні на яе матэрыялы.

Няма такіх выпадкаў, каб матэрыялы газеты асталіся бясследнымі. На іх адразу-ж рэагуе праўленне калгаса, пытанне выносіцца і на агульны сход.

Вось брыгадзір **Прановіч** замест работы пашоў п'янстваваць. Прапісалі ў газеце, а вечарам праўленне абгаварыла і наладжыла на Прановіча спагнанне.

У калгасе не забылі яшчэ пра такі выпадак. Вясной калгаснікі Борбут Рыгор, Дрык Іван, Кулік Сцяпан зарэзалі сваіх цялят. Пра гэты факт напісала насценная газета. На калгасным сходзе яны прызналі сваю памылку, раскаяліся, а потым купілі і сталі гадаваць цялят.

Можна прывесці шмат прыкладаў, як пад уздзеяннем газеты мяняюць свае адносіны да калгаснай працы адсталыя калгаснікі, як яны ператвараюцца ў добрых калгаснікаў-ударнікаў.

Так маленькая газета робіць у калгасе вялікую справу па соцыялістычнаму перавыхаванню калгаснікаў—учарашніх аднаасобнікаў. За гэта і любяць у калгасе сваю газету, паважаюць яе рэдактара і селькораў.

Рэдактар газеты тав. Вінакур трымае моцную сувязь з інструктарам райкома. Ад яго ён атрымлівае ўказанні і дапамогу ў сваёй рабоце.

Калгасная газета «На варце» зусім правільна лічыцца лепшай у Бабруйскім раёне, а яе рэдактар залічан першым кандыдатам на ўсебеларускі з'езд рабселькораў, які селькоры калгаса «На варце» сустракаюць бальшэвіцкімі справамі.

БАБРУЙСК. КАЛГАС «НА ВАРЦЕ».

**САРОКІН**

Парторг калгаса імя Дзяржынскага 1-ай Менскай МТС.

# НАДЗЕЙНЫЯ ПАМОЧНІКІ

Я працую ў якасці парторга ў калгасе імя **Дзяржынскага,** зоны дзейнасці **1-й Менскай МТС.**

Калгас увесь час адставаў. Я адразу паставіў пытанне — чаму? Ёсць рабочая сіла, ёсць машыны, інвентар і зямля добрая, а калгас знаходзіцца ў ліку адстаючых.

Пачаў вывучаць прычыны, вывучаць жывых людзей. Мне дапамаглі палітаддзел і яго газета «Ударнік калгасных палёў». Я добра разумеў, што ў самім калгасе, у калгасных брыгадах трэба арганізаваць селькораўскі актыў, наладзіць работу нізавога друку.

У нашым калгасе нізавы друк, асабліва брыгадны, раней зусім не працаваў. У калгасе моцна адчуваліся настроі «не пакрыўдзіць» суседа, хоць-бы ён і рабіў антыкалгасную справу.

Спачатку я рашыў сабраць агульны сход усіх калгаснікаў. Але многія на сход не прышлі і ён не адбыўся. Калі я пагутарыў з паасобнымі калгаснікамі, то выявілася, што ў калгасе заціснута самакрытыка, калгаснікі не хочуць выступаць, выкрываць недахопы, бо «ўсё роўна нічога не дапаможа», а ў рэдзе выпадкаў на калгасніка, які выступае з крытыкай, «глядзяць, як кажуць, воўкам».

Мы ўзяліся за выпуск штодзенак у кожнай вытворчай брыгадзе. Выбралі лепшых калгаснікаў у рэдкалегіі брыгадных штодзенак і агульна-калгаснай газеты.

Кожны дзень, калі пачалася ўборка, выходзілі свежыя нумары штодзенак. Калгаснікі вельмі ахвотна чыталі матэрыялы, якія змяшчаліся ў брыгадных газетах. Аўтарытэт штодзенак рос. Яны выкрывалі лодыраў і бракаробаў, паказвалі лепшых ударнікаў на рабоце.

Штодзенкі падагульвалі вынікі работы за дзень, вынікі спаборніцтва паміж брыгадамі, звеннямі, машыністамі і асобнымі калгаснікамі.

Вакол брыгадных газет рос калгасны актыў. У першыя дні, сказаць па праўдзе, газеты ў большасці выпадкаў рабі-

лися адным і членамі рэдкалегій. Актыва спачатку не было.

Зразумела, пры такім становішчы штодзенкі не маглі завяваць аўтарытэт. Мы правялі значную работу па згуртаванню актыва вакол кожнай рэдкалегіі брыгаднай газеты. Члены рэдкалегіі гутарылі ў брыгадах з калгаснікамі, прыцягвалі лепшых ударнікаў да непасрэднага выпуску штодзенак.

Калгаснік першы раз не адважваўся пісаць у газету. Ён заяўляў, што не можа, што нічога не выйдзе. З ім бярэцца за справу член рэдкалегіі, а часта і я сам. Па-першае, мы разбіраем факты, а потым разам пішам у газету. Такім чынам нашы лепшыя калгаснікі-ўдарнікі, уцягваліся ў рады селькораў.

Ёсць паасобныя калгаснікі, якія прыходзяць у рэдкалегію і расказваюць аб факце, просячы напісаць заметку. Мы ім прыходзім на дапамогу.

Выключна вялікую ролю адыграў наш нізавы друк у разгортванні спаборніцтва паміж брыгадамі.

Перад уборкай паміж брыгадамі, звеннямі, машыністамі былі заключаны дагавары па сацыялістычнаму спаборніцтву на лепшае правядзенне ўборкі, на добраякаснае і датэрміновае выкананне паставак дзяржаве.

Аднак, першы-ж дзень жніва паказаў, што брыгады нездавальняюча падрыхтаваліся да ўборкі. Жняяркі былі дрэнна адрамантаваны. Гэты дзень паслужыў урокам на ўвесь час уборачных работ.

На кароткіх вытворча-тэхнічных нарадах мы абгаварылі вынік работы за дзень. Выкрылі недахопы праз насценныя газеты. Назаўтра лепш былі расстаўлены людзі, лепш была арганізавана работа.

Аднак, брыгадны друк не супакоіўся на дасягнутым. Газеты выявілі яшчэ рад недахопаў, дабіваліся лепшай бездакорнай арганізацыі ўборкі. Брыгадны друк паказваў звенні і паасобных калгаснікаў, якія адставалі ў спаборніцтве. Ён з'явіўся сапраўдным арганізатарам спаборніцтва ў брыгадах.

Нашы брыгадныя газеты аказалі нам вялікую дапамогу ў своечасовай уборцы ўраджаю. З уборкай мы справіліся добра. Ураджай звезлі з поля, зграблі і сабралі ўсе каласы. Наступіла малацьба.

За некалькі дзён да пачатку малацьбы мы правялі сходы брыгадзіраў і машыністаў пры малатарнях і абмеркавалі задачы малацьбы і хлебаздачы. Я спецыяльна гутарыў таксама з членамі рэдкалегій брыгадных газет і з селькорамі.

Як у часе ўборачнай, так і ў перыяд малацьбы і хлебапаставак рэгулярна выпускаліся брыгадныя штодзёнкі. Кожны дзень насценгазеты шырока асвятлялі ход малацьбы. Штодзенкі вывешваліся пры малатарнях, на таку. У часе абедзенага перапынку мы праводзілі гутаркі і галоснае чытанне газет сярод калгаснікаў зводнай брыгады па малацьбе.

Малатарні працавалі без перабояў. Гэта дало нам магчымасць своечасова і добраякасна разлічыцца з дзяржавай. Наш калгас адным з першых у сельсовеце выканаў свае абавязацельствы перад дзяржавай па хлебапастаўках і поўнасцю разлічыўся па натураплаце МТС.

Так, наш калгас, дзякуючы шырокай масавай рабоце, вышаў з адстаючых у лік перадавых не толькі па сельсовету, але і па зоне дзейнасці МТС.

Барацьба за першынства не скончана, яна прадаўжаецца. Асаблівай увагі, асаблівай энергіі патрабуе справа своечасовай і добраякаснай ўборкі бульбы, справа першачарговага выканання абавязацельстваў перад дзяржавай па пастаўках бульбы. Наперадзе яшчэ далейшая барацьба за высокі ўраджай 1935 г.

Сяўбу азімых мы скончылі своечасова, але яшчэ не правялі зяблева і некаторых іншых работ. З гэтай задачай мы, безумоўна, справімся, калі і надалей пад кіраўніцтвам партарганізацыі будзем добра працаваць, працаваць сапраўды па-калгаснаму.

Наша палітаддзельская газета «Ударнік калгасных палёў» разгарнула падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. На яе старонках актыўна выступаюць селькоры па розных пытан-

Адзін з лепшых селькораў - ударнікаў Чэрвеньшчыны т. Мануліх Васіль. Калгас „Чырвоны сцяг", дзе тав. Мануліх быў адказным за хлебапастаўкі, адным з першых у раёне выканаў план паставак зярна дзяржаве.



нях. Падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў мы ў нашым калгасе аддалі сур'ёзную ўвагу. Абмеркаваўшы пытанне аб падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў, мы ўзяліся за канкрэтныя мерапрыемствы, узмацнілі работу з селькорамі.

За гэты час наш калгасны селькораўскі актыў папоўніўся новымі селькорамі, якія прымаюць непасрэдны ўдзел у рабоце брыгадных газет.

Вось, напрыклад, Будай Волька, актыўная калгасніца, да апошняга часу зусім не пісала ў штодзенку. Зараз яна дае матэрыялы амаль у кожны нумар штодзенкі, актыўна дапамагае нам дабівацца неадкладнага рэагавання на заметкі селькораў. Такіх прыкладаў мы маем нямала.

Што яшчэ мы робім у справе практычнай падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў?

У нашым калгасе арганізуецца масавы рэйд селькораў разам з «лёгкай кавалерыяй» па праверцы гатоўнасці калгаса да зімоўкі жывёлы. Члены рэдкалегій, селькоры і «лёгкая кавалерыя» адной брыгады правяраюць, другую брыгаду. Пасля праверкі, калі будуць падагулены вынікі рэйда, мы выпусцім спецыяльныя нумары штодзенак, прысвечаныя гэтаму пытанню.

Цяпер рыхтуемся да нарады селькораў, дзе ставім пытанне аб ролі і задачах селькораў у барацьбе за правільнае размеркаванне ўраджаю, за культурнае жыццё ў калгасе.

Партарганізацыя зараз распрацавала рад мерапрыемстваў па падрыхтоўцы хат самых калгаснікаў да зімы. Калгас можа і павінен штодзенна клапаціцца аб бытавым становішчы калгасніка. Рамонт стрэх, падлог, новае будаўніцтва хат для калгаснікаў — гэта справа калгаса. Наш абавязак — дабіцца таго, каб хаты калгаснікаў былі адрамантаваны, гатовы да зімы, каб зрабіць іх чыстымі, культурнымі. Гэта справа зараз падымаецца праз наш нізавы калгасны друк.

Я, як партыйны арганізатар калгаса, знайшоў у брыгадных штодзенках, у нізавым калгасным друку надзейных баявых памочнікаў, на якіх смела апіраюся ў сваёй штодзеннай практычнай рабоце.

## М. ОСІПАЎ

Рэдактар насценгазеты «За ўзорным жывёлагадоўлі» калгаса імя Молатава. зоны дзейнасці Рагачоўскай МТС.

# ГАЗЕТА ВЫХОДЗІЦЬ НА ФЕРМЕ

У нас у калгасе дзве фермы: свінагадоўчая і малочна-таварная. Агульнакалгаснай насценгазеце вельмі трудна поўнасцю ахапіць усю работу двух ферм. Мы рашылі арганізаваць на фермах спецыяльную насценгазету.

Сабралі ўсіх работнікаў нашых ферм. На сходзе расказалі аб значэнні нізавога друку. Наша прапанова выпускаць насценгазету на фермах сустрэла гарачае падтрыманне з боку ўсіх работнікаў ферм. На сходзе-ж выбралі рэдкалегію і потым прыступілі да непасрэднай работы па выпуску насценгазеты.

Так нарадзілася наша газета «За ўзорную жывёлагадоўлю». Рэдактарам выбралі мяне.

Гэта было ў лішені. Прайшло зусім мала часу, але наша маладая насценгазета ўжо дабілася некаторых поспехаў. Яна па-дзеламу ўваходзіць ва ўсе «дробязі» работы ферм, змагаецца за ўзорны догляд жывёлы, за моцную працоўную дысцыпліну на фермах.

Наша газета і яе селькоры рыхтуюцца да з'езда рабселькораў БССР. Як толькі была апублікавана пастанова бюро ЦК КП(б)Б аб з'ездзе, рэдкалегія і селькоры ўзялі на сябе практычныя абавязацельствы па падрыхтоўцы да з'езда. Галоўныя з іх — забяспечыць выкананне плана сіласавання, плана развіцця пагалоўя і т. д.

Як мы выконваем свае абавязацельствы?

Насценгазета правяла сур'ёзную работу па барацьбе за сілас. У кожным нумары яна паказвала, як ідзе сіласаванне.

У нашым калгасе была толькі адна сіласная яма на 50 тон. Гэту яму мы запоўнілі сіласам яшчэ ў пачатку жніўня. Па плану-ж нашаму калгасу трэба засіласаваць 95 тон. Праўленне калгаса аднеслася да гэтай справы з халад-

ком. Апраўдваліся тым, што няма дзе сілэсаваць. Насценгазета рашуча выступіла з патрабаваннем неадкладна падрыхтаваць другую сіласную яму. І газета дабілася таго, што другая яма была падрыхтавана і запоўнена сіласам.

Наша насценгазета настойліва змагалася за ўвядзенне новай сістэмы здзельшчыны. На старонках газеты былі змешчаны расцэнкі ў працаднях па ўсіх работах на фермах. Мы шырока растлумачылі праз газету новую сістэму налічэння працадзён, а таксама значэнне здзельшчыны ў развіцці жывёлагадоўлі. Дзякуючы насценгазеце кожны калгаснік і калгасніца, якія працуюць на нашых фермах, добра ведаюць, як аплачваецца іх праца. А гэта вялікая справа. Цяпер мы ясна бачым яе карысць, бо дысцыпліна і зацікаўленасць у лепшым доглядзе пагалоўя з боку работнікаў ферм значна ўзнялася.

Наша газета «За ўздым жывёлагадоўлі» неаслабна змагаецца за тое, каб замацаваць на калгасных фермах пастаянныя кадры работнікаў.

Характэрны факт, адбыўся з калгасніцай **Фядорай Осіпавай.** Яна працавала на ферме амаль з таго дня, калі ферма была арганізавана. Але ў пачатку гэтага года Осіпава пашла з фермы на іншую калгасную работу. Тлумачыла яна гэта тым, што на даглядчыц жывёлы кіраўнікі ферм зусім не звярачаюць увагі. «Як ні працуй, — гаварыла яна, — усё роўна менш заробіш, чым на полі». А Осіпава сумленная, працавітая калгасніца, перабіраць работу не любіць.

**Рэдкалегія насценгазеты рашыла дабіцца таго, каб Фядора Осіпава вярнулася назад на ферму і адначасова каб лепшыя калгаснікі і калгасніцы прышлі працаваць на ферму.**

Вось што зрабіла рэдкалегія: у канцы ліпеня ў адным з нумароў насценгазеты з'яўляецца артыкул, у якім было напісана колькі зарабілі работнікі нашых ферм за месяц. Насценгазета зрабіла параўнанне колькасці працадзён, выпрацаваных ударнікамі і тымі, хто абыяк адносіўся да работы. З гэтага артыкула кожны калгаснік даведаўся, што даход сумленнага работніка фермы не меншы за даход калгасніка-ўдарніка, працуючага на палявых і іншых калгасных работах.

Прачытала гэты артыкул і Фядора Осіпава. Добра абмеркавала яго і назаўтра прышла ў праўленне калгаса і заявіла аб жаданні пайсці зноў працаваць на ферму. Цяпер т. Осіпава адна з лепшых работніц нашай МТФ, яна ўжо не думае аб тым, каб калі-небудзь пакінуць ферму.

Можна многа напісаць пра вялікую ролю насценгазеты, у барацьбе за дысцыпліну. Вострымі заметкамі, якія часта дапаўняюцца карыкатурамі, насценгазета б'е па гультаях, па тых работніках, хто нядбайна даглядае жывёлу.

Падпаўшыя пад агонь крытыкі калгаснікі і калгасніцы, як правіла, адразу-ж выпраўляюць свае памылкі. Даволі адзначыць, што такія ў мінулым заядлыя прагульшчыцы, як А. Рабцава і К. Лізунова пасля крытыкі іх учынкаў праз насценгазету сталі зусім іншымі людзьмі. Ні аднаго спазнення на работу ні то што прагулу цяпер за імі не лічыцца.

Так разгортвае сваю работу насценгазета на фермах нашага калгаса. На яе прыкладзе мы пераканаліся, што вопыт стварэння спецыяльных насценгазет на фермах сябе цалкам апраўдвае. Трэба толькі пажадаць, каб кожная калгасная ферма мела такую баявую насценгазету, як наша.



Сустрэць зімоўку жывёлы цёплымі агледжанымі хлявамі.

Р. СІМХОВІЧ

# Рэдактар 25 газет...

**38** брыгадных газет выходзілі раней на **Бярэзінскім** камбінаце **(Барысаў)**. А цяпер на камбінаце няма ні адной брыгаднай газеты. Ужо адзін гэты факт прымушае настаражыцца і ўважліва вывучыць формы і метады работы **«Чырвонага бярэзінца»** (друкаваная газета камбіната).

На камбінаце выпускаюцца 25 цэхавых і зменных газет. Як «Чырвоны бя-

Рыс. А. Малевіча.



«Аперацыйнасць» тав. Сімкоўскага—рэдактара 25 газет.

рэзінец» кіруе гэтымі газетамі, дапамагае ім у рабоце, выхоўвае рабкораў?

Рэдакцыя «Чырвонага бярэзінца» мае трох пастаянных работнікаў. Рэдактар газеты тав. **Фрумін** заняты выключна выпускам «Чырвонага бярэзінца».

Намеснік рэдактара тав. **Сімкоўскі** кіруе ўсім нізавым друкам на камбінаце. Фактычна гэта рэдактар 25 цэхавых і зменных газет.

Трэці работнік — машыністка.

Заходзім у рэдакцыю «Чырвонага бярэзінца». На сталах — цэхавыя насценгазеты «Чырвоны аўтамат», «Лушчыльшчык», «За тэхніку», «Прэс», «За большавіцкія тэмпы» і т. д. У некаторыя газеты ўжо ўстаўлен перадавы артыкул аб падрыхтоўцы да Міжнароднага юнацкага дня. Артыкул аднолькавага зместу для ўсіх газет.

Для іншых цэхавых і зменных насценгазет машыністка перадрукоўвае гэты-ж напісаны перадавы артыкул. Ва ўсе газеты ўклейваецца таксама заметка аб мопраўскай рабоце. Змест адзін і той-жа. Проста можна падумаць, што выпускаецца адна газета толькі ў некалькіх экземплярах.

Сімкоўскі атрымлівае ад машыністкі перадрукаваныя заметкі, піша стандартныя загалоўкі і запаўняе такім чынам усе 25 цэхавых і зменных газет. Адным словам — рэдактар-універсал, які замяняе сабой і рэдкалегіі, і рэдактароў цэхавых газет, і саміх рабкораў.

Што-ж робяць рэдактары і члены рэдкалегій цэхавых газет?

— Яны збіраюць матэрыялы, — адказвае тав. Сімкоўскі.

І так рэдактар цэхавай газеты, члены рэдкалегіі — толькі зборшчыкі матэрыялаў. Яны, сабраўшы па цэхах заметкі, аддаюць іх Сімкоўскаму, а той ужо адзін рэдагуе і выпускае ўсе 25 газет.

Рэдкалегіі, рабкоры не прыцягнуты да непасрэднай работы па выпуску газет. Рабкораўская ініцыятыва звязваецца, заганяецца ў бюракратычныя рамкі. Сярод рабкораў не праводзіцца ніякай масава-выхаваўчай і арганізатарскай работы.

Не дзіва, што цэхавыя газеты выходзяць нерэгулярна, ад выпадку да выпадку, у цеснай залежнасці ад актыўнасці зборшчыкаў заметак. Толькі паасобныя газеты, як «Лушчыльшчык», «Прэс», і т. д., выходзяць пяць раз у месяц. Іх рэдактары больш збіраюць заметак для Сімкоўскага. Усе іншыя газеты выходзяць не больш як два, максімум тры разы ў месяц.

Становіцца зразумелым, чаму на камбінаце спынілі сваё існаванне 38 брыгадных газет. Сімкоўскі, гэты універсальны рэдактар, відаць, зразумеў, што ніяк не зможа рэдагаваць яшчэ 38 газет. Хопіць і дваццаці пяці...

Многія рэдкалегіі зусім не выбіраліся на агульных цэхавых сходах рабочых. Рэдактароў і членаў рэдкалегій, як правіла, проста назначалі. Так былі, напрыклад, назначаны т. Налецкая — рэдактарам газеты «За якасць» (зборачны цэх), Прадзедовіч — рэдактарам газеты аўтаматнага цэха, Крывіч — рэдактарам газеты «За большэвіцкія тэмпы» (другая змена аўтаматнага цэха) і т. д.

Яшчэ ў пачатку жніўня лепшыя рабкоры-ўдарнікі фабрыкі «Пролетарская перамога» (асноўнае прадпрыемства Бярэзінскага камбіната) выступілі з адкрытым пісьмом на старонках газеты «Рабочий». Рабкоры зусім правільна пісалі, што на камбінаце няма сапраўднага кіраўніцтва нізавым друкам, што ім не дапамагаюць у рабоце.

Яны прапанавалі арганізаваць усебеларускае соцыялістычнае спаборніцтва на лепшую падрыхтоўку да з'езда рабселькораў БССР. Але партыйныя, комсамольскія і профсаюзныя арганізацыі камбіната і, перш за ўсё, «Чырвоны бярэзінец» не зрабілі адсюль ніякіх вывадаў. Становішча астаецца **ранейшым.**

Раённая газета **«Большэвік Барысаўшчыны»** таксама не бачыць, што на такім буйным прадпрыемстве, як Бярэзінскі камбінат, апашляюцца і аказёньваюцца асноўныя прынцыпы работы нізавога друку, што там прыглушаецца ініцыятыва рабкораў, што там няма правільнага кіраўніцтва, штодзеннай дапамогі ў рабоце нізавога друку.

Рэдактар адной з цэхавых газет тав. Шпац гаворыць:

— У нас на камбінаце няма сістэматычнай работы з рэдактарамі цэхавых газет і рабкорамі.

Нам, рэдактарам, трэба вучыцца, але вучобу ў нас не арганізуюць. Рэдактар «Большэвіка Барысаўшчыны» тав. **Мятла** абяцаў арганізаваць семінар для рэдактароў цэхавых газет. Але гэта так і асталося толькі абяцаннем. Рэдактароў на камбінаце вельмі часта мяняюць. Не паспее чалавек узяцца за работу, як рэдактарам ужо назначан другі.

Трэба прама сказаць, што і партыйная арганізацыя і «Чырвоны бярэзінец», «Большэвік Барысаўшчыны» намі дрэнна кіруюць.

У чым памылка партыйнай арганізацыі і шматтыражкі камбіната. Тут не зразумелі, або не хочуць зразумець, што друк, газета павінны рабіцца самімі масамі, што трэба ўсямерна спрыяць самадзейнасці, ініцыятыве рабкора, вучыць яго кіраваць ім, даючы шырокі размах яго творчым і арганізатарскім здольнасцям.

Большэвіцкая газета — газета саміх мас, а не газета для мас. «Чырвоны бярэзінец» заглушае ініцыятыву нізавых рэдкалегій,ператварыўшы іх толькі ў пастаўшчыкаў заметак. Таму ўсе газеты запоўнены адным і тым-жа матэрыялам, аформлены па аднаму : таму-ж стандарту. Не будзе перапавелічэннем сказаць, што «Чырвоны бярэзінец» проста выпускае своеасаблівы прэсбюлетэнь размножаны ў 25 экземплярах.

Многія ўдарнікі Бярэзінскага камбіната — актыўныя рабкоры не толькі раённага, але і цэнтральнага друку. Пры жаданні «Чырвоны бярэзінец» можа згуртаваць вакол сябе моцны рабкораўскі актыў, здольны разам з усім рабочым калектывам рабіць баявыя поўнакроўныя газеты.

Але «Чырвоны бярэзінец» не бачыць жывых людзей. Іх засланіла фігура рэдактара 25 газет...

# Вялікія справы невялічкай газеты

**Іван Тарасевіч** — рэдактар насценгазеты брыгады Лявоненка — стаіць перад новым нумарам брыгаднай газеты.

Падыходжу. Пытаюся, у чым справа.

Усміхнуўшыся, Іван паказвае на толькі што вывешаную газету **«У бой за торф»** — глядзі.

— Сезонны план ёсць. Выканалі на 101 проц., выканалі да 15 ліпеня — на цэлы месяц раней тэрміну.

Прыглядаюся:

Сапраўды ў газеце, у прыгожай чырвонай рамцы змешчан рапарт аб датэрміновым выкананні сезоннага плана.

Побач з рапартам ганаровая дошка лепшых ударнікаў брыгады. Яны-ж і актыўныя рабкоры брыгаднай газеты: **тт. Трубачова П., Хайдзеева У., Таўстыкін, Лявоненка.**

Тут-жа ў газеце змешчана самаабавязацельства брыгады—даць 1.000.000 шт. торфацаглін звыш плана да канца сезона.

Работа сур'ёзная. Мільён цаглін — гэта вялікая справа, гэта яшчэ сотні тон паліва для нашай прамысловасці.

Вось чаму Іван Тарасевіч з асаблівым хваляваннем стаіць каля газеты і думае: часу асталося мала, але мільён

цаглін трэба даць, не гледзячы ні на што.

Тарасевіч з лепшымі рабкорамі-ўдарнікамі брыгады пачынае праз брыгадную штодзенку змагацца за тое, каб слова сваё брыгада стрымала.

**«50.000 цаглін за змену!»**

Пад гэтым лозунгам штодзенка пачынае работу.

Зводкі, якія кожны дзень змяшчаліся ў насценгазеце, паказвалі, як брыгада выконвае сваё слова: 40, 45, 50, 55 тысяч торфацаглін за змену.

Ямшчык тав. **Сцібуноў** пачаў адставаць, спасаваў. Ён гаварыў:

**«Свой план мы выканалі, зараз можна адпачыць».**

Газета ставіць гэта пытанне на сваіх старонках. Склікаецца агульны сход брыгады. Іван Тарасевіч, як рэдактар брыгаднай газеты, выступае і таворыць, што сорам брыгадзе не выканаць дадзенага слова. Уся брыгада тутарыла з Сцібуновым. Тав. Сцібуноў сваю памылку выправіў і стаў працаваць не горш за іншых.

Даць 40-45 тысяч цаглін за змену (норма планавая 32.000) было ўжо справай дасягнутай. Брыгада давала па 50 тысяч цаглін і нават больш.

Так з нумара ў нумар газета змагалася за гонар брыгады, згуртоўвала брыгаду, натхняла яе волям да канчатковай перамогі.

Уключыўшыся ў паход імя тав. Гікала, газета дапамагала разгарнуць спаборніцтва паміж ямшчыкамі, сцільнічыкамі, рабочымі, ролевага стала на лепшую работу.

— Шмат нам дапамагла газета ў справе выканання плана, — гаворыць начальнік агрэгата тав. **Бароўскі.**

— Іван Тарасевіч, — прадаўжае тав. Бароўскі, — не толькі добры рэдактар газеты, ён таксама лепшы ўдарнік у брыгадзе, ізатавец тарфяной прамысловасці.

Скончан сезон. Брыгада тав. Лявоненкі падагульвае вынікі — 138 проц. плана. Узятае самаабавязацельства поўнасцю выканана. Брыгада дала звыш плана 1.000.000 торфцаглін. І ў гэтым вялікая заслуга газеты «У бой за тэхніку», яе рэдактара Івана Тарасевіча.

Тав. Тарасевіч прэміраван.

**ЭС.**

**АСІНТОРФ.**

# Яшчэ лепш будзем працаваць

Пішу вам з калгаса **«Чырвоны пуцілавец», Чырвона-слабодскага** раёна. Сам я радавы калгаснік гэтага калгаса. Па грамадскай рабоце маю нагрузку рэдактара калгаснай насценгазеты **«Ударнік».**

Наш калгас мае 3 брыгады, вялікі калгас. Адна калгасная насценгазета не можа ахапіць работу ўсіх брыгад, асабліва ў часе палявых работ. Таму мы рашылі арганізаваць невялікія насценгазеты ў кожнай брыгадзе. І ў сёлетнюю ўборачную кампанію гэтыя брыгадныя штодзенкі вельмі дапамаглі агульнакалгаснай насценгазеце змагацца за своечасовую ўборку без страт, за моцную працоўную дысцыпліну.

Рэдкалегія насценгазеты «Ўдарнік» складаецца з 4 чалавек: рэдактара насценгазеты і трох членаў рэдкалегіі. Члены рэдкалегіі агульнакалгаснай насценгазеты тт. **Канаплянік Пятро, Даўгалевец** Мікола і **Наумовіч** Аляксей аднačасова з'яўляюцца рэдактарамі брыгадных насценгазет. Такое сумяшчэнне добра тым, што рэдкалегіі агульнакалгаснай насценгазеты лягчэй кіраваць работай брыгадных насценгазет. На пасяджэнні агульнакалгаснай рэдкалегіі мы абгаварваем не толькі работу агульнакалгаснай насценгазеты «Ударнік», але і работу і планы кожнай нашай брыгаднай насценгазеты.

У калгасе нашым належнага парадку яшчэ няма. Кіраўніцтва калгаса — старшыня **Зянкевіч** і члены праўлення часта п'янствуюць, махнуўшы рукой на работу. Не толькі дапамогі нам не аказваюць ніякай, **але і не рэагуюць на тыя заметкі, што друкуюцца ў нашых насценгазетах.**

Прыкладу праўлення следуюць і некаторыя іншыя работнікі калгаса. Рахункавод і дзелавод калгаса маглі-б дапамагчы нам тэхнічна афарміць насценгазеты, але яны і не думаюць пра гэта.

Цяжка прыходзіцца працаваць над выпускам насценгазет. Часцей за ўсё выпускаем іх ноччу, вярнуўшыся з калгаснай работы. К таму-ж усе мы — члены рэдкалегіі — як палітычна, так і па частцы граматнасці слаба падкаваны.

**Але ўсё гэта ні на хвіліну не аслабіць нашай работы, бо мы ведаем, што выпускаючы насценгазеты, мы робім карысную і патрэбную справу.** К усебеларускаму з'езду рабселькораў яшчэ лепш возьмемся за паляпшэнне работы нашых насценгазет. Будзем бязлітасна бічаваць кожнага гультая, прагульшчыка, лядбайніка ці ён будзе радавы калгаснік, ці сам старшыня калгаса.

**Уладзімір ШАДУРКА.**

Калгас «**Чырвоны пуцілавец**» — рэдактар насценгазеты «Ударнік», **Чырвона-слабодскага раёна.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Атрымаўшы пісьмо тав. Шадурка В., рэдакцыя журнала «Большэвіцкі друк» выслала рэдкалегіі насценгазеты «Ударнік» кнігі і журналы па пытаннях рабселькораўскай работы.**

**Адначасова настойліва просім рэдакцыі раённай і палітаддзельскай газет: «КАЛГАСНІК» (т. САКАЛОЎСКАГА) і «ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ ТЭМПЫ» (Т. КАНТАРОВІЧА) паслаць у калгас «Чырвоны пуцілавец» сваіх прадстаўнікоў для аказання практычнай дапамогі насценгазетам і селькорам калгаса. Праверце рэагаванне на заметкі калгаснай і брыгадных насценгазет. Пастаўце пытанне аб ПРЫЦЯГНЕННІ ДА АДКАЗНАСЦІ тых кіруючых работнікаў калгаса, якія ігнаруюць сігналы селькораў. Акажыце патрэбную дапамогу ў вучобе рэдактароў насценгазет і селькораў калгаса. Аб прынятых вамі мерах просьба паведаміць рэдакцыі журнала.**

*НАШЫ ПРАПАНОВЫ*

# НЕАБХОДНА СТВАРЫЦЬ БЕЛФОТО

Саюзфото рассылае раённым і палітаддзельскім газетам клішэ. Гэта вельмі добрая справа. Змешчаны ў газеце здымак ажыўляе газету. Газета наглядна паказвае рабочаму і калгасніку нашы дасягненні на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, паказвае знатных людзей — ударнікаў нашых прадпрыемстваў і соцыялістычных палёў.

Але фотаздымкаў, якія-б адлюстроўвалі соцыялістычнае будаўніцтва БССР, жыццё заводаў, фабрык, калгасаў нашай рэспублікі, паказвалі знатных людзей Совецкай Беларусі, — у раённым і палітаддзельскім друку амаль няма. Гэта з'яўляецца значным недахопам нашых раённых і палітаддзельскіх газет.

Я, напрыклад, часта змяшчаю фотаздымкі прадпрыемстваў, соўгасаў і калгасаў з Масквы, Украіны і іншых краёў Совецкага Саюза. Гэта безумоўна неабходна і вельмі добра, але дрэнна тое, што наша газета не мае ні **аднаго клішэ** аб рабоце прадпрыемстваў, соўгасаў і калгасаў БССР.

Таму лічу, што неабходна стварыць у БССР арганізацыю тыпу Саюзфота, якая-б снабжала друк Беларусі клішэ, зробленымі на мясцовым матэрыяле. Тады нашы газеты будуць мець магчымасць наглядна паказваць сваім чытачам рост і дасягненні соцыялістычнага будаўніцтва БССР. Гэтага настойліва патрабуюць чытачы палітаддзельскага друку.

**ДУБІЦКІ**

**рэдактар газеты «Палітаддзельская звязда».**

А. МАТУСЕВІЧ

# ГАВОРАЦЬ ЗНАТНЫЯ ЛЮДЗІ

## ПРАМЫСЛОВАСЦІ І СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Па ініцыятіве **«Крестьянской газеты»** знатныя людзі Совецкага Саюза пачалі перапіску. Лепшыя ўдарнікі соцыялістычных заводаў, фабрык, калгаснай вёскі праз пісьмы, якія друкуюцца на старонках цэнтральнага, раённага і палітаддзельскага друку, пачалі абменьвацца вопытам сваёй работы.

У перапіску знатных людзей прамысловасці і сельскай гаспадаркі ўключыліся і паасобныя газеты Совецкай Беларусі. Першай узялася за гэту справу газета **«Калгаснік Беларусі»**, на старонках якой ужо змешчана некалькі пісем лепшых калгаснікаў-ударнікаў, ударнікаў Гомсельмаша і іншых прадпрыемстваў.

**
*

**«Большэвік Барысаўшчыны»** 5 жніўня абвясціў раённую пераклічку знатных людзей. На старонках раённай газеты выступілі лепшы ўдарнік і брыгадзір гаспадарча-разрахунковай брыгады барысаўскага фанернага завода тав. **Сухачэўскі** і лепшы брыгадзір калгаса **«Чырвоная ноў» Бык Сцяпан.** Выступілі на старонках раённай газеты таксама старшыні перадавых калгасаў і лепшая ўдарніца МТФ тав. **Гардзеева Антаніна.**

> «Дарагі таварыш Сухачэўскі! Я прачытаў у раённай газеце «Большэвік Барысаўшчыны» тваё пісьмо. Ты, тав. Сухачэўскі, працуеш брыгадзірам гаспадарча-разрахунковай брыгады, перавыконваеш свой промфінплан, даеш не дрэнную якасць. Мяне гэта вельмі радуе. Я працую брыгадзірам у калгасе...»

так пачынае сваё пісьмо лепшы брыгадзір калгаса «Чырвоная ноў» да брыгадзіра фанернага завода тав. Сухачэўскага.

Калгасны брыгадзір расказаў брыгадзіру з фанернага завода, як ён навучаўся зімой на курсах і як потым, прыехаўшы з гэтых курсаў, узяўся за ліквідацыю абязлічкі ў сваёй брыгадзе, за наладжанне работы на канюшні, за ўкараненне ў калгас здабытых ведаў па агратэхніцы.

Прайшлі гарачыя дні сяўбы, набліжалася ўборка. Бык Сцяпан сумесна з старшынёй калгаса т. Швайбовічам абмяркоўваюць пытанні арганізацыі работы на ўборцы, уводзяць індывідуальную эдзельшчыну, дабіваюцца і высокіх тэмпаў і высокай якасці работы.

Брыгадзір расказвае: 5 жніўня — на 16 дзён раней — як у мінулым годзе калгас скончыў уборку і датэрмінова завяршыў хлебапастаўкі. У заключэнне свайго пісьма Бык Сцяпан піша:

> «Дарагі тав. Сухачэўскі! З твайго пісьма я бачу, якая моцная дысцыпліна ў вас, на фабрыцы, як вы па-баявому змагаецеся за выкананне промфінплана. Гэту пролетарскую дысцыпліну я буду імкнуцца ўвесці ў сваёй калгаснай брыгадзе...
>
> Вось закончым хлебапастаўкі, засыпем насенны і фуражны фонды, засеем азімы клін, убярэм і разлічымся з дзяржавай па бульбе, па льну і тады я запрашаю цябе, тав. Сухачэўскі, з лепшымі ўдарнікамі тваёй брыгады да нас, на наша калгаснае свята, свята ўраджаю і калектывізацыі. Давай будзем спаборнічаць: ты — на лепшае выкананне промфінплана, а я — на лепшае правядзенне асенніх палявых работ і дзяржаўных паставак».

13-га жніўня «Большэвік Барысаўшчыны» друкуе пісьмо брыгадзіра паляводчай брыгады калгаса «Комінтэрн», Карсакоўскага сельсовета, тав. **Усоскага Лукаша** да брыгадзіра паляводчай брыгады калгаса **«Чырвоная зорка» Дакукі Івана.** Тав. Усоскі піша аб поспехах калгаса:

«У гэтым годзе калгаснікі за сваю ўдарную работу атрымаюць на працадзень значна больш, чым у мінулым. Калі ў мінулым годзе на адзін працадзень калгаснікі атрымлівалі 1,1 кгр. збожжа, то у гэтым годзе на адзін працадзень выйдзе больш 4 кгр. зернавых апрача гародніны, бульбы і грошай».

Як-жа калгас здабываў гэтыя перамогі, якімі шляхамі ішоў да гэтых поспехаў? На гэта падрабязнага адказу Лукаш Усоскі не дае. І ў гэтым істотны **недахоп яго пісьма да брыгадзіра паляводчай брыгады калгаса «Чорвоная зорка».**

Тав. Дакука будзе падрабязна чытаць гэта пісьмо, ён даведаецца, што ў калгасе «Комінтэрн», які складаецца з 100 гаспадарак і 300 працаздольных калгаснікаў, ёсць 5 добрых жняярак, дзве касілкі, конныя граблі, машына для пасадкі бульбы, што ў калгасе ёсць свой рухавік магутнасцю ў 18 конскіх сіл, пабудаваны новыя гумны, канюшні, кароўнікі і цялятнікі. Тав. Дакука прачытае ў адрасаваным яму пісьме і пра такія дасягненні калгасніц «Комінтэрна», як арганізацыя 2 яслей, 1 дзіцячай пляцоўкі. Але за гэтымі яркімі фактамі велізарнага росту калгаса тав. Дакука хоча бачыць будні калгаса «Комінтэрна», хоча ведаць, як у ім працуюць паасобныя ўдарнікі, хоча знаць «сакрэт» гэтых перамог.

А падрабязнага адказу на гэта ён не знойдзе.

Тав. Усоскі пералічыў прозвішчы лепшых ударнікаў калгаса: **Несцяровіч Павал, Забалоцкі Іван, Забалоцкая Вера.** Але ён не паказаў у сваім пісьме ніводнага яркага момантa з іх ударнай работы ў калгасе.

Брыгадзір паляводчай брыгады калгаса «Комінтэрн» піша, што **«на лодыраў уздзейнічалі самі калгаснікі, бралі іх на буксір, крытыкавалі ў насценнай газеце.**

Але ён ні слова не гаворыць аб формах гэтага ўздзеяння на адстаючых і не перадае таго вопыта работы, які хацелі-б запазычыць у іх брыгадзіры з калгаса «Чырвоная зорка».

Пісьмо тав. Усоскага больш пералічвае поспехі калгаса, чым перадае метады работы. І ў гэтым недахоп пісьма.

23 жніўня «Бальшавік Барысаўшчыны» надрукаваў пісьмо ўдарніцы **Гардзеевай Антаніны** да даглядчыцы цялят з калгаса **«XIII годдзе Окцябрскай рэволюцыі» тав. Анжэ.**

«Даведалася я, дарагая Анжэ, што ты ў калгасе лепшая ўдарніца па догляду цялят. Я таксама працую дагляд чыцай цялят у калгасе. І вось рашыла напісаць пісьмо праз газету «Бальшэвік Барысаўшчыны».

Гардзеева Антаніна ганарыцца вынікамі сваёй ударнай работы ў калгасе. Гардзеева Антаніна даглядае 40 калгасных цялят і ўсе яны ўпітаныя і здаровыя.

Расказаўшы аб сваіх поспехах знатная ўдарніца калгасе даглядчыца цялят спыняецца на «дробязях». Яна перадае свой спосаб варыва пойла для цялят.

«Пойла для цялят таксама трэба ўмець варыць. Не давары яго, або хай крыху падгарыць, ці што іншае, ужо даваць цяляці яго нельга... Я падрыхтоўваю пойла такім парадкам: налію шы вялікі кацёл вады, загатую яго і потым у гэту загатаваную ваду стаўлю другі кацёл, ужо з пойлам. Так яно ніколі не падгарыць. І пойла выходзіць добраякаснае, чыстае і спажыўнае для цяляці».

Добрым варывам пойла, своечасовым паеннем цялят лепшая ўдарніца Гардзеева папярэджвае захворванне. На ферме зараз няма адыходу маладняка.

**

31 жніўня «Бальшавік Барысаўшчыны» надрукаваў **адказ старшыні калгаса імя Варашылава тав. Шыкаўца на пісьмо старшыні калгаса «Чырвоная Трасцяніца» тав. Валчаніна.**

Калгаснікі калгаса імя Варашылава ўжо ў гэтым годзе стануць заможнымі. Многія сем'і атрымаюць звыш 200 пуд. хлеба і па 400 пудоў бульбы. Калгас адным з першых у раёне завяршыў уборку і выканаў план хлебапаставак Калгаснікі авалодваюць тэхнікай соцыялістычнага земляробства. 8 раз у месяц праводзяцца заняткі ў агратэхгуртках калгаса. А ў выніку ўзняўся ўраджай калгасных палёў, расце матэрыяльны добрабыт калгаснікаў.

Зараз ў калгас імя Варашылава ўлілося яшчэ 11 аднаасобных гаспадарак. Усё гэта яркія поспехі калгаса. Але ў пісьме старшыні калгаса тав. Шыкаўца, які ў радзе папярэдніх пісем, змешчаных на старонках раённай газеты, усё-ж мала расказваецца, якім чынам калгас дасягаў гэтых поспехаў. У пісьме не гаворыцца ні аб метадах арганізацыі працы ў брыгадах, ні аб асобных героях калгаса, няма і паказу штодзеннай работы жывых людзей. **А калгаснікі «Чырвонай Трасцяніцы» прагнуць чаму небудзь навучыцца ў варашылаўцаў, запазычыць што-колечы для сябе, пераняць лепшыя ўзоры работы знатных людзей з калгаса імя Варашылава.**

Аб гэтым выхаваўчым значэнні перапіскі ні на мінуту не павінна забываць рэдакцыя раённай газеты.

***

Зараз у перапіску знатных людзей Савецкага Саюза ўключыліся і асобныя палітаддзельскія газеты. 15 жніўня газета палітаддзела Капыльскай МТС **«За большэвіцкі калгас»** надрукавала пісьмо **старшыні калгаса імя Молатава тав. Сабалеўскага знатнаму чалавеку Савецкага Саюза тав. Фандзюшыну** — майстру падрыхтоўчай змены кавальскага цэха сталінградскага трактарнага завода.

**«За тэмпы і якасць»** — газета палітаддзела Слуцкай МТС — друкуе спіс знатных людзей калгасных палёў Случчыны, занесеных палітаддзелам МТС у чырвоную кнігу.

«Рэчыцкая праўда» паведамляе аб раённым злёце знатных людзей і старшынь калгасаў Рэчыцкага раёна. Але ўсё гэта толькі пачатак вялікай справы папулярызацыі лепшых узораў работы ўдарнікаў і герояў працы соцыялістычных фабрык і калгасных палёў.

**Аддзел культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б рэкамендаваў цэнтральным, раённым, палітаддзельскім і фабрычна-заводскім газетам БССР арганізаваць на сваіх старонках пераклічку знатных людзей прамысловасці і сельскай гаспадаркі.** Арганізацыя такога жывога абмену вопытам, склікание пры рэдакцыях спецыяльных злётаў знатных людзей — усё гэта дзейсныя формы распаўсюджвання лепшых узораў барацьбы ў калгасе — за ўраджай, на заводзе — за промфінплан.

Шырокім разгортваннем **масавай работы вакол перапіскі і склікаемых злётаў знатных людзей,** уцягваннем лепшых ударнікаў у работу цэнтральнага, раённага, палітаддзельскага і фабрычна-заводскага друку дапаможам мільённым масам рабочых і калгаснікаў аўладаць метадамі ўдарнай работы знатных людзей Савецкага Саюза.

Пераклічка знатных людзей пачалася. Жывая крыніца накопленага вопыта і ініцыятывы б'еццa на паверхню. Калгасны брыгадзір Бык Оцяпан выклікае лепшага брыгадзіра фанернага завода Сухачэўскага на спаборніцтва: **«Давай будзем спаборнічаць: ты — на лепшае выкананне промфінплана, а я на лепшае скончэнне асенніх палявых работ і дзяржаўных паставак».**

Задача раённых, палітаддзельскіх, фабрычна-заводскіх газет падхапіць гэту жывую ініцыятыву мас і зрабіць лепшыя ўзоры работы ўдарнікаў соцыялістычнай будоўлі здабыткам кожнай фабрыкі і завода, кожнай калгаснай брыгады і фермы.



**Рабкоры-ўдарнікі, трактарысты саўгаса «Вызваленне», Смалявіцкага раёна здалі тэхмінімум на «выдатна» і атрымалі значок «ЗОТ».**

## Г. М. ГУРЭВІЧ

# КАРЭСПАНДЭНТЫ-РЭГІСТРАТАРЫ

Якасць работы карэспандэнцкай сеткі Белта вызначае якасць работы ўсяго агенцтва. Работа карэспандэнта Белта з'яўляецца выключна адказнай, паколькі Белта асвятляе ў друку БССР і ўсяго Саюза соцыялістычнае будаўніцтва Савецкай Беларусі.

ЦК КП(б)Б у сваім апошнім рашэнні аб рабоце Белта адзначае **нездавальняючы** стан карэспандэнцкай сеткі, нездавальняючае кіраўніцтва ёю з боку Белта, а таксама мясцовых партыйных арганізацый.

Гэта рэзка адбіваецца як на паступленні інфармацыі, так і на яе якасці. Белта яшчэ зусім недастаткова і слаба асвятляе поспехі соцыялістычнага будаўніцтва БССР, жыццё раёнаў і прамысловых цэнтраў рэспублікі.

Рад рашаючых пытанняў, як пытанні партыйнага будаўніцтва, нацыянальнай палітыкі, работы прамысловасці і т. д. зусім выпадаюць з пад увагі карэспандэнтаў.

ЦК КП(б)Б прапанаваў Белта палепшыць кіраўніцтва карэспандэнтамі, ачысціць карэспандэнцкую сетку ад непрацаздольных людзей, арганізаваць работу карэспандэнтаў так, каб яны сістэматычна і аператыўна асвятлялі асноўныя моманты з жыцця сваіх раёнаў, барацьбу за планы соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба прама заявіць, што работа карэспандэнцкай сеткі Белта яшчэ і зараз не забяспечвае выканання задач, пастаўленых ЦК КП(б)Б. З 30-ці раённых карэспандэнтаў Белта мы маем толькі вельмі невялікую групу актыўных карэспандэнтаў, якія працуюць сапраўды аператыўна. Асноўную-ж масу карэспандэнтаў, на жаль, трэба аднесці да ліку працуючых не сістэматычна, з перабоямі, не аператыўна. Сярод іх даволі вялікая колькасць такіх, якія лічацца карэспандэнтамі толькі на паперы, месяцамі не даючы ні адной карэспандэнцыі, не глядзячы на неаднаразовыя напамінанні, прапановы і т. д. Вось гэты «пасіў» нашай карэспандэнцкай сеткі: **Дзесюкевіч** (Лепель), **Бароўскі** (Старобін), **Кацюшэнка** (Дрыса), **Міхалюк** (Жлобін), **Аўдзюшэнка** (Нароўля), **Кляцкоў** (Камарын), **Стасевіч** (Лельчыцы), **Прахарэнка** (Касцюковічы).

А на практыцы гэта азначае, што жыццё ўказаных раёнаў мы зусім не асвятляем. За гэта, безумоўна, нясуць поўную адказнасць пералічаныя таварышы, якія ігнаруюць даручаную ім работу і адносяцца да яе выключна безадказна.

Побач з гэтым мы маем сапраўды актыўных карэспандэнтаў, да ліку якіх можна аднесці **Харытановіча** (Сіроціна), **Лапцева** (Парычы), **Эрдмана** (Полацк), **Мурашка** (Орша), **Шыкун** (Магілеў) і інш. Гэтыя таварышы працуюць аператыўна, даюць цікавую, арыгінальную інфармацыю, выконваюць заданні і т. д. Яны з'яўляюцца тым карэспандэнцкім актывам, на які можна апірацца ў рабоце.

Белта дагэтуль нездавальняюча спраўляецца з ускладзенымі на яго задачамі. Гэта перш за ўсё адбіваецца на тэматыцы інфармацыі. У матэрыялах карэспандэнтаў пераважае інфармацыя аб сельскай гаспадарцы. Зусім нездавальняюча асвятляюцца работа прамысловасці, пытанні жывёлагадоўлі, пытанні культурнага будаўніцтва і тым больш, пытанні партыйнага будаўніцтва, нацыянальнай палітыкі партыі і т. д.

Але, калі ўзяць пытанні сельскай гаспадаркі, то і іх асвятленне знаходзіцца таксама на належнай вышыні. Неаднаразовыя патрабаванні Белта да карэспандэнцкай сеткі даць палітычна актуальную, разгорнутую інфармацыю, насычаную жывымі прыкладамі, як правіла, не выконваюцца. Карэспандэнты абмяжоўваліся кароткай заметкай, рэгіструючай той ці іншы факт.

Характэрная дэталь. Карэспандэнт Белта па Лоеўскаму раёну **Казлоў** атрымаў заданне Белта прыслаць матэрыял аб рэалізацыі рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б). Казлоў праз 7

дзён тэлеграфуе, што заданне ён выканаць не можа, бо ў раёне па рэалізацыі рашэнняў пленума... нічога не зроблена.

Але і тады, калі карэспандэнты прабавалі даць абагулены вопыт, то яны часта не могуць вырвацца з палону агульных фраз, за якімі губляецца ўсё канкрэтнае, спецыфічнае, уласцівае іменна данаму калгасу, данай брыгадзе і, значыць, каштоўнасць карэспандэнцыі зводзіцца да нуля. Чаго, напрыклад, варта карэспандэнцыя клімавіцкага карэспандэнта **Кагана,** які вопыт работы лепшай калгаснай брыгады (брыгадзір т. Талтонаў) перадае такімі словамі:

> **«Брыгада Талатонава паказвае ўзоры работы. У гэтай брыгадзе разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва, арганізавана праца. Кожны калгаснік і калгасніца ведаюць загадзя, што і дзе трэба рабіць. Шырока ўжываецца групавая і індывідуальная здзельшчына».**

Ясна, што пра работу сотень лепшых брыгад не толькі БССР, але і ўсяго Саюза можна сказаць літаральна гэтымі-ж словамі. Дзе жывы вопыт гэтай брыгады, канкрэтныя прычыны яе поспехаў, як яны былі дасягнуты, прозвішчы перадавікоў і т. д.? Нічога гэтага няма.

Або вось шухавіцкі карэспандэнт г. **Жук піша:**

> **«Дзякуючы шырока разгорнутай растлумачальнай рабоце старшыні Дрычанскага сельсовета ў калгас уліпося 19 гаспадарак».**

Але ў чым-жа заключаецца гэта растлумачальная работа, карэспандэнт так і не ўдасужыўся сказаць, абмяжоўваючыся агульнай фразай, штампам.

Многія карэспандэнты зусім не працуюць над матэрыялам. Адзінай крыніцай інфармацыі для іх з'яўляецца... раённая газета, а не калгас, не брыгада. Яны мала бываюць на прадпрыемстве, у калгасе, у брыгадзе (а калі і бываюць, то налётамі, гастролямі). Адсюль шаблоннасць, трафарэтнасць і поўная бездапаможнасць іх карэспандэнцый.

Гэтыя карэспандэнты дрэнна звязаны з кіруючымі раённымі арганізацыямі, таму яны слаба знаёмы з агульным становішчам у раёне. Зачастую карэспандэнт не бачыць галоўных, асноўных вырашаючых для раёна пытанняў. Адсюль і другая бяда многіх карэспандэнтаў — адсутнасць пэўнай лініі ў рабоце па асвятленню становішча ў раёне. Ён піша аб усім, асвятляе пытанні і становчыя і адмоўныя, але інфармацыя яго бесхрыбетна. Пэўнай лініі ў інфармацыі, аналізу падзей, разумення таго, на што трэба ўзяць упор, дзе тое галоўнае звяно, ухапіўшыся за якое можна выцягнуць увесь ланцуг—у яго няма. Таму інфармацыя часта носіць апалітычны, крохаборніцкі характар, абыходзіць галоўныя пытанні і не паказвае сапраўдны стан рэчаў.

Адсюль вынікае і тое, што такія карэспандэнты знаходзяцца на пазіцыях рэгістратара, не сігналізуюць пра наспяваючыя падзеі.

Недзіва пасля гэтага, што іменна пытанні партыйнага жыцця, пытанні нэп-палітыкі партыі, класавай барацьбы і т. д. поўнасцю выпадаюць з тэматыкі многіх карэспандэнтаў.

Тут неабходна глыбокае вывучэнне пытання, палітычная чуласць, класавая пільнасць, тое, чаго яшчэ не хапае нашым карэспандэнтам.

Усё гэта ў вышэйшай ступені сур'ёзна ставіць перад Белта пытанне аб палепшэнні кіраўніцтва карэспандэнтамі, на што робіць упор рашэнне ЦК КП(б)Б. Але не меншая адказнасць кладзецца на мясцовыя партарганізацыі. На іх рашэнне ЦК ускладае абавязак кіраваць і кантраляваць, заслухоўваць справаздачы карэспандэнтаў, прыцягваць іх на пасяджэнне райкома і інш. Але гэтага яшчэ няма, дагэтуль карэспандэнт зусім безадказны ў сваёй рабоце і бескантрольны аж да такіх выпадкаў, што рэдакцыя талачынскай райгазеты, ведаючы, што карэспандэнт Белта па Талачынскаму раёну Чарняўскі зняты з работы ў рэдакцыі, не паведамляе Белта аб гэтым і Белта даведваецца пра гэта выпадкова. Як гэта расцэньваць, як не выключна лёгкадумнымі адносінамі к той палітычна важнай рабоце, якую выконвае карэспандэнт Белта.

Рашэнне ЦК патрабуе ад нас пакончыць з усімі гэтымі недахопамі і ўзняць работу карэспандэнцкай сеткі Белта і кожнага карэспандэнта на ўзровень задач, пастаўленых перад намі ЦК КП(б)Б.



АГІТСАМАЛЁТ У СМАЛЯВІЧАХ. Самалёт падняўся над мітынгам, на яго барту атрымлівае паветранае хрышчэнне лепшы селькор раёна тав. Кішкурно. Доўгай калонай выстраіліся ўдзельнікі мітынга. Яны сочаць за палётам.

*ПЕРАПІСКА З РЭДАКТАРАМ*

# ЗАЙДЗІЦЕ К РАБОЧАМУ НА КВАТЭРУ

**Выконваючаму абавязкі рэдактара газеты «СЦЯГ УДАРНІКА» — органа палітаддзела свінасоўгаса «БАЦЭВІЧЫ» (Клічаўскі раён) тав. ПУЗІКАВУ М.**

Прагляд нумароў вашай газеты **«Сцяг ударніка»** пакідае добрае ўражанне. Газета моцна ўвайшла ў гаспадарчыя справы соўгаса, стала сапраўднай, **вытворчай** газетай соўгаса. За гэта гаворыць тое, што галоўнаму вядучаму цэху соўгаса—свінагадоўлі вы ўдзяляеце выключную ўвагу. Няма таго нумара, у якім не было-б аддзела (а большай часткай паласы) пра работу свінаферм. Свінагадоўля — галоўная задача вашага соўгаса; з усяго відаць, што вы гэта зусім зразумелі.

Другое дасягненне газеты «Сцяг ударніка» заключаецца ў тым, што ў ёй прымае удзел многа рабочых соўгаса. У кожным нумары друкуецца 10-15 заметак рабкораў, часта змяшчаецца брыгадны матэрыял, заметкі груп «лёгкай кавалерыі». Мяркуючы па вашых матэрыялах, рэагаванне на заметкі рабкораў пастаўлена нядрэнна.

***

Газета «Сцяг ударніка» унікнула тыповага недахопу многіх газет, якi заключаецца ў так званай «раённай абмежаванасці». Амаль у кожным нумары цэлую паласу газеты вы адводзіце выдатным падзеям, якія адбываюцца ў Савецкім Саюзе і за мяжой. Трэба адзначыць добрую якасць вашых аглядаў важнейшых падзей за мяжой (аб кампаніі за вызваленне тав. Тэльмана, артыкул «Германскі фашызм па шляху да развалу» і інш.). Яны добрыя тым, што кароткія і талкова і зразумела напісаны. Змяшчэнне такіх невялікіх артыкулаў аб падзеях у Саюзе і за мяжой вы павінны прадаўжаць і ў далейшым. Трэба памятаць, што рабочы соўгаса цікавіцца не толькі тым, што робіцца ў яго соўгасе. Гэту прагнасць рабочага ведаць, што робіцца ва ўсім свеце, вы павінны пры ўсіх невялікіх размерах газеты задаволіць.

***

Мова газеты «Сцяг ударніка», не лічачы некалькіх няўдалых прыкладаў, жывая, даступная нават малаграматнаму рабочаму. Вельмі добра робіце, друкуючы асобныя заметкі, напісаныя ў выглядзе фельетона, жывой гутаркі. Яны робяць матэрыял газеты больш цікавым.

Такавы добрыя бакі вашай газеты, якія заслугоўваюць таго, каб іх пераймалі другія палітаддзельскія газеты.

***

Цяпер укажам на недахопы газеты «Сцяг ударніка». Буйнейшы недахоп у тым, што **газета зусім не займаецца пытаннямі быту рабочых соўгаса, не цікавіцца тым, як жыве рабочы, яго матэрыяльнымі і культурнымі запатрабаваннямі.** Абыходзячы гэтыя важнейшыя для кожнай нашай газеты пытанні, га-

зета «Сцяг ударніка» дапускае **буйную памылку.**

Многа пісем рабочых друкуе «Сцяг ударніка» па розных пытаннях работы соўгаса, па розных кампаніях, але амаль ніводнага пісьма аб тым, як жыве рабочы, на што скардзіцца.

Усё гэта вам трэба ўлічыць, тав. Пузікаў. Не сакрэт, што ў некаторых соўгасах з-за нядбайнасці дырэкцыі бытавыя ўмовы рабочых стаяць не на належнай вышыні. Безумоўна, ёсць недахопы ў гэтай галіне і ў вашым соўгасе. Газета-ж палітаддзела тут можа вельмі многа зрабіць.

***

Пачаць можна хоць-бы з праверкі стану кватэр рабочых. Зайдзіце ў рабочую кватэру, пагутарце з рабочым не ў афіцыяльнай абстаноўцы, распытайце рабочага, яго жонку, дзяцей аб тым, як яны жывуць, чаго ў іх не хапае, што-б яны жадалі набыць, якія маюць патрэбы. Напішыце аб гэтым у вашай газеце, патрабуйце ад дырэкцыі соўгаса дапамогі рабочым у задавальненні іх справядлівых патрабаванняў.

***

Нядаўна за подпісам тав. **Гікала** была апублікавана пастанова ЦК КП(б)Б аб арганізацыі ўзорнай падрыхтоўкі да зімы кватэр рабочых, рамонце вопраткі і абутку рабочых. Гэтым бальшэвіцкім рашэннем ЦК КП(б)Б яшчэ раз напомніў усім партарганізацыям БССР, што іх важнейшая задача далей паляпшаць бытавыя ўмовы працоўных, дапамагаючы рабочым сустрэць зіму ў цёплых, адрамантаваных кватэрах, у цёплай вопратцы і абутку. Гэта ўказанне ЦК КП(б)Б датычыць не толькі заводскіх комуністаў, але і партарганізацый соўгасаў, а значыць і соўгасных газет.

Добра абмяркуйце на сходзе рабкораў гэту пастанову ЦК, выходзячы з яе, намецце практычныя мерапрыемствы, якія газета «Сцяг ударніка» зможа прывесці і прыступайце да справы.

***

Займіцеся таксама пытаннямі **культурнага абслугоўвання рабочых.** У свой час вы нядрэнна пачыналі гэту справу. Добра атрымалася ў газеце за 6 чэрвеня старонка **«Як вы вучыцеся, што чытаеце».** Вы паказалі, як павышаюць свой культурна-палітычны ўзровень асобныя комуністы і комсамольцы соўгаса. З усіх матэрыялаў старонкі відаць, што вучоба ў соўгасе наладжана **дрэнна,** рабочыя зусім мала чытаюць кніжак і газет.

Але гэту добрую справу вы не давялі да канца. Пасля змяшчэння гэтай старонкі ў газеце «Сцяг ударніка» больш нельга знайсці матэрыялаў аб вучобе рабочых соўгаса, рабоце соўгаснай чытальні, бібліятэкі.

Трэба добра памятаць, што культурна-палітычная работа сярод рабочых соўгаса, работа партыйна-комсамольскіх школ і гурткоў, прасоўванне ў гушчы рабочых кніг і газет — гэта важнейшыя пытанні, якімі ваша газета павінна заняцца і весці іх з нумара ў нумар.

# НЕ ПРАЦУЙЦЕ РЫУКАМІ

**Тав. КАЦУ — адказнаму рэдактару шматтыражкі Чэрвеньскага леспрамгаса і райкома саюза лесу і сплава «Ударнік леса»**

Тав. **Кац!** Прагледзеўшы камплект рэдагуемай вамі газеты **«Ударнік леса»** (орган партарганізацыі Чэрвеньскага леспрамгаса і райкома саюза лесу і сплаву) за май-жнівень, адказваем на вашу просьбу і даем свае заўвагі аб рабоце газеты.

Наша першая заўвага.

Газета не кіруе нізавым друкам на лесасплаве, не праводзіць сістэматычнай работы з рабкорамі.

Між тым вы самі прызнаеце буйныя недахопы ў рабоце нізавога друку.

> **«Насценгазеты, якія павінны адыграць вялікую ролю ў мабілізацыі сплаўных работнікаў і плытагонаў на выкананне плана, не ўлічылі важнасці гэтага пытання».**

У тэтым — немалая віна газеты «Ўдарнік леса».

«Ударнік леса» павінен штодзенна дапамагаць нізавым газетам у іх рабо-

це, кіраваць імі, выхоўваць рабкораў, вучыць іх. Гэтай дапамогі нізавыя газеты і рабкоры ад вас яшчэ не атрымалі.

Ні ў чэрвені, ні ў жніўні «Ударнік леса» не змяшчаў матэрыялаў аб рабоце нізавых газет, аб рабоце рабкораў.

Мы атрымалі нумар за 6 верасня, але і ў ім ні слова па гэтых пытаннях.

У ліпені бюро ЦК КП(б)Б вынесла пастанову аб скліканні ўсебеларускага з'езда рабсельковаў. Бюро ЦК вызначыла канкрэтныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы да з'езда. Адным з важнейшых звеннаў падрыхтоўкі з'яўляецца агляд нізавога друку.

Але і пасля пастановы бюро ЦК мы не знайшлі ў газеце «Ударнік леса», паўтараем, ніякіх матэрыялаў аб рабоце нізавога друку, аб рабоце з рабкорамі.

Праўда, іншы раз вы ўспаміналі пра нізавы друк, але іменна толькі ўспаміналі. 7 ліпеня, гаворачы аб Раваніцкім і Хутарскім сплаўных участках, «Ударнік леса» пісаў:

«... **РАБАЧКОМЫ ЗУСІМ НЕ КІРУЮЦЬ РАБОТАЙ НАСЦЕНГАЗЕТ. ЗА ЎВЕСЬ ЧАС СПЛАВА БЫЎ ВЫПУШЧАН ТОЛЬКІ АДЗІН НУМАР НАСЦЕНГАЗЕТЫ. На Раваніцкім участку работніцу Мурашка пры садзейнасці рабачкома Свірыдовіча ЗНЯЛІ З РАБОТЫ ЗА КРЫТЫКУ РАБОТЫ загадчыка сталоўкі Крука».**

Факту абураючага зажыму самакрытыкі газета ўдзяліла ўсяго некалькі слоў. Трэба было не абмяжавацца бяздзейснай рэгістрацыяй, а з усёй рашучасцю абрушыцца на зажымшчыкаў самакрытыкі, дабіцца каб яны былі прыцягнуты да адказнасці, дабіцца карэннага паляпшэння работы насценгазет.

Што канкрэтна павінен зрабіць «Ударнік леса»? Першае, арганізаваць на старонках газеты шырокі абмен вопытам работы лепшых рабкораў сплаву, паказаць рабкора-ўдарніка, яго практычныя справы.

Другое, наладзіць сапраўднае кіраўніцтва работай нізавых газет, дапамагаць ім. Трэба сістэматычна даваць агляд нізавых газет, паказваць іх работу, выпраўляючы недахопы.

Час, які астаўся да адкрыцця ўсебеларускага з'езда рабсельковаў, трэба максімальна скарыстаць для дзелавой падрыхтоўкі. Вось наша першая заўвага.

Другая заўвага. Па вашай газеце, відаць, што з нумара ў нумар у брыгадах друку прымаюць удзел адны і тыя-ж таварышы, напрыклад, тт. Гехт, Тарасевіч, Старобінец і т. д. Іх матэрыялы займаюць амаль усю газету, за выключэннем рэдакцыйных артыкулаў. Гэта гаворыць аб тым, што ў вас ствараюцца своеасаблівыя пастаянныя брыгады друку.

На вашым участку многа рабочых, а рабкораў у газеце можнаналічыць не больш 20. Гэта зноў яшчэ раз паказвае, што з рабкорамі вы працуеце слаба, а іменна, рукамі рабкораў, рукамі рабочага калектыва павінна тварыцца газета.

Трэцяя заўвага. «Ударнік леса» не паказвае як рэагуюць на змешчаныя заметкі, на сігналы рабкораў. Толькі ў першых нумарах мы знайшлі аддзел: «Па сігналах «Ударніка леса».

Пяцер **ужо другі месяц не відаць** ні аднаго матэрыяла, які-б паказваў, як газета змагаецца за дзейснасць змешчаных заметак.

Былі змешчаны, напрыклад, заметкі: «Чужакі кіруюць сплавам», «Склад не адрамантаван», «Разбазарваюць прадукты», «Пакараць расхадвальнікаў», «Жулікам раздолле ў ОРС'е леспрамгаса» і т. д. Кожная заметка па свайму зместу патрабавала неадкладных і энергічных мер. Лёс-жа заметак астаўся **невядомым.**

І апошняя заўвага. У маі і чэрвені надрэнна асвятлялі пытанне лесу і сплаву. У кожным нумары былі карэспандэнцыі, заметкі аб сплаве. Газета добра перадала вопыт работы брыгады сплаўшчыкаў Бандарыка і т. д.

Аднак, калі надышоў рашаючы час для выканання гадавога плана па лесасплаву — ліпень і потым верасень, газета раптоўна спіхла. Яна фактычна больш не пісала аб лесасплаве. Заўчасна дэмабілізаваліся з баявога фронта. тав. Кац.

Трэба працаваць не рыўкамі, не метадамі штурмаў, а сістэматычна, аператыўна, даводзячы кожную справу да канца.

Вось коратка тое, што мы вам хацелі сказаць.

А. ВОЛЖЫНАЎ, М. НЕЙМАН

# Газетная гравюра на лінолеуме

Ва многіх газетах па раду прычын нельга паставіць **цынкаграфію**, г. зн. фотомеханічны спосаб перадачы рысунка. Тут на дапамогу газеце прыходзіць **ГРАВЮРА НА ЛІНОЛЕУМЕ** — спосаб даўно вядомы, просты і танны. Для правядзення гэтай работы не трэба ніякай спецыяльнай мастацкай асветы; пасля некаторай трэніроўкі яна даступна ўсім, хоць крыху умеючым рысаваць.

Усе нашы насценгазеты ілюструюцца мастакамі-селькорамі, рысункі якіх часта вобразны па сваёй форме і трапны па зместу. Рысунак у газеце хутка, лёгка, ясна ўсвойваецца, цвёрда запамінаецца. Дзякуючы сваёй канкрэтнасці, ён нярэдка дзейнічае больш пераканаўча, чым літаратурны вобраз.

Лепшых з гэтых мастакоў-самавучак, выяўленых нашымі насценгазетамі, можа і павінна прыцягнуць палітаддзельская газета. На іх разлічана гэта гутарка. Такі мастак-гравер здолее выразаць на лінолеуме не толькі свае рысункі, але і рысункі іншых селькораў.

Лінолеум з'яўляецца незаменным паліграфічным матэрыялам для нізавога друку. У карысць лінолеума гавораць таннасць, лёгкасць апрацоўкі і вынослівасць. Ліна-гравюра можа вытрымаць 100 і больш тысяч водціскаў.

Уводзячы гравюру на лінолеуме ў практыку нізавога друку, мы несумненна знойдзем у многіх далёкіх мясцах нашага неабдымнага Саюза такія таленты, якія ўнясуць велізарны ўклад у развіццё нашай графікі і наогул савецкага выяўленчага мастацтва.

### РЫСУНАК.

Рысунак робіцца адразу па ўказанаму рэдактарам размеру. Мастак павінен ведаць, што ў газеце дораг кожны радок, таму трэба ўкладваць кампазіцыю рысунка ў магчыма меншую плошчу.

Пачынаючы рысаваць, трэба падрыхтаваць калодку пэўнага размеру, на якую потым наб'ецца выразанае клішэ.



Партрэты, выразаныя па контурных лініях.

Адабраную дошку абводзяць алоўкам на паперы і ў атрыманы чатырохкутнік укладваюць малюнак так, каб ніводзін штрых не выходзіў з размеру дошкі.

Малюнак павінен быць простым, зразумелым, выразным, без лішніх ліній, без лішніх ценяў, каб гравер не заседжваўся доўга над разьбой.

Пры складанні рысунка трэба памятаць, што ён у друку пераверпецца на адваротны бок, таму на рысунку чалавек павінен здароўкацца, працаваць левай рукой, трактары заворваюць на левы бок і т. д. Гэта таксама трэба ўлічыць пры пісанні шрыфта: словы нельга будзе чытаць у друку, калі іх не вывернеш на рысунку (пры падрыхтоўцы арыгінала для цынкаграфскага выканання рысунак не пераварочваецца).

Партрэты пераварочваць не рэкамендуецца, нават калі натура мае якія-небудзь асаблівасці ў твары, якія парушаюць сіметрыю, напрыклад, прычоска на касы прабор і т. п. Партрэт пры пераварочванні вельмі лёгка траціць падабенства. Ў партрэце трэба асабліва сачыць за прастатой рысунка: усякая перагрузка ў штрыхах, ценях таксама дрэнна адаб'ецца на падабенстве.

Гатовы рысунак зацвярджаецца рэдактарам. Гэта — абавязковая ўмова. У алоўку лёгка паправіць усе недахопы: затое вельмі цяжка, часамі нават немагчыма, паправіць тыя-ж недахопы, калі яны ўжо выразаны на лінолеуме.

ГРАВЮРА НА ЛИН

Наочны паказ вырэзвання літар.

Закончаны і зацверджаны рэдактарам, рысунак, пераводзіцца праз капіравальную паперу на кусок лінолеума і абводзіцца чорнай тушшу, каб рысунак не сцёрся ў працэсе разьбы.

**Нож з'яўляецца асноўным інструментам пры разьбе гравюры на лінолеуме.** Усе астатнія інструменты можна разглядаць як дапаможныя.

Адным нажом, нават добрым пачаткоўцам, можна выканаць найлепшую газетную гравюру. Нажом вырэзваюцца на лінолеуме ўсе белыя месцы рысунка. Канцом нажа, працарапваючы паверхню лінолеума, наносяць тонкую шэрую штрыхоўку.

Нажом, нарэшце, выкрышваюць белыя месцы ў клішэ, перад гэтым праразаючы контур удаляемага белага месца.

Пры разьбе нож трэба трымаць злёгку, укось, каб пакінутыя чорныя месцы мелі каля аснавання ўстойлівую плошчу, якая папярэдзіць клішэ ад змінання пад ціскам машыны.



Спосаб разьбы нажом. Злева — няправільны, справа — правільны.

Калі лінолеум выдален з белых месц, нажом згладжваюць няроўнасці, каб унікнуць мазні ў друку. Робяць гэта асцярожна, стараючыся не агаляць тканіны, на якой трымаецца маса лінолеума, інакш клішэ траціць моц.

**Вуглавой стамескай наносяць лініі.** Яны атрымліваюцца шырокія, або вузкія, у залежнасці ад таго, як глыбока павесці інструмент. Круглая стамеска часцей за ўсё ўжываецца ў гравюрах вялікага размеру, напрыклад, плакат. Гэтым інструментам хутка вымаюцца вялікія плошчы белых месц.

Часамі святочныя нумары газет друкуюцца ў дзве фарбы. Рысунак ў гэтым выпадку трэба гравіраваць на двух кусках лінолеума. На адным выразаюць рысунак, прызначаны для чорнай фарбы, а на другім — для другога колеру.

Каб атрымалася ў друку поўнае супаданне, трэба спачатку выразаць клішэ для чорнай фарбы. Калі яно гатова, бяруць з яго водціск на паперу, якую накладваюць (фарбай уніз) на другі лінолеум, прызначаны для другога колеру. Зверху паперу праціраюць пазногцем, каб перавёўся свежаадбіты водціск.

Атрымаўшы водціск, падрысоўваюць і выразаюць усё, што трэба для другога колеру, выдаляючы дэталі першага.

Другі колер нельга пераводзіць праз капіравальную паперу, калі хочуць дабіцца поўнага супадання.

## ДОШКІ.

Перш чым пачынаць рысаваць, трэба падрыхтаваць калодку, ўказанага рэдактарам размеру. Адсутнасць гатовай калодкі затармозіць здачу клішэ ў друкарню.

Да рысунка можна прыступіць, не загатаўляючы загадзя дошкі толькі ў тым выпадку, калі заказ не спешны.

Рэкамендуецца мець заўсёды гатовыя калодкі ў адну і дзве газетныя калонкі рознай даўжыні.

**Вышыня калодкі з набітым на яе лінолеумам не павінна перавышаць вышыні набора.**

Перад адпраўкай у друкарню неабходна праверыць вышыню ўсяго клішэ. Дапускаецца клішэ крыху ніжэй устаноўленага размера, калі-ж яно вышэй — яго раздушыць машына.

## ЛІНОЛЕУМ.

Лінолеум трэба браць гладкі, без выпуклага рысунка, не ніжэй 2½—3 мм. Стары, пашарпаны лінолеум неабходна спачатку адшліфаваць. Для гэтага паверхню яго змочваюць вадой і труць кавалкам пемзы (торцам), пакуль не знікнуць шурпатасці.

У спешных выпадках пашарпаную паверхню націраюць воскам і згладжваюць адваротным бокам перачыннага нажа да люстранога бляску.

Чым цвярдзей ленолеум, тым ён лепш для работы. Між іншым зусім не прыгодны лінолеум перасохшы, які крышыцца пры разьбе.

Прынесены з марозу лінолеум не трэба згінаць да таго часу, пакуль ён не адыдзе, інакш ён патрэскаецца як шкло.

### ІНСТРУМЕНТЫ.

Для газетнай гравюры на лінолеуме карыстаюцца трыма інструментамі: нажом, вуглавой і круглай стамескамі.



**Інструменты для вырэзвання кліша на лінолеуме. Зверху—нож, далей вуглавая стамеска і ўнізе круглая стамеска.**

Інструмент павінен быць заўсёды **вострым.** Точыцца інструмент на цвёрдым бруску, палітым драўляным маслам.

Пры тачэнні нажа трэба сачыць за тым, каб ён быў не толькі вострым, але і не мяняў указанай на рысунку формы лёза.

Пры тачэнні вуглавой стамескі неабходна асаблівая асцярожнасць. Трэба сачыць, каб у кутку лёза не ствараліся завусеніцы.

### РАЗЬБА.

Інструмент пры разьбе трымаюць заўсёды ў адным становішчы, не паварачваючы, левая рука бесперапынна варочае лінолеум, накіроўваючы яго супроць разца.

Пасля скарыстання кліша лінолеум з дошкі знімаецца, а дошку пускаюць пад новую гравюру.

Асабліва дакладна трэба правяраць вышыню дошак, якія былі некалькі раз у друку. Ад многага мыцця ў друкарні дошка разбухае і яе трэба час-ад-часу падстругваць.

**ВЫПРАЎЛЕННЕ КЛІШЭ** — справа цяжкая і не заўсёды магчымая. Існуюць тры спосабы:

**ПЕРШЫ СПОСАБ** ужываецца ў тых выпадках, калі сапсаваны паасобныя месцы ў кліша. Гэтыя месцы вырэзваюць кругом па белых частках, не закранаючы рысунка. У выразаныя месцы набіваюць такой-жа вышыні лінолеум, на які наносіцца і выразаецца нехапаючы рысунак. Гэты спосаб выпраўлення сустракаецца часцей за ўсё пры разьбе шрыфта.

**ДРУГІ СПОСАБ** ужываецца тады, калі прыходзіцца рэзаць па чорнаму полю. Каб не было прыкметна злучэння, удаляемае на лінолеуме месца рэжуць наўскось па лінейцы. Таксама наўскось па лінейцы адразаюць і заплату, якую потым моцна злучаюць з пакінутым на дошцы лінолеумам.

Калі на лісце спалучэння будзе узвышанасць, яе асцярожна згладжваюць кавалкам пемзы.

**ТРЭЦІ СПОСАБ** практыкуюць, калі час не дазваляе доўга спыняцца на выпраўленнях.

У гэтым выпадку сапсаванае месца запаўняюць воскам і зраўноўваюць нажом або друкарскай лінейкай ва ўзровень паверхні лінолеума.

Здаючы такі заказ, папярэджваюць друкарню аб тым, каб кліша не мылі і не цёрлі шчоткай да канца друку.

### ПРАМЫЎКА КЛІШЭ.

Фарба з кліша змываецца бензінам.

Звычайна кліша, заастрстае ў набор, па сканчэнні друку мыецца разам з набором шчолачным растворам. Калі кліша разлічана на многа выданняў, напрыклад, загаловак газеты, абвестка і інш., яго трэба вымаць з набору перад мыццём і прамываць асобна бензінам.

Ад частай прамыўкі шчолачным растворам тканіна лінолеума раз'ядаецца і кліша развальваецца.

Не рэкамендуецца прамываць кліша газай, апошняя пакідае тлушчавы налёт, ад чаго на кліша дрэнна кладзецца фарба.

**(з кнігі «Тэхніка афармлення газеты»).**

# Як мы наладзілі выраб уласных клішэ

Добрая карыкатура ці малюнак у раённай або палітаддзельскай газеце—вялікая справа. Малюнак з'яўляецца лепшым, каштоўным



дапаўненнем тэкста, ён дапамагае чытачу лепш усрыняць увесь змест газеты, мабілізуе чытача.

Трапная карыкатура ў раённай або палітаддзельскай газеце — дзейсная зброя большэвіцкай самакрытыкі. Тэма карыкатуры павінна быць канкрэтнай і надзеннай.

Падам некалькі прыкладаў з вопыта раённай газеты «Калгаснік Мазыршчыны».

Рэдактар раённай газеты паслаў разам са мной, мастаком, літаратурнага работніка, арганізатара на будаўніцтве дарогі. Там мы разгарнулі масавую работу.

На месцы пачалі арганізоўваць матэрыял для газеты. Розныя непаладкі былі



**Шлянак, ножык і разец — прылады тт. Герасімовіча для вырэзвання клішэ на лінолеуме.**

тэмай для карыкатур. Пачалі іх рысаваць, выразаць на лінолеуме.

У карыкатурах рабочыя ўбачылі таго, хто перашкаджаў ударнай рабоце на будаўніцтве дарогі. **Карыкатура ўздзейнічала. За газету спрачаліся, ёю былі абклеены грузавікі, усюды на сценах вісеў «Калгаснік Мазыршчыны».** Рабочыя сабе на памяць вырэзвалі карыкатуры і партрэты ўдарнікаў. **Дзякуючы сваёй канкрэтнасці, астраце карыкатура зрабіла сваю справу.**

Газета з карыкатурай дапамагла ачысціць будаўніцтва дарогі ад класава-варожых элементаў.

Зараз паўстае пытанне, дзе-ж ў раёне знайсці мастака, рэзчыка клішэ на лінолеуме? Яго можна знайсці ў кожным раёне. Як-жа арганізаваць выраб клішэ? Уявім, што матэрыял падрыхтован, ёсць тэма і ёсць малюнак. На кавалку паперы (лепш за ўсё на палуватмане) рыхтуецца малюнак па велічыні роўны вашаму клішэ. Трэба пры гэтым мець на ўвазе, што пераведзены малюнак на клішэ атрымліваецца ў газеце наадварот. Пасля бярыце кавалак лінолеума (больш заданай велічыні) і шліфуйце, ачышчайце ад няроўнасці. Шліфаваць лепш за ўсё пемзай. Пры адсутнасці яе можна шліфаваць мелкай шкляной паперай. Шліфаваць трэба такім чынам, каб шкляная папера церлася не ў адным напрамку, а па розных кірунках, тады не будзе дарожак на лінолеуме ад кавалачкаў шкла.

**Калі лінолеум адшліфован, малюнак пры дапамозе капіроўкі пераводзіцца з паперы на лінолеум.** Трэба старацца не націскаць моцна пальцамі на малюнак, інакш будуць чорныя месцы на лінолеуме і малюнак будзе замазвацца. Лепш за ўсё малюнак прыкалоць кнопкамі да лінолеума.

Малюнак пераводзяць не алоўкам, а спецыяльным **шпяньком.** Для гэтага бярэцца звычайная іголка і вушкам забіваецца ў палачку. Пакідаецца толькі маленькі востры кончык. Яго трэба прытупіць, інакш ён будзе рэзаць паперу.

Малюнак пераведзен, зараз яго можна **вырэзваць.** Для вырэзвання ёсць спецыяльныя разцы. Яны бываюць фабрычныя, можна іх зрабіць і самому, скарыстаўшы для гэтага пруцікі ад парасона. Адрэзаўшы кавалак пруціка даўжынёй у 10-11 сантыметраў адзін канец трэба завастрыць і выгнуць так, як паказана на малюнку. Выгінаць трэба асцярожна, інакш разец можа зламацца ці расколецца. Захацеўшы мець танчэйшы разец, трэба адзін канец пруціка распаліць і сплюшчыць малатком, потым завастрыць. Там, дзе патрэбны тонкія лініі, можна карыстацца ножыкам.

Крыху складаней справа з партрэтамі. Тут трэба зрабіць так: на фатаграфію накладваецца калька (калі папера на фатаграфіі тонкая) і прыкладваецца да шкла акна. Лепш калі на фота свеціць сонца, тады выразней відаць партрэт. Прасвечаны партрэт пераводзіцца на кальку. Калі перавод зроблен, кладзіце кальку на белую паперу і папраўляйце алоўкам малюнак. Пад малюнак падкладваеце капіравальную паперу і папраўляеце алоўкам малюнак. На адвароце атрымліваецца партрэт. Малюнак на адваротным баку пераводзіце праз капіравальную паперу на лінолеум і выразаеце. Там, дзе фатаграфія не прасвечваецца (калі фатаграфія прыклеена да картону), партрэт перарысоўваецца на паперу і робіцца тое, што і з малюнкам на кальцы.

Пры вырабе клішэ трэба мець пад рукамі друкарскую фарбу, выразанае клішэ намазваецца фарбай і адціскаецца. Адбітак пакажа, дзе трэба зрабіць папраўкі на клішэ.

Такі ў нас спосаб вырабу клішэ на лінолеуме.

**П. Н. ГЕРАСІМОВІЧ.**

**г. Мазыр.**

# За хуткае і дзейснае рэагаванне на кожную рабкораўскую заметку

Тав. Постышэў у сваім выступленні на злёце рабселькораў Харкаўшчыны асабліва сур'ёзную ўвагу аддаў пытанням рэагавання на рабселькораўскія заметкі, на матэрыял, які змяшчаецца ў газеце.

**«Калі і змяшчаць рабселькораўскія заметкі, — сказаў тав. Постышэў, — ды на іх не рэагаваць, то газетная работа наогул ператвараецца ў пустую балбатню».**

21 жніўня журнал **«Большэвіцкі друк»** разам з журналам ЦК ВКП(б) **«Фабрично-заводская печать»** правялі нараду на менскім заводзе **«Большэвік»** па рэагаванню на заметкі. У гэтай нарадзе прынялі ўдзел сакратар парткома тав. **Гефен,** дырэктар завода і старшыня фабрычна-заводскага камітэта.

Пасля ўступнага слова прадстаўніка журнала «Фабрично-заводская печать» тав. **Дэмбіцкай** выступілі рэдактары газет завода.

Тав. **Мінкін,** рэдактар заводскай друкаванай газеты «Рабочае вока»:

— Я хачу спыніцца на сутнасці адказаў. У нас гэта работа пастаўлена яшчэ дрэнна. Вось прыклад. Былі заметкі ў газеце аб тым, што машыны пасля рамонту працуюць дрэнна, што кузня ніколі не прыбіраецца, што чаны працякаюць і скуры астаюцца сухімі. На гэтыя заметкі галоўны механік тав. **Буры** даў адказ: «меры прыняты». Калі-ж мы сёння праверылі, то аказалася, што нічога не зроблена, усё па-старому.

Тав. **Люблікерман —** рэдактар цэхавай газеты склада сыравіны:

— Раней у нас не адказвалі на заметкі. Гэтым пытаннем заняўся партком. Некаторыя загадчыкі цэхаў за ігнараванне рабкораўскіх матэрыялаў атрымалі вымовы. Пасля гэтага пачалі адказваць. Але як? Толькі-б з рук збыць. Адзін рабкор напісаў заметку аб тым, што ў цэху працякае дах. Сыравіна мокне, псуецца. Прайшло больш за 2 месяцы, а начальнік цэха тав. **Шэпель** на заметку адказвае — «на днях мы адрамантуем». Але гэта так і асталося толькі абяцаннем.

Профарганізацыя не рэагуе на заметкі аб рабоце грамадскіх арганізацый. Звярачаўся я і да парторга, прафорга, падводзіў іх да газеты, паказваў, прымушаў чытаць, а рэагавання няма.

Тав. **Каган —** рэдактар газеты другога хромавага цэха:

— На многія заметкі цэхавай газеты мы атрымліваем адказы ў той-жа дзень. Але гэта яшчэ не рэагаванне, а толькі фармальны адказ. Прычым не заўсёды мы атрымліваем і адказ на заметкі. У зольным аддзяленні 14 жніўня рабочыя пыталіся праз газету — чаму ім не выдаюць спецвопратку. Начальнік цэха тав. **Душацкі** не палічыў патрэбным адказаць рабочым.

Зусім інакш абстаіць справа, калі рэагуюць на заметкі рабкораў. Адзін з рабкораў напісаў, што зотаўская работа ў заняпадзе. Сакратар ячэйкі тав. **Запольскі** на гэту заметку своечасова адказаў. Ён указаў, што зроблена і што яшчэ патрэбна зрабіць. Прычым учора



**За чыткай газеты ў брыгадзе (калгас «Чырвоны спецыяліст», Менскага раёна).**

была змешчана заметка, а сёння ўжо скліікаецца нарада па пытанню зотаўскай работы. Ці дала гэта заметка штуршок у рабоце? Безумоўна, дала. Гэты факт гаворыць аб тым, што нашы насценгазеты значна дапамагаюць партыйнай і прафесіянальнай арганізацыям у іх рабоце. Трэба толькі наладзіць сапраўднае і хуткае рэагаванне на нашы заметкі.

Тав. **Грыналёр** — рэдактар насценгазеты заводскай сталоўкі:

— У нашым цэху грамадскага харчавання газета выходзіць вельмі рэдка. На змяшчаемыя заметкі не рэагуюць. Рабкоры скардзяцца — раз не рэагуюць, навошта-ж пісаць.

**Ткачоў** — начальнік клееварнага цэха:

— Я сам прымаю ўдзел у газеце. Дапамагаю ў яе рабоце. Не раз прасіў рэдактара пайсці да рабочых, каб узяць ад іх вусныя заметкі, бо рабочыя вельмі хутка рэагуюць на ўсе недахопы цэха. Іх вока пільнае. Наша газета, трэба прама сказаць, працуе слабавата. Выходзіць яна кожныя 3-4 дні. З рэагаваннем яшчэ дрэнна. У нас была заметка адносна падрыхтоўкі да зімы. Там было напісана пра дрэнную вентыляцыю, рамонт крышы, ваганетак. Мною даваліся адказы. Але трэба прызнацца, што ўся гэта работа яшчэ не зроблена. З-за іншай тэрміновай працы гэту работу адсоўваеш назад.

Падагульваючы работу нарады рэдактароў і трыкутнікаў завода «Бальшэвік», сакратар парткома тав. **Гефен** заявіў:

— Калі раней парткому прыходзілася прыцягваць да адказнасці тых, хто не рэагуе на заметкі, то зараз прыходзіцца асабліва сур'ёзную ўвагу звярнуць на тое, як рэагуюць.

Сігналы сёнешняй нарады гавораць аб тым, што паасобныя таварышы прыкрываюцца аднымі адказамі на заметкі.

Памятайце, што такога «рэагавання» партком не дапусціць.

Мы будзем такіх людзей прыцягваць да суровай партыйнай адказнасці. Мы не дапусцім, каб работу нашых газет ператвараць у пустую балбатню. Нам трэба, каб кожная заметка рабкора атрымала практычнае рэагаванне, аб якім ведалі-б усе рабочыя цэха, брыгады.

**ПРУСАК**

рэдактар палітаддзельскай газеты «Ленінскі шлях»

# „ДЗЕНЬ СЕЛЬКОРА“

**«Ленінскі шлях»** — газета палітаддзела **Прыямінскай МТС** (Барысаўшчына) — разгарнула падрыхтоўчую работу да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

Газета арганізавала і правяла **«дзень селькора»** па ўсіх сельсаветах і найбольш буйных калгасах у зоне дзейнасці МТС.

У «дзень селькора» збіраліся рэдкалегіі калгасных і брыгадных газет, селькоры, рабкоры, групы «лёгкай кавалерыі», комсамольцы, актыў калгасаў.

Якую мэту мы паставілі перад сабой, праводзячы «дзень селькора».

Па-першае, выявіць новых селькораў, прыцягнуць іх да сістэматычнай актыўнай работы ў друку, устанавіць дакладны ўлік усіх калгасных і брыгадных газет, праверыць і палепшыць іх работу, практычна дапамагчы рэдкалегіям, ачысціць рады селькораў ад кулацкіх і іншых варожых элементаў, утаіўшых свой сапраўдны твар пад маскай селькора.

Усю гэту работу мы праводзім пад лозунгам лепшай падрыхтоўкі да рабселькораўскага з'езда.

«Дзень селькора» дапамог нам умацаваць і папоўніць актыў палітаддзельскай газеты лепшымі калгаснікамі-ўдарнікамі, прыкаваў увагу калгасных мас да работы нізавога друку.

Па Веляціцкаму сельсовету «дзень селькора» праводзіўся ў буйнейшым калгасе сельсовета «Ўсход». Прыняла ўдзел уся моладзь калгаса, калгасны актыў. Пасля 9 калгаснікаў сталі актыўнымі селькорамі палітаддзельскай газеты.

Палітаддзельская газета «Ленінскі

шлях» пачала выходзіць зусім нядаўна, у ліпені. Але ўжо на сёнешні дзень яна налічвае 60 селькораў, якія прымаюць пастаянны і непасрэдны ўдзел у рабоце палітаддзельскай газеты і нізавога друку.

Выпуск насценгазет у калгасах падвоіўся, значна павысілася таксама падпіска на палітаддзельскую газету. Калі на жнівень мы мелі 800 падпісчыкаў, то на верасень ужо ёсць звыш 1000.

У «дзень селькора» мы выявілі рад нядрэнных калгасных газет. Вось, напрыклад, насценгазета **«Палітаддзелец»** гэтага-ж калгаса.

З першых дзён сваёй работы яна падзелавому напорыста ўзялася за справу. Яна добра вяла работу па ўборцы ўраджаю.

**«Пры ўборцы і абмалоце не павінен быць страчаны ні адзін колас, ні адно зярно»,** — пісала газета.

Гэтыя словы газета «Палітаддзелец» ператварыла ў канкрэтную справу. Яна дапамагла калгасу своечасова і без страт убраць ураджай, разлічыцца з дзяржавай па ўсіх пастаўках і першым у раёне здаць 76 кілограм ільнавалакна.

«Палітаддзелец» не спыніўся на першых рэзультатах, не захапіўся дасягнутымі поспехамі. З нумара ў нумар газета змагаецца за далейшае ўмацаванне калгаса, яна выявіла варожыя элементы, якія схаваліся ў калгасе і прабавалі затармазіць яго рост.

Заслуга насценгазеты «Палітаддзелец» у тым, што яна не забывае пра працоўных аднаасобнікаў—заўтрашніх калгаснікаў. Яна дапамагае арганізаваць новы калгасны прыліў. За апошні час у калгас уступілі 30 новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Насценгазета абрасла моцным актывам. У кожным нумары «Палітаддзельца» лепшыя калгаснікі і калгасніцы, брыгадзіры, інспектары па якасці выступаюць па тых ці іншых пытаннях, абменьваюцца вопытам работы.

Інспектар па якасці 65-гадовы калгаснік Герасім Баско стаў актыўным селькорам. Ён праз сваю калгасную газету змагаецца за моцную працоўную дысцыпліну. Гэта пытанне — тэма яго заметак. «Палітаддзелец» нядрэнна афармляецца, кожная заметка мае фарбавы загаловак, што прыцягвае ўвагу чытача.

На кожную заметку даецца адказ. Ні адна заметка не асталася без рэагавання.

Мы пераносім вопыт «Палітаддзельца» ва ўсе іншыя калгасныя газеты.

УБОРКУ ПРАВЕСЦІ БЕЗ СТРАТ

МЫ ПАТРАБУЕМ:

**На барацьбу са стратамі ўраджаю. Гэтаму важнейшаму пытанню рагачоўская раённая і палітаддзельская газеты прысвяцілі спецыяльны макет для калгасных насценгазет.**

# Пра надуманасць і лішнія словы

> **«Правилу следуй упорно:**
> **Чтобы словам было тесно,**
> **Мыслям просторно»**
> **(НЕКРАСАЎ).**

**«Справа з улікам працадзён у калгасе яўна накіравана на кулацкую тэндэнцыю — падарваць працоўную дысцыпліну і разваліць калгас знутры»** — піша **«Рэчыцкая праўда»** ў заметцы «Чаму калгас «Чырвоная зорка» плюцецца ў хвасце». Трудна калгасніку дабрацца да сэнсу гэтага выразу.

Але не лягчэй і чытачу суражскай газеты **«Ударнік»**. Тут загалоўкі і «шапкі» часамі падаюцца ў такім «высокім стылі»:

> **«Ушчэнт разбіць антымеханізатарскія настроі і спажывецка-ўтрыманчэскія тэндэнцыі».**

Далей ідзе загаловак:

> **«Аб праявах спажывецка-ўтрыманчэскіх тэндэнцый у калгасе імя Будзённага».**

А на чацвертай паласе даецца такая «шапка»:

> **«Райспажыўсаюз і райза ўсё яшчэ пад спудам душаць голас рабселькора».**

Адным словам казёншчына плюс бязграматнасць.

І гэта, па думцы работнікаў «Ударніка», называецца гаварыць з калгаснікам на даступнай яму, зразумелай і папулярнай мове.

**
*

У беларускай мове ёсць слова сяўба. І пішуць. «сяўба набліжаецца», «сяўбу скончылі своечасова» і т. д.

Асобным работнікам раённых газет гэтае слова не па густу. І ў выніку ў рэдагуемых імі газетах прапускаюцца такія выразы: **«сеў на ўгноенай зямлі», «сеў у аднавор» і т. д.** Даходзіць часамі да цэлых казусаў, калі асобныя газеты паведамляюць чытачу, што **«сеў на носе».** Чытач, разабраўшыся ў заметцы, зразумела здагадаецца, што тут ніхто на нос не садзіцца, а што гутарка ідзе пра сяўбу.

Раім клімавіцкай **«Комуне»**, якая дапускае такія скажэнні слова «сяўба» ў двух побач змешчаных заметках за 25 жніўня, не займацца падобнымі наватворамі і не заблытваць чытача.

**
*

Да апошняга часу многія газеты блытаюць два словы **«абараняць»** і **«забараняць»**. У перакладзе на рускую мову слова **«абараняць»** азначае **«защищать»**, а слова **«забараняць»** — **«запрещать»**. Ніяк не могуць зразумець гэтай ісціны работнікі чырвонаслабодскай газеты **«Калгаснік»**. І блытаюць, блытаюць так, што скажаюць і калечаць увесь змест.

Даходзіць да буйных палітычных памылак. Так, 19 жніўня, гаворачы аб рэвалюцыйнай пільнасці калгасных мас, работнікі рэдакцыі напісалі:

> **«Яны не толькі ўмеюць будаваць соцыялізм і сваё заможнае жыццё, але і забараняць соцыялізм, забараняць сваю радзіму».**

І гэта ў перадавым артыкуле!?..

**
*

Камарынская раённая газета **«Калгасны сцяг» не ў ладах з граматыкай.** 5-га жніўня ў газеце быў надрукаван наступны загаловак:

> **«Аб ходзе спаборніцтва паміж калгаснікаў і сельсоветаў».**

Трэба было сказаць «паміж калгаснікамі і сельсоветамі». Аднак, гэту памылку газета паўтарыла таксама 15 жніўня. І, як не дзіўна, паўтарыла свой ляпсус і 23 жніўня. Таксама як і раней. Проста хоць пункт па ліквідацыі малаграматнасці адкрывай пры газеце.

**
*

Рад раённых газет асабліва папулярызуюць слова **«праводзіць».** Ставяць гэтае слова і к месцу й не к месцу. Замест таго, каб сказаць у загалоўку: «Як трэба мачыць лён», рэдакцыя **«Калектывіста Расоншчыны»** чамусці абавязкова абюракрачвае фразу і піша: **«Як трэба праводзіць мочку ільну».**

Пухавіцкая палітаддзельская газета **«СТАЛІНЕЦ»** ніяк не можа даць «шапкі» без слова «праводзіць». **«У калгасе «Чырвоны будзўнік» шкоднікі праводзяць сяўбу»** (№ 52 за 22 жніўня). А калгаснік выказаў-бы гэту думку проста:

**«У калгасе «Чырвоны будаўнік» сеюць па-шкодніцку».**

Як бачыце сказ спрашчаецца і лішнія словы набіраць не трэба.

**
*

Не шанцуе рагачоўскай газеце **«Комунар»** на добрыя і пераканаўчыя «шапкі». То яна паўтарае заезджаныя і надакучыўшыя «шапкі» — загады, накшталт **«Спыніць таптанне на месцы»** (такую «баявую» шапку даў «Комунар» у нумары за 5 жніўня), то ў захапленні падае такую «шапку»: **«Каналы страт трымаюць адкрытымі».** Пад гэтай «шапкай», якая надрукавана ў «Комунары» за 30 жніўня, падаецца заголовак, які таксама нібы прэтэндуе на «арыгінальнасць»:

**«Бракаробства малых і вялікіх маштабаў».**

Каму патрэбна гэта надуманасць у масавай калгаснай газеце? Замест таго, каб сказаць **«У калгасе «Першае мая» вялікія страты»** вы мудруеце: **«Каналы страт трымаюць адкрытымі».** Ці не лепш без гэтага арыгінальнічання?

**
*

Абсурдныя скарачэнні слоў не спыняюцца. Імі стракацяць не толькі старонкі раённых газет накшталт **«Калгасніка Капыльшчыны»,** якія проста здзекуецца з чытача, падаючы яму такую, напрыклад, скарочаную «шапку». «Поўнасцю выкарыстаць працудзел і гужпавіннасць» (№ 105 ад 26 жніўня).

За апошні час хваля скарачэнняў дакацілася і да рэдакцый цэнтральных газет. **«Калгаснік Беларусі»** некалькі раз друкуе абвестку такога зашыфраванага зместу:

**«Магілеўская школа БУДВУЧ Захукрчыгдарбуду абвяшчае асенні набор...»**

Работнікі з «Калгасніка Беларусі» скажуць, што гэта няўдалае скарачэнне дапушчана ў абвестцы. Але-ж дазвольце, таварышы. Абвестка таксама друкуецца для таго, каб яе чыталі і разумелі.

**
*

**«Фінплан нахай выконвае той, хто атрымаў прэмія, а я прэмія не атрымаў...»** — піша ў адной з заметак лельчыцкая раённая газета **«Калгаснік на варце».**

Смалявіцкая раённая газета **«Шлях калектывізацыі»** слова **«пахучы»** замяняе сваім **«духавіты».**

**«Больш 800 пудоў сухога і духавітага сена пяжыць яшчэ не ўбраным на пугу».**

Не астаўся ў даўгу і **«Калгаснік Карманшчыны».** У яго хоць няэначныя адценні, а ёсць. Напрыклад, «Калгаснік Карманшчыны» не прызнае слова **«штраф»** і піша не інакш як **«штрап».**

**«Злосных сабатажнікаў трэба штрапаваць — але-ж трэба паглядзець, каго і за што штрапаваць».**

І гэта не простая апіска, а цвёрдае пераконанне, што слова «штраф» пішацца праз літару «п».

Вучань пачатковай школы, які будзе чытаць гэту заметку, у праве паслаць рэдактару запытанне: «Дазвольце, каму-ж верыць — школе і настаўніку, ці рэдактару раённай газеты?».

Паменш, таварышы, навадняйце жывую мову архаізмамі і падслуханымі ад бабулек правінцыялізмамі. Не «штрапуйце» чытача «духавітым сенам».

**
*

Алексей Максімавіч Горкі пісаў: **«Барацьба за ачышчэнне кніг ад «няўдалых фраз» таксама неабходна, як і барацьба супроць моўнай бяссэнсіцы. З вялікім сумам прыходзіцца адзначыць, што ў краіне, якая так паспяхова ў агульным узыходзіць на вышэйшую ступень культуры, мова ўзбагацілася такімі недарэчнымі слоўцамі і пагаворкамі, як, напрыклад, «мура», «буза» «валыніць», «ша-**

**мацьі», «дай піць», «на вялікі палец з прысыпкай», «на яць».**

Гэтыя заўвагі тав. Горкага неабходна яшчэ і яшчэ раз прачытаць работнікам і горацкай, і клімавіцкай, і глускай раённых газет, якія бязлітасна каверкаюць жывую мову калгасных мас.

Клімавіцкая **«Комуна»,** напрыклад, замест слова **«зберагчы»** стала ўжываць **«збярэч»,** горацкая газета **«Ленінскі шлях»** адну са сваіх пяцікалонных «шапак» падае так:

> **«Не дапускаць пералежкі ільна на стлішчы, ліквідаваць прарыў у яго апрацоўке».**

**«На стлішчы»,** замест **«на сцелішчы» апрацоўке»** замест **«апрацоўцы».** Яшчэ далей пашла глуская раённая газета **«Сцяг калектывізацыі».** Яна пачала папулярызаваць на сваіх старонках такія недарэчныя выразы, як «на большой палец».

Праўда, гэты, з дазволу сказаць, выраз, «прыстасаваны да мясцовых умоў»: ён перакладзен на беларускую мову.

**«У мяне ўсё на вялікі палец» — хваліцца загадчык участка «Труд»** — піша газета і тут-жа ад сябе дадае: **«Паменш мерайце, тав. Шаўрук, на вялікі палец, а пабольш рабіце на справе».**

Ці не час ужо, таварышы, адмовіцца ад недарэчных слоў на старонках газеты?

# „Вада“ у газеце

Колькі раз прыходзіцца чуць скаргі работнікаў раённага і палітаддзельскага друку на малы размер газет, які не дае часта магчымасці асвятліць многія пытанні. Нельга сказаць, што гэтыя выказванні нічым не абгрунтаваны. Бурны гаспадарчы і культурны рост нашай вёскі высунуў цэлы рад новых пытанняў, якія хвалююць калгасніка, на якія калгаснік шукае адказу ў раённай і палітаддзельскай газеце.

Але як неэканомны бываюць многія рэдактары ў скарыстанні той газетнай плошчы, якая ім дана!

Не будзем ужо гаварыць аб змяшчэнні ў радзе раённых газет мноства доўгіх афіцыяльных матэрыялаў аж да пратаколаў розных раённых установ. Няма сумнення, што газета зусім нічога не страціла-б, калі большая частка такіх матэрыялаў не з'яўлялася на яе старонках.

Сёння ў нас гутарка аб другім. Мы хочам указаць рэдактарам газет, як крадуць у іх газетную плошчу шматлікія лішнія словы.

Возьмем **веткаўскую** раённую газету **«За большэвіцкія тэмпы».** Бярэм нумар за 29 жніўня. На першай паласе другі радок «шапкі» гучыць так:

> **«Забяспечыць большэвіцкія тэмпы ў правядзенні гэтых важнейшых работ».**

Гэта «шапка» пабудавана няўдала. Яна нагадвае выраз, узяты з пратакола. А між тым, «шапку» лёгка можна ажывіць, напісаўшы **«большэвіцкімі тэмпамі правядзем гэтыя важнейшыя работы».** З'эканомілі два слова, і «шапка» ад гэтага толькі выйграла.

Газета ў тым-жа нумары піша:

> **«Зусім не распачата сяўба аднаасобным сектарам»...**

Пазбавіцца ад канцылярскага звароту гэтай фразы можна таксама лёгка, напісаўшы

> **«Аднаасобнікі яшчэ не пачалі сяўбу»**

Тут-жа далей у газеце чытаем

> **«Зараз соўгас прыступіў да правядзення сяўбы азімых»**

Зноў канцыляршчына. Зусім не трэба пісаць «прыступілі да правядзення сяўбы», калі лепш напісаць увесь сказ так:

> **«Соўгас пачаў азімую сяўбу».**

Яшчэ адзін прыклад. Газета піша:

> **«Паспяховае выкананне гэтых участкаў сельска-гаспадарчых работ»**

Слова «участкаў» тут зусім лішняе.

Усе гэтыя прыклады ўзяты толькі з **аднаго** нумара газеты «За большэвіцкія тэмпы». А колькі непатрэбных лішніх слоў, нават лішніх сказаў можна налічыць у камплекце газеты хоць-бы за месяц. Гэта лішняя слоўная лухта не толькі засмечвае мову газеты, робіць яе дубовай, пратакольнай, але і разбазарвае плошчу газетнага ліста, якая так патрэбна, так дарага.




**«ЧЭМПІЁНЫ СПЛАВУ».**

Да апошняга часу грамадскасць ведала толькі адно значэнне слова «чэмпіён». Гэта слова ўжывалі тады, калі гутарка ішла аб спартыўных спаборніцтвах. Слоўнік іншаземных слоў дае такое тлумачэнне: «Чэмпіён — першы паміж прадстаўнікамі дадага віду спорта».

Рэдакцыя шматтыражкі бабруйскага леспрамгаса і РК саюза лесасплаву **«Сацыялістычны лесасплаў»** прытрымліваецца асобнай думкі. 2 верасня замест звычайнай «дошкі гонару» лепшых сплаўшчыкаў рэдакцыя надрукавала на старонках сваёй газеты дошку **«чэмпіёнаў сплаву»**. І занесла на гэту «дошку чэмпіёнаў» тры брыгады: Бараноўскага, Казыра і Сушкова.

Будзем чакаць, што ў бліжэйшы час на старонках газеты «Сацыялістычны лесасплаў» з'явяцца «чэмпіёны лесарубаў» «чэмпіёны вывазкі», і нават «чэмпіёны прыёмкі» лесу.

**КАЛЕКЦЫЯ ПАМЫЛАК.**

Лельчыцкая раённая газета **«Калгаснік на варце»** друкуецца ў сваёй уласнай друкарні. Аднак, тая выключная няграматнасць, ад якой спракаты старонкі раённай газеты, не дае права сказаць, што лельчыцкая друкарня падпарадкавана інтарэсам газеты.

Падамо на выбар грубейшыя скажэнні слоў толькі ў адным матэрыяле раённай газеты за 8 верасня: «запіске», «места», «праверая», «шлякам», «паручылі», «налажыць на цэлы шэраг калгаснікаў штрафаў», «самымнпусціліся», «праўлеаню», «штрафоў», «калгаснікоў», «вымаву», «палітычнус», «на месце», «паручыць тт. Скурату і Тураўскаму навучыць прычыны адставання калгаса з года ў год», «арганізазаў», «пераломy ыалгасу», «адміністрыравмнем».

Такімі «перламі» ўпрыгожана пастанова РК КП(б)Б і палітаддзела МТС. Устае пытанне: хто каму падпарадкаван: друкарня інтарэсам газеты, ці газета няграматнаму карэктару?

**КАЛІ ЛЮДЗІ НЕ ЖАДАЮЦЬ ДУМАЦЬ**

Пагоня за звышарыгінальнасцю — характэрная рыса рэдактара жыткавіцкай газеты **«Прымежны комунар»**. Ён дае, напрыклад, наступную «шапку»:

«У РАЙСПАЖЫЎСАЮЗЕ САМАКРЫТЫЦЫ ЎВАХОД ЗАБАРОНЕН І АДЧЫНЕНЫ ДЗВЕРЫ ПРАРЫВАМ».

Не асабліва адстае і тав. **Фонкац** з **«Сацыялістычнай перамогі»** (Чэрыкаў). Ён прапануе калгаснікам засяваць палі



не адсартаваным збожжам, а **нарастаючымі тэмпамі».**

Не спяшаецца палепшыць якасць «шапак» раённай газеты і тав. **Лявоненка** — рэдактар крупскай раённай газеты **«Комуністычны шлях»**:

«САБАТАЖ ФІНПЛАНА ПАЧЫНАЕЦЦА АД БАЧЫШЧЫ, ШЫШПАРА, САСА».

Гэта «шапка» 1-й паласы. У чым яе сэнс? А ну, чытач, здагадай.



4

## КРЫВОЕ ЛЮСТРА ЧЭРВЕНЬСКАГА ФОТАКАРЭСПАНДЭНТА

Неабмежаваныя здольнасці ў чэрвеньскага фотакарэспандэнта газеты **«Калгаснік Беларусі»**. Сіла яго аб'ектыва «цудоўная». Навёў апарат на лежабока, гультая і ў газеце з'явіцца лепшы з лепшых ударнікаў, актыўны барацьбіт са стратамі ўраджаю.

Аднойчы, як перадаюць чэрвеньскія таварышы, у раённай газеце **«Калектывіст»** быў надрукаван матэрыял аб злачынных стратах ураджаю ў калгасе **«Большэвік»**. Было гэта 22 ліпеня. Матэрыялы раённай газеты папалі ў цэль. Народны суд пакараў вінаватых. Брыгадзір **Тарасік** асуджан на 3 гады прымусовых работ, калгаснік **Ямін** — на 6 месяцаў.

Але падаспеў фотакор, які пражывае ў Чэрвені і не мог не ведаць у чым справа. Ён шле фотаздымак у газету «Калгаснік Беларусі». Праз дзесяць дзён уся БССР ужо ведае, што ў калгасе «Большэвік» жывуць і працуюць актыўнейшыя барацьбіты са стратамі ўраджаю і што там ёсць калгаснік Ямін, які **«на жняярцы дае добрую якасць рэботы і перавыконвае норму»**.

Так лаканічна паведамляе подпіс пад 2-хкалонным «фота **Я. Салавейчыка»**.

Каментарыі не патрэбны.

Рыс. А. МАЛЕВІЧА



Фокусы чэрвеньскага фото-карэспандэнта «Калгасніка Беларусі».

—⊙—

# Ініцыятыва практыка вопыт

◆ **Дзесяцігадовы юбілей старэйшай у раёне насценгазеты «Наш селькор»** адсвяткавалі гэтымі днямі кабаноўскія селькоры Жлобінскага раёна. За дзесяць год насценгазета выхавала дзесяткі актыўных селькораў — лепшых памочнікаў партыйнай арганізацыі ў выкананьні важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній. Пры актыўнай дапамозе селькораў і насценгазеты на кабаноўскіх хутарах арганізован калгас «Комуніст». Нядаўна па матэрыялах насценгазеты выкрыт і выгнан з селькораўскіх радоў і з комсамола кулак Гальмак.

Рэдкалегія старэйшай у раёне і сельсавеце насценгазеты актыўна дапамагае ў выданні насценгазет у вакольных калгасах.

◆ **100 нумароў друкаванай газеты на дарожным будаўніцтве выдала выязная рэдакцыя «Калгасніка Беларусі».** Выязная рэдакцыя правяла вялікую работу па паляпшэнні грамадскага харчавання на ўчастках і культурна-бытавога абслугоўвання рабочых.

Значную работу правяла газета ў разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва на дарожным будаўніцтве і ў папулярызацыі соцдагавора БССР з Чувашыяй

◆ **«Калгаснік на варце»** — лельчыцкая раённая газета правярае, як ажыццяўляюцца калгасамі прапановы селькораў аб стварэнні калгасных хат-лабараторый. Газета адзначае пачын селькораў з калгаса **«Чырвоны барэцьбіт»** і **«Новае жыццё»**, якія яшчэ ў красавіку выступілі ў насценных газетах з папулярызацыяй прапановы тав. Постышэва аб стварэнні калгасных хат-лабараторый. Праўленні калгасаў не падхапілі гэтай ініцыятывы селькораў. Рэдакцыя правяла гутарку з работнікамі райземаддзела і выявіла, што ні адна з селькораўскіх прапаноў не ажыццёўлена і па гэты час. Газета патрабуе ад работнікаў палітаддзела МТС і райземаддзела забяспечыць стварэнне ў кожным калгасе сваёй хаты-лабараторыі.

◆ **«За месца на ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў»** — пад такой назвай вышаў


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

ЮНЫ СТАЛІНЕЦ

ПІОНЕРСКАЯ ГАЗЕТА

Палітаддзела Капыльскай МТС

№ 1 Аўторак 4 верасня 1934 г.

**Піонеры і калгасныя рэбята Капыльскага раёна!**

**Піонеры і вучні**

**Вучыцца на „выдатна“**

**Сабралі 150 кгр. каласоў і на 159 руб. лекавых траў.**

**Сапапей Зіна, Кейтковіч Вера і Кузміч Юрка.**

Будзь гатоў!

Першая старонка палітаддзельскай дзіцячай газеты Капыльскай МТС.

◆◉◆

ужо другі нумар друкаванага бюлетэня ў Буда-Кашалёве. Бюлетэнь прысвечан падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Выдаюць яго рэдакцыя раённай газеты **«Ленінскі шлях»** і палітаддзельская газета **«Сцяг Леніна».** Задачы бюлетэня — дапамагчы рабселькорам і рэдкалегіям нізавых газет у падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

У кожным нумары друкуюцца матэрыялы аб падрыхтоўцы рэдкалегій насценгазет да з'езда, даецца агляд работы насценгазет калгасаў.

◆ **Старадарожская раённая і палітаддзельская газеты** разаслалі ўсім селькорам раёна друкаванае пісьмо аб узмац-

нешні падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. У пісьме рэдакцыі мабілізуюць селькораў на выкананне канкрэтных вытворчых задач, што з'яўляюцца лепшым паказальнікам іх ударнай работы і баявой падрыхтоўкі да з'езда.

Адначасова рэдакцыі паведамляюць селькору аб дні яўкі на сельсовецкі злёт селькораў.

◆ **«Сёння ў раёне»** — пад такім загалоўкам друкуе ў кожным нумары хроніку па раёну горацкая газета **«Ленінскі шлях».** Сярод заметак гэтага аддзела рад рознастайных пытанняў. Тут і пытанні будаўніцтва новых школ, і прыліву ў калгасы, і заметкі аб новай партыі промтавараў для калгасаў раёна, і невялічкія паведамленні аб канферэнцыі настаўнікаў, і аб надыходзячай сельска-гаспадарчай выстаўцы. Выкананне раёнам фінплана, ход сіласавання ў буйнейшых калгасах раёна, работа спажывецкай кааперацыі, падрыхтоўка культурна-асветных устаноў раёна да зімовай вучобы — усё гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў невялікіх заметках пастаяннага аддзела газеты «Сёння ў раёне».

◆ **Прадз'ездаўскую пераклічку рэдактароў цэхавых і брыгадных насценгазет** праводзіць шматтыражка бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната **«За ўдарныя тэмпы».** Задача пераклічкі — вопыт лепшых насценгазет камбіната зрабіць здабыткам усяго шызавога друку завода.

◆ **«Большэвік Барысаўшчыны» ўключыўся ва ўсесаюзную вытворчую нараду па пытанню жывёлагадоўлі.** Рэдакцыя звярнулася да партыйных і совецкіх арганізацый, да ўсіх соўгасаў, калгасаў і рабселькораў раёна з заклікам дапамагчы перадаць лепшы вопыт работы калгасных ферм усім фермам і калгасам раёна.

◆ **«Ударнік»** — газета гомельскай абутковай фабрыкі **«Праца»** — разгортвае соцспаборніцтва паміж газетамі і рабкорамі фабрыкі на лепшую падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Газета пачынае друкаваць матэрыялы рэдактароў цэхавых і брыгадных газет аб іх падрыхтоўцы да надыходзячага з'езда. Рэдактар штодзенкі тав. **Карабельнікаў** праз заводскую шматтыражку абавязвацца зрабіць штодзенку аператыўнай і масавай, добраякасна афармляць яе, павялічыць лік рабочых ударнікаў, удзельнікаў газеты.

◆ **«Ударнік леса»** — газета Чэрвеньскага леспрамгаса — пачала падрыхтоўку да ўсебеларускага злёта знатных людзей лесу, сплаву і падсочкі. 6 верасня вышаў 41 нумар газеты са спецыяльнай старонкай вопыта работы лепшых ударнікаў лесу і сплаву Чэрвеньшчыны.

## ШТО НОВАГА ў палітаддзельскім друку

✱ **Селькораўскі рэйд па праверцы ў сельпо вагаў, гір і правільнасці цэн** праводзіць палітаддзельская газета Рагачоўскай МТС **«За большэвіцкія калгасы».** Селькоры калгаса «Ленінскае жыццё» выкрылі буйныя злоўжыванні ў кааператывах Дварэцкага сельсовета.

Рэйд праводзіцца па ўсіх крамах, якія абслугоўваюць калгасы зоны МТС.

✱ **«Палітаддзельская праўда»** — газета палітаддзела Полацкай МТС, уключыўшыся ў падрыхтоўку да III ўсебеларускага з'езда рабселькораў, разгортвае спаборніцтва калгасных насценгазет па лепшае і хутчэйшае завяршэнне ўборкі і выкананне плана паставак дзяржаве сельска-гаспадарчай прадукцыі. Рэдакцыя газеты палітаддзела абавязалася лепшы вопыт работы насценгазет і селькораў перадаць праз старонкі «Палітаддзельскай праўды» насценгазетам і селькорам усяго раёна.

✱ **Двухдэкаднік абмену вопытам работы калгасных і брыгадных партарганізатараў** праводзіць газета палітаддзела Буда-Кашалёўскай МТС **«Сцяг Леніна».** Праз свае старонкі газета павінна расказаць, як лепшыя партарганізатары раёна кіруюць работай у калгасах і брыгадах, паказаць формы і метады іх работы па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў.

✶ **Лісткі баявой трывогі,** сігналізуючыя аб адставанні таго ці іншага калгаса, выдае газета палітаддзела Пухавіцкай МТС **«Сталінец».** Адначасова рэдакцыя газеты практыкуе выданне і рассылку ў калгасы друкаваных паведамленняў. Нядаўна рэдакцыя разаслала ў калгасы паведамленне № 2, якое знаёміць калгаснікаў з парадкам здачы бульбы (паведамляюцца цэны на бульбу, спіс прыёмачных пунктаў і станцый). Лістоўка мабілізуе калгаснікаў на хутчэйшую здачу бульбы: «Да 15 жніўня цана на бульбу 90 руб., з 16 па 31 жніўня — 60 руб., з 1 верасня — 36 руб. за тону». Адначасова даецца падрабязнае тлумачэнне, якой павінна быць так званая стандартная бульба (памер, гатунак, якасць).

✶ **Жлобінскі РК КП(б)Б і палітаддзел МТС праводзяць агляд нізавога калгаснага друку.** У агляд уключаецца ўвесь селькораўскі актыў. Селькоры мабілізуюцца на дапамогу партыйным арганізацыям у хутчэйшым завяршэнні плана хлебапаставак і асенняй сяўбы. Штодзенная дзелавая работа селькораў праводзіцца пад лозунгам барацьбы за права атрымаць мандат на ўсебеларускі з'езд рабселькораў.

✶ **Дзве новыя друкаваныя палітаддзельскія газеты — «Палітаддзельская праўда»** Асвейскай МТС і **«Палітаддзельскі кліч»** Лёзненскай МТС — пачалі выдавацца з 1 жніўня. «Палітаддзельская праўда» з першага-ж нумара па-аператыўнаму ўключылася ў падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

✶ **«За бальшэвіцкія калгасы»** — газета палітаддзела Рагачоўскай МТС — выдала **макет сігнальных лісткоў па барацьбе са стратамі.** Макеты разасланы рэдкалегіям калгасных і брыгадных насценгазет. Запаўняецца сігнальны лісток заметкамі лепшых ударнікаў барацьбы за якасць уборкі, хлебапаставак і асенняй сяўбы. Увесь матэрыял афармляе рэдкалегія брыгаднай насценгазеты і інспектар па якасці.

✶ **Знатных людзей калгасных палёў** палітаддзел Слуцкай МТС будзе заносіць у **чырвоную кнігу.** Гэту ініцыятыву палітаддзела шырока папулярызуе палітаддзельская газета **«За тэмпы і якасць».**

Капыльская палітаддзельская газета **«За бальшэвіцкі калгас»** надрукавала і разаслала ва ўсе калгасы паведамленне аб тым, што палітаддзел завёў **кнігу гонару** лепшых ударнікаў калгаснай гаспадаркі.

Для тых калгасаў, якія даб'юцца права быць занесенымі ў кнігу гонару, рэдакцыяй палітаддзельскай газеты будуць арганізаваны к 18 гадавіне Октябрскай рэвалюцыі выстаўкі дасягненняў калгасаў з апісаннем гэтых дасягненняў, з паказам работы старшынь калгасаў, перадавых брыгадзіраў, звеннявых, рэдактароў насценгазет, селькораў і калгаснікаў-ударнікаў.

# У ПАЛІТСЕКТАРЫ МТС НАРКАМЗЕМА БССР

✶ **62 палітаддзельскія друкаваныя газеты** для калгаснікаў выдаюцца зараз палітаддзельцамі МТС Савецкай Беларусі. Не маюць сваіх друкаваных газет пакуль толькі 9 палітаддзелаў МТС.

✶ **Расце баявое папаўненне юнацкага друку БССР**—палітаддзелы МТС разгарнулі выданне палітаддзельскіх **дзіцячых газет.** Следам за **«Юным ленінцам»**—дзіцячай газетай Аршанскай МТС—пачаў выдаваць надзвычай цікавую газету **«Піонерская звязда»** і палітаддзел Цялушскай МТС, Бабруйскага раёна. Сіроцінская МТС сумесна з Шумянскай узорнай сярэдняй школай выдаюць дзіцячую газету **«Юны ленінец».**

4-га верасня вышаў першы нумар піонерскай газеты палітаддзела Капыльскай МТС **«Юны ленінец».** Палітаддзел Чашніцкай МТС выдае дзіцячую друкаваную газету **«Па сталінскаму шляху».**

✶ **Вылучыць лепшыя агульна калгасныя і брыгадныя газеты на ўсесаюзную чырвоную дошку,** арганізуемую ў журнале **«Районная и политотдельская печать»,**— такое ўказанне рэдкалегіям палітаддзельскіх газет даў палітсектар МТС. На чырвоную дошку па прадстаўленню палітаддзелаў будуць заносіцца лепшыя палітаддзельскія калгасныя і брыгадныя газеты, якія паказалі найлепшыя ўзоры масавай арганізатарскай работы па ўборцы і хлебапастаўках, у правядзенні асенніх сельска-гаспадарчых работ.